№ 24 (233) 11 чэрвеня 2001 г.

НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ТУПІК МАШЭРАВАЙ

Усё пра кандыдатку, якая будзе ў меру сілаў дапамагаць Лукашэнку пераабрацца на новы тэрмін.

Старонка 3.

# Былінны багатыр

*Учора ў Доме вэтэранаў у Менску адбыўся сход ініцыятыўнай групы па вылучэньні ў кандыдаты экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра*

*Чтобы жизнь не проходила зря,*
*Голосуй, мой друг, за Чигиря!*
**Песьня часоў кампаніі 1999 г.**

Сход меўся пачацца а 12-й, але пачалося ўсё са спазьненьнем на гадзіну. У фае ляжалі перадвыбарныя ўлёткі кандыдата. Чыгіровыя інтэрвію на іх былі датаваныя самае позьняе 1999 г. Відаць, яны засталіся з папярэдняй кампаніі, дык, каб не прападала... Будучыя зьбіральнікі подпісаў — у асноўным людзі блізу 40 гадоў, прадстаўнікі інтэлігенцыі, апранутыя сьціпла. Быў, праўда, і дзясятак студэнтаў анархічна-неахайнага выгляду, і немалы адсотак прыгожых даўганогіх дзяўчат. Рэй ва ўсім вяла ня менш прыгожая Юлія Станіславаўна Чыгірова. Вось каб у прэзыдэнты выбіралі парамі...

Заля сустракала тужлівымі шлягерамі "Песьняроў", збольшага па-расейску, як і ўсё мерапрыемства.

На сходзе Міхаіл Чыгір не прысутнічаў. Ён зьехаў у Маскву, каб выступіць увечары на ОРТ у праграме *"Времена"*.

Распачаў мерапрыемства Анатоль Паўлаў, колішні дэкан хімфаку і прарэктар БДУ, а цяпер – старшыня прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі Менску. Ён абвесьціў, што усе прысутных тут аб'ядноўвае "сьвятая мэта — зрабіць Рэспубліку шчасьлівай" і распавёў публіцы пра прысутных у залі высокіх гасьцей, якія падтрымліваюць Чыгіра: народнай артысткі Беларусі Станіславы Гулевіч, дачкі слаўнага партызана Музы Заслонавай, Станіслава Багданкевіча, праваабаронцы Гары Паганяйлы, прадпрымальнікаў Анатоля Трухановіча і Валер'я Леванеўскага.

Працяг на старонцы 2.

# НЕПРЫГОЖАЯ ГАЗЭТА БЕЗ КАРЦІНАК?

## Дык падпісвайцеся!

***Калі Вы не падпішацеся, дык газэта заўжды будзе такая непрыгожая, бо ў яе ня будзе грошай на ілюстрацыі.***

**Падпісны індэкс 63125.**
**Падпіска на месяц каштуе 929 рублёў.**
**Для менчукоў на шапік «Белсаюздруку» — 760 рублёў.**

**Падпіску на «НН» прымаюць на любой пошце, у многіх шапіках «Белсаюздруку». Менчукам вельмі зручна падпісвацца «на шапікі» — таньней, і газэту можна забіраць у панядзелак.**

**ПАДПІШЫСЯ САМ,**
**ПАДПІШЫ СУСЕДА**
**І СУСЕДНЮЮ ШКОЛУ!**

***Гэта важна для Вас, гэта важна для газэты Вашай душы!***

«Наша Ніва» — гэта 12 старонак інфармацыі і камэнтароў пра падзеі ў Беларусі і сьвеце штотыдня, гэта паўнакроўная беларуская культура, гэта жывы голас незалежнага беларускага грамадзтва. Аўтары і чытачы «Нашай Нівы» разам твораць краіну.

# "Чево-чево?", або Рэакцыі на культурную дыскрымінацыю

*Ад рэдакцыі*

**У газэту прыйшоў вось такі ліст:**

**«Вітаю! Пачну здалёк. У Варшаве на будынку, дзе знаходзіцца індыйская рэстарацыя, нехта з польскіх фашыстаў напісаў "Польска для палякаў". Няма сумневу ў тым, што гэта лёзунг скінгедаў, і разумныя, адукаваныя людзі павінны разумець цёмнасьць і шкоднасьць падобнага сьветапогляду. Ня кажучы ўжо пра тое, што толькі ультраправыя мэдыі прынялі б гэта за норму і выкарысталі без камэнтараў.**

**Сёньня я атрымала травеньскія нумары "НН" (сябры дасылаюць зь Менску раз на месяц). Чытаючы №18, я заўважыла невялічкі артыкул на старонцы 3 "Вынікі галасаваньня чытачоў "НН" на сёньня". Першы па папулярнасьці дэвіз, пад якім мусіць ісьці на выбары кандыдат чытачоў "НН"... "Беларусь для беларусаў". А як быць зь іншымі людзьмі (а іх каля двух мільёнаў!), якія жывуць у Беларусі? А што станецца з габрэямі, татарамі, украінцамі, віетнамцамі, расейцамі, літоўцамі ды іншымі меншасьцямі, калі да ўлады прыйдзе асоба з такою праграмай?**

**Я ня буду казаць пра некаторыя іншыя "дэвізы": *Расея – гаўно; Адродзім веліч нацыі беларускай; Слава нацыі, сьмерць ворагам; Прэч маскоўскіх акупантаў; Мы не дамо ім панаваць...* Мо вы раступмачыце мне, у чым розьніца паміж усім гэтым і тым, што кажа Лукашэнка (замяніце Беларусь на Славянства, а Расею — на Захад...)?**

**Я не разумею, чаму няма ніякіх камэнтараў, ніякай рэакцыі на гэта з боку газэты? Ці значыць гэта, што рэдакцыя падтрымлівае пазыцыю сваіх чытачоў? Ці гэта і ёсьць "голас незалежнага беларускага грамадзтва"? Зразумела, што газэта ня можа адказваць за думкі сваіх чытачоў, але некаторыя рэчы нямохна пакідаць па-за ўвагай. Ці не павінна інтэлектуальная газэта, за якую я ўважаю "НН", хаця б намагацца паўплываць на падобныя дзякія і недалёкія погляды?**

**Для мяне гэта незразумела яшчэ й таму, што ў тым самым нумары "НН", як і ва ўсіх астатніх, таксама друкуюцца іншыя, адкрытыя думкі і даюцца адпаведныя камэнтары да падобных лістоў чытачоў. Я ня буду ўжо казаць пра тое, што падобныя настроі могуць быць скарыстаныя (і ўжо ёсьць скарыстаныя) дзеля стварэньня ўсёй беларускамоўнай меншасьці нэгатыўнага іміджу.**

**Расейскі імпэрыялізм ня вечны; як і ўсе імпэрыі, вядомыя ў гісторыі, расейская таксама саслабне, і гэта, на маю думку, толькі пытаньне часу. Шавінізм жа, наадварот, нікуды не зьнікае, ён пераходзіць ад бацькоў да дзяцей, зьмяняе кшталт і накіраванасьць. Гэтым у рознай ступені хворыя амаль усе краіны. Абаронічы шавінізм можа перарасьці ў нешта менш бяскрыўднае. Мяне заўсёды непакоіла, чаму прыгнечаныя народы, пазбавіўшыся прыгнёту, у сваю чаргу самі пачыналі прыгнятаць іншых, часта яшчэ больш брутальна. Для сёньняшняй Беларусі гэта, можа, і ня вельмі актуальна. Спадзяюся, што і ніколі ня будзе.**

**Аляксандра Мініч, Варшава»**

Часткова адказ на пытаньні спн.Мініч прагучаў у №21 «НН» ад 21 траўня, дзе аналізаваліся праможкавыя вынікі анкеты. Апытаньне паказала перадусім, што людзі беларускае культуры, чыім голасам і ёсьць "Наша Ніва", дыскрымінаваныя і зацкаваныя цяперашнімі панамі краіны настолькі, што на гэты імпэрскі ціск даюць нацыяналістычны адказ. Тое, што менавіта дэвіз адчаю — "Беларусь для беларусаў" — стане лідэрам апытаньня, было нечаканасьцю і для рэдакцыі "НН".

Гэты лёзунг быў рэанімаваны Зянонам Пазьняком у ягоным артыкуле "Амэрыка для амэрыканцаў" у "Народнай Волі" ад 14 сакавіка. Гэта быў свайго роду праграмны артыкул, таму прыхільнікі Зянона ўзялі лёзунг на ўзбраеньне. Ход думкі Пазьняка быў такі: Амэрыка добра жыве, бо там усё робіцца дзеля абароны грамадзянаў Амэрыкі. А сам дэвіз "Амэрыка для амэрыканцаў" быў незаменны падчас змаганьня амэрыканцаў за незалежнасьць. У сваім артыкуле Пазьняк прыходзіў да высновы, што й беларусам у барацьбе за незалежнасьць не абысьціся без таго самага дэвізу. Карацей, мелася на ўвазе не «Беларусь для этнічных беларусаў», а «Незалежная Беларусь для грамадзянаў Беларусі». Хоць усё адно гучыць пагрозьліва. Асабліва ва Ўсходняй Эўропе, у Эўропе незабытых крыўдаў. Асабліва для людзей, выхаваных у тых культурных традыцыях, якія задачы здабыцьця дзяржаўнай незалежнасьці ці ўмацаваньня нацыянальнай тоеснасьці даўно выраслі.

Ня варта перабольшваць долю беларускамоўных, гатовых падтрымаць дэвіз "Беларусь для беларусаў". Нават у апытаньні яго назвала мізэрная меншасьць ад агульнай колькасьці ўдзельнікаў, а ў апытаньні ж узяла ўдзел самая палітызаваная частка аўдыторыі.

На першае месца ён трапіў з прычыны адсутнасьці адзінага яскравага слогану ў нацыянал-лібэралаў. Зык "Беларусь у Эўропу" (разам з усім вядомай другой часткай выразу, ня менш крылатай), відаць, яшчэ будзе запатрабаваны ў верасьні, але на гэты момант здаецца людзям занадта абстрактным. Я ўяўляю сабе абурэньне майго знаёмага звaршчыка: "Якая, на хрэн, Эўропа калі дзяржава гіне, мова гіне! Эўропа — гэта можна й пасьля. Эўропа нам мова не ўратуе".

Зянон можа выйсьці на выбары пад дэвізам "Беларусь — для беларусаў", і гэта выкліча бурхлівую рэакцыю ў грамадзтве.

Так, за гэтым дэвізам стаіць падсподная або культываваная ксэнафобія, і сапраўдны інтэлігент сёньня не дазваляе сабе падобных выказваньняў ні ў якім выпадку. Сапраўдны інтэлігент змагаецца за тое, каб у ягонай краіне добра было ўсім, і беларусам у тым ліку.

Аднак за гэтым дэвізам таксама — адчай. У дзяржаве, у сталіцы якой беларускамоўны раз-пораз сутыкаецца з балючымі праявамі пабытовага расейскага фашызму, замаскаванага пад "нецярпімасьць да нацыяналізму", ня можа не паўстаць адэкватнай рэакцыі адказу. Вы мне "*распаясались эці сьвядомыя*" або "*чево-чево?*", я вам — "а Беларусь, гады, усё ж будзе для беларусаў, а ня толькі для вас".

Ігнаруючы той факт, што гэты спрэчны заклік у беларускай сытуацыі — абарончая рэакцыя, мы не пабачым шляхоў выпраўленьня шавіністычных заваротаў. Пакуль ня спыніцца культурная дыскрымінацыя беларусаў, дагэтуль у іхным асяродзьдзі будуць узьнікаць шавіністычныя рэакцыі, і моладзь будзе гуртавацца ў падпольныя групоўкі, і старыя пазьнякоўкі будуць выходзіць на вуліцы з маляралістычнымі плакатамі "Беларусь для беларусаў".

Нездарма Лукашэнка гэтак баіцца паразы ў верасьні. Калі беларусы пачнуць квітацца за шэсьць гадоў прыніжэньня, усё можа адбыцца нашмат фатальней, чым было ў Югаславіі.

Для ўсіх нашых суседзяў на Захадзе такія лёзунгі — учорашні дзень.

Працяг на старонцы 9.

# Што той Ірляндыі да ўсходу Эўропы?

**Ірляндцы на рэфэрэндуме адкінулі пагадненьні аб пашырэньні Эўразьвязу, падпісаныя ў Ніцы. Супраць прагаласавала 54% выбарцаў. Ірляндыя баіцца страціць частку датацый, калі ў ЭЗ увойдуць новыя краіны. Менавіта Зьвязу ірляндцы мусяць дзякаваць за дапамогу ў разьвіцьці гаспадаркі.**

Абураныя эгаізмам ірляндцаў французы прапанавалі правесьці на Зялёным Востраве новы рэфэрэндум і, калі вынік зноў будзе адмоўны, падумаць пра выключэньне краіны сьвятога Патрыка з супольнасьці. Немцы згадалі, што цягам астатніх 30 гадоў ірляндцы атрымалі ад Брусэлю дапамогі больш як на 50 мільярдаў эўра (гэта 42 млрд. даляраў). Польскія газэты напісалі, што Ірляндыя дапамогу атрымлівала ласая, а даваць іншым — няма дурных. Эўрапейская камісія ў пятніцу супакойвала кандыдатаў, маўляў, перамовы наконт уступу будуць ісьці ў ранейшым тэмпе.

Можна, каб улагодзіць Ірляндыю, прапанаваць ёй унесьці зьмены ў дакумэнты, прынятыя ў Ніцы. Так рабілі, калі Данія адкінула Маастрыхцкія пагадненьні. Аднак дамова аб пашырэньні ЭЗ тычыцца ўсіх краінаў Зьвязу, і нейкія льготы для Ірляндыі паставяць яе ў асаблівае становішча.

Працяг на старонцы 4.

## З усёй краіны

### Кунстатэр выпіў

**Траецкі кірмаш, што ад 1999 г. праводзіцца ў Менску ініцыятываю Фонду культуры з удзелам народных майстроў з розных куткоў краіны, 9 чэрвеня прымаў Смургонскі раён.** Мастацкая самадзейнасьць, вырабы майстроў — цацкі з тканіны, вышываныя ручнікі, карціны — і прадпрыемстваў-арганізацый (напрыклад, мэблевая фабрыка прадавала дзьверы), яткі зазывалі: "Падыходзьце, пабачце, як у нас весела!" Але гасьцей, сталічных жыхароў можна было па пальцах пералічыць. І гэтыя лічаныя былі збольшага замежныя грамадзяне, якія ў асноўным і здымаюць шыкоўныя апартамэнты ў Траецкім. Мо ня ведалі менчукі пра сьвята (а адкуль ім было дазнацца?). Карацей, у аўтобусе па дарозе дамоў смургонцы пагадзіліся, што найбольшым уражаньнем было, як Джон Кунстатэр, намесьнік пасла ЗША, каштаваў смургонскай самагонкі і закусваў маласольным гурочкам.

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

### Сумнеўныя доўгажыхаркі

**115-гадовая жыхарка Францыі Мары Брэмон, што памерла ў мінулую сераду, не была найстарэйшай жыхаркай плянэты.** Як паведамілі ў Гарадзенскім аблвыканкаме, у вёсцы Малыя Нягневічы Навагрудзкага раёну жыве сьпя Тэкля Баброўская, якой сёлета ў красавіку споўнілася 116 год. Разам зь ёй жыве 80-гадовая дачка, яны трымаюць гаспадарку. А ў студзені ў Гомельскай вобласьці памерла 124-гадовая Марыя Шарая.

Праўда, у 40-я гады многія беларускія кабеты накідалі сабе гадоў, каб іх ужо ў калгас ня гналі.

**Б.Т.**

### Няўстойлівыя гусі

**У канцы красавіка ірляндзкае агенцтва, што рэалізуе праект «Устойлівае разьвіцьцё пасёлку Сьвяцілавічы», перадало яго́ным жыхарам 400 гусей.** Аднак празь некаторы час птушкі пачалі здыхаць. Гомельская абласная вэтэрынарная лябараторыя высьветліла, што птушаняты загінулі ад інфэкцыі, набытай яшчэ на птушкафабрыцы. Апошняя сваю віну прызнала і бліжэйшымі днямі паставіць жыхарам Сьвяцілавіч 270 новых птушанят.

### Шалёныя лісы

**Больш за 120 чалавек, што кантактавалі з шалёным лісянём, зьвярнуліся ў бальніцу Слоніму.** Спачатку хворая жывёліна жыла ў жаўнераў тутэйшай вайсковай часткі, а пасьля яе прытулілі ў слонімскай школе №9.

А ў Пінскім раёне шалёныя лісы пакусалі калгасных кароваў, дык пяць здохла. Даярак цяпер лечаць.

### На Закозель напалі вусені

**Успышка алергічнага дэрматыту, выкліканага вусеням залатагузкі, адзначаная ў Дарагічынскім раёне.** У паліклініцы ўсё часьцей зьвяртаюцца людзі са скаргамі на сьверб і пачырваненьне скуры. Асабліва пацярпелі жыхары вёскі Закозель. Галоўнай прычынай распаўсюджаньня вусеня сталі цёплыя зімы і недахоп ядахімікатаў. Вусеняў так шмат, што яны часта падаюць з дрэваў на людзей і выклікаюць вострую алергічную рэакцыю. На раённай нарадзе, прысьвечанай гэтай праблеме, вызначаныя меры барацьбы з вусенем. У ліпені-жніўні плянуецца арганізаваць збор і зьнішчэньне павуцінных гнёздаў з вусенямі, а дрэвы апырскаць ядахімікатамі. Калі не дапаможа, вяскоўцы зьбіраюцца зьвярнуцца да прэзыдэнта.

### Энцэфаліт

**Першыя сёлета захворваньні на клешчавы энцэфаліт зарэгістраваў ў Бярозаўскім раёне.** Захварэла адна баба і двое яе ўнукаў — 11 і 15 гадоў. Заразіліся, выпіўшы заражанага казінага малака. Клешчавы энцэфаліт вылечваюць – выпадкаў сьмерці або ўскладненьняў за апошнія 10 гадоў не адзначалася. Больш небясьпечная іншая хвароба — клешчавы сыстэмны баргаліёз. Тым, хто жыве або працуе ў лесе, трэба абавязкова рабіць прышчэпкі. Зь вясны ў лес трэба таксама насіць кашулі з рукавамі і аглядаць сябе час ад часу. Калі клешч усё ж укусіў, варта зьвярнуцца да доктара і стаць на ўлік.

### Разам з крыжам адарвалі рукі

**У Магілёве зьнікла копія крыжа Эўфрасіньні Полацкай са скульптуры, што на Архірэйскім вале.** Копія была выкананая з дрэва й істотнай каштоўнасьці не ўяўляла. Разам з крыжом вандалы адарвалі ў скульптуры рукі.

### "Нісан" у Дняпры

**Ля вёскі Палыкавічы пад Магілёвам у Дняпры знайшлі затоплены аўтамабіль "Нісан Патрол".** Непададёк супрацоўнікі міліцыі адшукалі й труп гаспадара зь сечанымі ранамі галавы: 42-гадовы магілёвец прадстаўляў у Беларусі інтарэсы адной расейскай фірмы.

### Заваліла чалавека

**У берасьцейскім мікрараёне Дуброўка на вуліцы Прахадной жыхары капалі траншэю пад водаправод.** Край траншэі абваліўся, і 20-гадовага хлапца па горла засыпала пяском. Людзі кінуліся яго ратаваць, але не давалі рады. Выклікалі ратавальнікаў. Яны прыехалі за 4 хвіліны і пасьпелі раскапаць пацярпелага жывым. Той ужо не варушыўся: быў у шоку.

### Асьцярожна, слоік!

**6 чэрвеня ў Баранавічах на бальконе аднаго з пяціпавярховых дамоў узьнік пажар.** Пажарныя, прыехаўшы, убачылі на задымленым бальконе сатлелы матрац. Апошні загарэўся ў выніку факусаваньня сонечных промняў праз трохлітровы слоік з празрыстай вадкасьцю, які стаяў на гаўбцы. Цікаўныя пажарныя правялі экспэрымэнт: паставілі слоік так, каб промні траплялі на салому. Хутка яна пачала тлець.

**Паводле БелаПАН**




## Пацярпелыя за Беларусь

**31 траўня ў Менску** быў затрыманы маладафронтавец Іван Тамашэвіч за тое, што праехаў на роліках ад выканкаму СНД да Адміністрацыі прэзыдэнта зь бел-чырвона-белым сьцягам у руках. У ноч з 31 траўня на 1 чэрвеня за расклейку налепак затрымалі зуброўцаў Цімоха Дранчука, Аляксея Шыдлоўскага, Ірыну Тоўсьцік і Валер'я Сюльда. У Горадні 1 чэрвеня затрымалі Аляксея Салея, які фатаграфаваў, як салдатаў вывелі рукамі ірваць траву на газонах каля аблвыканкаму перад прыездам Селязьнёва, затрымалі таксама падчас маладзёвай акцыі пратэсту Сьвятлану Нех, Зьмітра Ягорава ды адміністратара кавярні, які выйшаў на вуліцу папаліць у гэты час. У Барысаве падчас акцыі зуброўцаў затрымалі Сяргея Падзолку, Зьмітра Фядорчанку, Алесю Ясюк з дачкой Тацянай. У ноч з 4 на 5 чэрвеня ў Менску затрымалі зуброўцаў Аляксея Шыдлоўскага, Цімоха Дранчука, Зьмітра Драпачку і Алеся Апранїча. 5 чэрвеня ў Горадні адбыўся суд над Тадэвушам Гавіным, затрыманым падчас акцыі "Хочам ведаць праўду". Далі 3 ночы арышту. У Віцебску 6 чэрвеня затрымалі Ірыну Байдак, якая раздавала навучэнцам Вэтэрынарнай акадэміі ўлёткі. У Мазыры за расклейку налепак затрымлівалі Кірылу Мухіна і Яўгена Анціпава. 7 чэрвеня ў Гомелі затрымалі Сержука Паўлянковіча, Зьмітра Гаўруціка, Андрэя Вітушку і Крысьціну Сідун, якія раздавалі «Студэнцкую Газэту».

## Навіны гаспадарскія

# Да залатога верасьня

Пакрысе да банкруцтва набліжаецца жыльлёва-камунальная гаспадарка. Дзяржава рэзка скарачае традыцыйныя датацыі, адначасова забараняючы на працягу лета падвышаць тарыфы для насельніцтва. Цяпер камунальнікам адно застаецца падлічваць страты й меркаваць, як падрыхтавацца да зімы. Не выпадае эканоміць нават на гарачай вадзе. Менскі мэр Паўлаў запатрабаваў скараціць тэрміны традыцыйных "прафіляктычных" рамонтаў цеплаcетак за месяца да двух тыдняў.

Спыняецца гандаль прадуктамі харчаваньня з намётаў і аўтапрычэпаў на Камароўцы. Афіцыйная вэрсія — "рэканструкцыя рынку" — хочуць будаваць новую шматпавярховую аўтастаянку.

Тым часам стала вядома, што запазычанасьці па заробках будуць павялічвацца. Міністар фінансаў Корбут на мінулым тыдні прызнаў, што праблемы з выкананьнем даходнай часткі як рэспубліканскага, так і ўсіх мясцовых бюджэтаў наблізіліся да крытычнай мяжы. Гэта адчуюць настаўнікі, якія разам з вучнямі сыдуць праз колькі тыдняў на традыцыйныя вакацыі, а свае грошы будуць атрымліваць часткамі аж да верасьня.

Вядомая стала і цана сёлетніх "дажынак". Яны будуць каштаваць каля 4 мільярдаў рублёў — амаль 3 мільёны даляраў.

**Сяржук Іваноўскі**

# Рабочы-незалежнік

*Сяргей Антончык заклікае дэнансаваць дамовы з Расеяй і вынікі рэфэрэндумаў*

**Калі ўлады не зарэгіструюць Пазьняка, які ня жыў у Беларусі пяць гадоў, самым незалежніцкім кандыдатам можа стаць рабочы лідэр Сяргей Антончык.**

Вылучэньне Антончыка ўжо выклікала нэгатыўную рэакцыю ў апазыцыйных колах. Адзін галоўны рэдактар, які думае, што толькі дзякуючы яму народ яшчэ ведае апазыцыйных лідэраў, адмовіўся даслаць свайго карэспандэнта на прэс-канфэрэнцыю Антончыка, заявіўшы, што вылучэньне Антончыка ідзе толькі на шкоду.

Каму ж выгадны ўдзел Антончыка?

Сацыялягічная служба НІСЭПД вылучыла тры асноўныя "варыянты", якія могуць перамагчы Лукашэнку. Гэта, умоўна кажучы, «прамаскоўскі кандыдат», «намэнклятурны кандыдат» і «народны». Антончык хоча згуляць у той самы «народны» варыянт, які выкарыстаў Лукашэнка ў 1994 г. Варта, праўда, дадаць, што ўсе сацыялягічныя раскладкі часам разьбіваюцца чыньнікам, які не пралічыш – выразнасьцю асобы палітыка, ягонымі яркімі ўчынкамі.

«Народнаму» варыянту сацыёлягі, дарэчы, аддаюць найменшую верагоднасьць перамогі. Аднак ніша Антончыка якраз тут. "Рэвалюцыя масаў" у Беларусі не закончаная, і многія паранейшаму гатовыя выбіраць "свайго хлопца", "не з намэнклятуры". Лукашэнка разумее гэта, і ўвесь час падкрэсьлівае сваю адстароненасьць ад чынавенства, рэгулярна саджаючы ў турму некаторых і публічна "ператрахваючы" на сэлектарных нарадах усіх астатніх. Ён таксама змагаецца за самую выгадную нішу "незалежнага" кандыдата.

Калі б дэмакратычная палітычная эліта зь нейкіх малазразумелых мне прычынаў не адштурхоўвала Антончыка на працягу ўсіх гэтых гадоў, калі б напрацаваны ім досьвед і ўменьне выступаць былі падтрыманыя ўсімі рэсурсамі дэмакратычных сілаў, магчыма, ён бы сёньня мог быць самым рэальным альтэрнатыўным кандыдатам. Тым самым беларускім Валенсам, параўнаньне зь якім так і напрошваецца. Аднак гэтай падтрымкі няма, і, зразумела, у бліжэйшыя месяцы нічога ня зьменіцца.

**Найгоршае, што могуць зрабіць зараз дэмакратычныя сілы, – гэта супрацьстаяць вылучэньню Антончыка, думаючы, што ён расьцярушвае апазыцыйных выбаршчыкаў**. Гэта няслушнае меркаваньне. За каго, па-вашаму, прагаласуюць рабочыя? За Ганчарыка? Значная частка (калі ня большасьць) рабочых ненавідзіць ці, у лепшым выпадку, ня любіць афіцыйных прафсаюзаў. Акрамя апошняга году, калі ўсе пачалі думаць пра выбары, ФПБ і не намякала на нейкае процістаяньне ўладзе. На большасьці прадпрыемстваў прафсаюзы ў адной зьвязцы з дырэктаратам змагаліся супраць незалежных прафсаюзаў і асобных палітычна актыўных рабочых. А можа паўтара мільёны рабочых аддадуць свае галасы за "банкіра" Чыгіра?

Рэч у тым, што людзі ў нас галасуюць ірацыянальна, паводле прынцыпу «падабаецца – не падабаецца». І няхай яны сто разоў будуць супраць Лукашэнкі, але, калі «адзіны кандыдат» гэтаму канкрэтнаму выбаршчыку будзе чымсьці не даспадобы, ён выкрасьліць і Лукашэнку, і «адзінага» або зусім ня пойдзе на выбары.

У Антончыка на сёньня свае спэцыфічныя выбарцы. Тое, што ён не адбярэ галасоў у дэмакратычных кандыдатаў, ускосна можа пацьвердзіць і апытаньне «Нашай Нівы», у якім ягонае імя ўзгадвалася толькі аднойчы. **Задача апазыцыі — прывесьці на выбары тыя 40% беларусаў, якія ўжо вырашылі не галасаваць за Лукашэнку, але яшчэ не гатовыя, і можа, ня будуць гатовыя аддаць свой голас за адзінага кандыдата. Такім людзям патрэбная альтэрнатыва. Антончык можа ёю быць.**

**Віталь Цыганкоў**

Працяг са старонкі 1.

# Былінны багатыр

На парадку дня былі два пытаньні: абраньне старшыні ініцыятыўнае групы і абмеркаваньне самога мэханізму кампаніі "Чыгір – у прэзыдэнты!"

Старшынём абралі самога Анатоля Паўлава. На лягічнае пытаньне з залі: чаму не падтрымліваеце Ўладзімера Ганчарыка, раз у яго́ным ведамстве працуеце, Паўлаў адказаў проста: "Чыгір – лепшы".

За адсутнасьцю "віноўніка" ўрачыстасьці пытаньні на галаву Анатоля Паўлава сыпаліся. Напрыклад: чаму не карыстаецеся беларускай мовай? (На сходзе па-беларуску не прамовілі ні слоўца.). Паўлаў: я за беларускую мову гарой, і нават на рэфэрэндуме галасаваў супраць. Аднак думаю парасейску, а перакладаць цяжкавата. А вось мае ўнукі будуць гаварыць на чысьцюткай беларускай мове, дый Міхаіл Чыгір – вялікі сябар беларускай мовы.

Пасьля чамусьці сп.Паўлаў успомніў, як у бытнасьць прарэктарам выгнаў з інтэрнату Паўла Севярынца. Ён, маўляў, і ня ведаў, што гэта Севярынец, проста зайшоў у пакой, а там такое!.. Што там "такое", на жаль, не патлумачыў.

У якасьці кіраўніка ініцыятыўнай групы сп.Паўлаў распавёў, што Чыгір — найлепшая кандыдатура, каб зьмясьціць Бацьку, бо, быццам бы, найбольш бруду ў афіцыйных СМІ выліваецца менавіта на Чыгіра як на самага небясьпечнага канкурэнта. Бо ў Чыгіра ёсьць фізычныя і маральныя сілы і велізарны досьвед працы. Бо Міхаіл — мужны чалавек, ён умее трымаць удар. Нарэшце, таму, што ён сапраўдны мужык, а сапраўдных мужыкоў у Беларусі амаль не засталося. Пры ім заробкі былі быццам бы большыя за 100 даляраў, і стабільны рубель, і ніжэйшыя цэны. Ён чалавек учынку і грамадзянскага подзьвігу і г.д.

Працягнуў апалягетыку прадстаўнік Берасьця Анатоль Леванюк, выкладчык філязофіі ў тамтэйшым унівэрсытэце. Як філёзаф, Леванюк найперш абурыўся: "Чаму гэта "няма мужыкоў у Беларусі?" А мы? Раз мы за Чыгіра, значыць мы — мужыкі". І назваў патэнцыйных выбаршчыкаў кандыдата: людзі 22—40 гадоў.

Наступным выступоўцам быў галоўны рэдактар газэты "Дзень" Аляксандар Тамковіч. Гэты парэкламаваў сваю газэту і пакляўся зьмагацца на ее старонках артыкулы пра набалелае і пра нягодніцкую ўлады, а таксама сказаў, што "Чыгір шмат зрабіў, каб газэта ўбачыла сьвет".

Выступілі яшчэ прадпрымальнік з Горадні Ўладзімер Васільеў і Мікалай Усьціменка, прадстаўнік Пухавіцкай суполкі Народнай Грамады. Апошні расказаў, што на калгасных палетках, у заводзкіх цэхах, у электрычках народ задумваецца над пытаньнем: хто, калі не Лукашэнка? І калі людзям падказваеш – Чыгір, дык яны радасна пагаджаюцца: так, толькі Чыгір! Усьціменка прапанаваў дэвіз, пад якім ісьці на выбары: "Лепшае жыцьцё кожнаму, і зробіць гэта Чыгір!" — "Чыгір, — казаў Усьціменка, — добры кандыдат, яму не хапае аднаго — улады" — падсумаваў ён.

Тацяна Ваніна, старшыня Чыгіровага штабу, паведаміла, што ўсяго ў ініцыятыўнай групе налічваецца 1056 чалавек, зь іх 317 прысутнічае на зьезьдзе. (Я, праўда, налічыў у залі толькі 200 чалавек разам з журналістамі). Суполкі ініцыятыўнікаў ёсьць у 81 раёне Беларусі. Пра сваю прыхільнасьць да Чыгіра заявілі асобныя сябры БСДП-НГ, АГП, БНФ, Беларускай Партыі Працы, Хельсінскага камітэту, ТБМ.

Навуковец Георгі Лепін распавёў пра Чыгіра як пра чалавека добрай душы, грунтуючыся на асабістых успамінах, а таксама пра восеньскія выбары ў "палатку", калі сумленнаму і сьветламу Міхаілу Мікалаевічу супрацьстаяла бесприныпная і жорсткая Наталя Машэрава, хаця і з анёльскім тварам.

Ідэйныя працўнікі для Чыгіра, як высьветлілася, — толькі Аляксандар Лукашэнка і Наталя Машэрава.

Прыканцы праваабаронца Гары Паганяйла патлумачыў, як лепей зьбіраць подпісы, як запаўняць блянкі.

На ключавое пытаньне, як будзе вызначацца адзіны кандыдат, Анатоль Паўлаў адказаў, што паказчыкам будзе колькасьць сабраных галасоў. А выбіраць аднаго зь пяці будуць самі кандыдаты. Анатоль Паўлаў запэўніў, што, калі падчас збору подпісаў выявіцца, што ў Домаша найлепшыя шанцы і патэнцыял, Чыгір будзе падтрымліваць яго. Гэта трохі падсаладзіла ўражаньне ад сходу, ад якога чамусьці ў галаву неадступна лезла песьня двухгадовай даўніны пра «Чыгіря, быліннага багатыря».

**Эдвард Людовіч**

# Валеры Булгакаў: “Машэрава – гэта кандыдат Масквы, які будзе ў меру сілаў дапамагаць Лукашэнку”

**Прэзыдэнцкія выбары адбудуцца 9 верасьня, праз тыдзень пасьля таго, як Лукашэнку споўніцца 47 гадоў. Які расклад кандыдатаў утварыўся перад этапам збору подпісаў? На пытаньні «НН» адказвае галоўны рэдактар часопісу “Arche” Валеры Булгакаў.**

**“НН”: Як высока Вы ацэньваеце шанцы Наталі Машэравай, якую расейскія ды расейскамоўныя беларускія мэдыі апошнім часам навязваюць нам у якасьці “альтэрнатывы Лукашэнку”?**

**Валеры Булгакаў:** Перадусім мушу сказаць, што сам удзел Наталі Машэравай у перадвыбарнай гонцы – вельмі моцны ход тых сілаў, якія за ёй стаяць. Гэтая дама валодае некалькімі вельмі важнымі якасьцямі. Па-першае, яна, дзякуючы незабыўнаму для масавай сьвядомасьці беларусаў вобразу свайго бацькі, здольная выклікаць моцную эмацыйную прыхільнасьць нашых суграмадзянаў. Па-другое, яна яшчэ падчас леташніх выбараў у ніжнюю палату беларускага парлямэнту давяла сваю поўную ляяльнасьць і падкантрольнасьць сваім патронам.

Нагадаем, што яна балятавалася ў той самай выбарнай акрузе, дзе за дэпутацкі мандат змагаліся экс-прэм’ер Міхаіл Чыгір і экс-начальнік упраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзыдэнта Аляксандар Фядута. У першым туры Машэрава набрала амаль 49% галасоў выбарцаў, фактычна забясьпечыўшы сабе поўную перамогу (Чыгір тады ўзяў 23%, Фядута – менш за 10% ), у другім, пасьля таго, як Чыгір зьняў сваю кандыдатуру, — 85%.

## РАЗЬДЗІМАНЬНЕ РЭЙТЫНГУ ЧЫГІРА

Я не сумняюся ў тым, што лукашэнкаўскія паліттэхнолягі ўжо падчас тых выбраў апрабоўвалі сцэнары для выбараў сёлетніх, вывучаючы “запас трываласьці” кандыдатаў ад партыі ўлады.

Раён, дзе балятавалася Машэрава, настроены досыць дэмакратычна – у 1990 г. ад яго (праўда, тады акругі былі меншыя памерам) прайшоў у Вярхоўны Савет XII скліканьня прадстаўнік БНФ Пётра Садоўскі, а ў менскі гарсавет – сябар сойму БНФ Міраслаў Кобаса (праз 5 гадоў у тым самым раёне на выбарах у ВС XIII скліканьня ён выйшаў у другі тур са старшынёй жаночай партыі “Надзея” Валянцінай Палевіковай, але выбары былі прызнаныя “неадбытымі”). У 1989 г. народным дэпутатам СССР ад яе быў абраны Станіслаў Шушкевіч. Дадам, што ў гэтай самай акрузе вось ужо без малога 20 гадоў жыве сам Чыгір, тут хадзілі ў школу яго дзеці, тут яго ўсе ведаюць і любяць. І ў такім “варожым” асяродзьдзі Машэрава становіцца пераможцай без асаблівых клопатаў! Калі такое здараецца ў апазыцыйным Менску, дык што гаварыць пра рэшту краіны!?

Лукашэнкаўскія паліттэхнолягі, трэба аддаць ім належнае, імкнуцца працаваць максымальна надзейна, зводзячы рызыку памылкі да мінімуму. Выкарыстаўшы парлямэнцкія выбары 2000 г. як своеасаблівы палігон, на сёлетніх выбарах яны, відаць, паставілі сабе задачу-мінумум не дапусьціць таго, каб сапраўды апазыцыйны кандытат заняў другое месца, а задачу-максымум – каб за яго прагаласавала ня больш за 10% беларускіх грамадзянаў.

Зыходзячы з гэтага, проста-такі правакацыйным выглядае, напрыклад, нядаўняе інтэрвію былога лукашэнкаўскага “заўхоза” Івана Ціцянкова, у якім ён навязвае шырокай грамадзкасьці думку, што Лукашэнка вядзе вельмі замкнёнае жыцьцё і што ў гэтым жыцьці ён прыслухоўваецца да галасоў трох найбліжэйшых яму людзей, у тым ліку Ўладзімера Канаплёва “зь яго жонкай Алай”. Мэта такога роду публікацый – прытупіць увагу і пільнасьць апанэнтаў сучаснага беларускага рэжыму, зьляпіць Лукашэнку імідж прастакаватага палітыка зь недалёкім сялянскім розумам, схільнага да неабдуманых імпульсіўных рашэньняў (асабліва тут шчыруе штатны аналітык *“Белорусской газеты”* Міхаіл Падзяляк). Увесь час прэзыдэнтуры Лукашэнкі паказвае, што гэта ня так.

Яшчэ вельмі небясьпечны сымптом палягае ў разьдзіманьні пэўнымі сацыялягічнымі агенцыямі рэйтынгу Міхаіла Чыгіра, які нібыта пакінуў далёка ззаду ўсіх астатніх членаў апазыцыйнай “пяцёркі”. Ня будзем спэцыяльна задавацца пытаньнем, каму гэта выгадна.

Хочацца яшчэ пару словаў сказаць пра Машэраву. Гэтая дама пражывае ў дзяржаўнай рэзыдэнцыі на ўскраіне Менску і працуе на пасадзе “намесьніцы начальніка галоўнага ўпраўленьня парлямэнцкага сходу Саюзу Беларусі і Расіі”. Такім чынам, перад намі прыклад “намэнклятурніка” паводле паходжаньня і “члена партыі ўлады” паводле паклікаНьня, які, да таго ж, мае сур’ёзныя сувязі з расійскай уладнай элітай.

## МАСКВА ЗАЦІКАЎЛЕНАЯ Ў ЭКСПАРЦЕ ЛУКАШЭНКАЎСКАЙ ПАЛІТЫКІ

Можна з пэўнасьцю казаць, што Машэрава – гэта кандыдат Масквы, адно ўдакладніўшы, што на сёлетніх выбарах яна будзе ў меру сваіх сілаў дапамагаць дзейнаму беларускаму прэзыдэнту.

**“НН”: Чаму?**

**В.Б.:** Бо Масква зацікаўленая ў экспарце ўнутранай лукашэнкаўскай палітыкі ў іншыя краны СНД, перадусім у частцы яе культурнага, інфармацыйнага і, калі так можна сказаць, ідэалягічнага складнікаў. Не падтрымаць прэзыдэнта, які фактычна аднавіў працэс рэкалянізацыі ўласнага народу, наша ўсходняя суседка ня зможа. Найперш таму, што гэта зрабіла б цяжкое ўражаньне на прэзыдэнтаў іншых постсавецкіх краінаў, зь якімі Расія вядзе перамовы аб уступленьні ў саюз – Малдовы ды Арменіі і, больш за тое, сур’ёзна запаволіла б інтэграцыйныя працэсы на прасьцягу былога СССР, ініцыяваныя Масквой.

Іншая рэч, наколькі эфэктыўнай і адраснай акажацца гэтая падтрымка.

Што тычыцца велічыні шанцаў Машэравай на гэтых выбарах, то, відаць, тыя асобы, якія дырыжуюць яе перадвыбарнай кампаніяй, ацэньваюць іх як дастатковыя, каб яна магла прэтэндаваць на другое месца па выніках першага туру галасаваньня. Калі падчас выбараў ня будзе масавых фальсыфікацыяў, гэтага можа і ня стацца. Палітычная біяграфія Машэравай не складаецца з адных перамогаў – у 1995 годзе яна прайграла на выбарах у ВС XIII скліканьня па аршанскай акрузе камуністычнаму лідэру Васілю Новікаву.

Я асабіста разглядаю як правакацыю заявы намесьніка старшыні Лібэральна-Дэмакратычнай Партыі Расіі Аляксея Мітрафанава і былога віцэ-прэм’ера беларускага ўраду і экс-кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта Леаніда Сініцына, што, “калі на сёлетніх прэзыдэнцкіх выбарах сваю кандыдатуру вылучыць Н.Машэрава, шанцаў нават у Лукашэнкі будзе мала”. У такім патрыярхальным грамадзтве, як беларускае, жанчына ня мае шанцаў перамагчы на прэзыдэнцкіх выбарах.

## СЬВЕТЛЫ ВОБРАЗ КАЛЯНІЯЛЬНАГА МІНУЛАГА

**“НН”: Ці ёсьць прыклады інфармацыйнай падтрымкі гэтае кандыдатуры маскоўскімі сродкамі масавай інфармацыі?**

**В.Б.:** Цэлая інфармацыйная валтузьня! І гэта недвузначна пацьвярджае, што Машэрава – стаўленіца пэўных расійскіх колаў. Тэлеканал *НТВ*, газэта *“Известия”* (вельмі характэрны падкрэсьлена агрэсіўны падзагаловак тагачаснага інтэрвію *“Известиям”* – *“Наталя Машэрава: мой натуральны стан – стан барацьбы”*) разгарнулі рэкляму яе постаці яшчэ падчас апошніх выбараў у парлямэнт. Важна, што разьлік тады рабіўся і на мабілізацыю ірацыянальных пластоў масавай сьвядомасьці беларускіх грамядзянаў – напрыклад, умела падаграваўся інтарэс да гісторыі з аўтакатастрофай, у якой загінуў Пётра Машэраў, да ягоных кар’ерных пэрспэктываў у імпэрскім цэнтры і г.д. У выніку выходзіў сюжэт з рысамі дэтэктыву і мыльнай опэры – значыцца, акурат тое, што традыцыйна карыстаецца попытам у нашых суграмадзянаў.

Трэба асобна падкрэсьліць, што ўсе гэтыя спэкуляцыі вельмі выгадныя іх ініцыятарам – яны базуюцца на міце пра дасканалага, амаль сьвятога начальніка і навязваюць беларусам настальгію па іх каляніяльным мінулым.

А на мінулым тыдні расійскія мэдыі проста “прарвала”. Пачалася сапраўдная, прафэсійна спляная кампанія інфармацыйнай падтрымкі кандыдатуры Машэравай. Возьмем досыць вузкі сэгмэнт расійскай інфармацыйнай прасторы – расійскія Інтэрнэт-выданьні.

Адной зь першых прамоцыю Машэравай пачала расійская праўрадавая *gazetasng.ru*. Яе аналітык Арнольд Ступін заявіў, цытую: *“У Аляксандра Лукашэнкі на выбарах зъявіцца супернік. У дзенъ выступу Лукашэнкі ў Горадні, дзе ён казаў, што «мы прошляпили свою страну», маючы на ўвазе СССР, раптам выявілася, што Лукашэнка можа і сам «прошляпитъ» Беларусъ: Наталя Машэрава са словамі «Жанчына ніколі не ўступае ў барацъбу, калі не перакананая, што пераможа», — заявіла аб сваім цъвёрдым намеры балятавацца ў прэзыдэнты Беларусі. Неабходна адзначыцъ, што Наталя Машэрава можа за кароткі час стацъ досыцъ харызматычнай постацъцю ў Беларусі”*.

Але яшчэ за дзень да заявы Машэравай пра вылучэньне расійскі аналітычны сэрвэр *polit.ru* зьмясьціў аб’ёмістую публікацыю пад назвай *“Наталя Машэрава пацъвердзіла свой намер супернічацъ з Лукашэнкам на прэзыдэнцкіх выбарах. Лукашэнка пачынае нэрвавацца”* прыкладна з такім самым наборам думак.

У той жа дзень рэспэктабэльны маскоўскі *kommersant.ru* публікуе аналіз *“Аляксандар Лукашэнка «прошлепал страну». У Беларусі можа зъявіцца новы прэзыдэнт”*, які сваёй стылістыкай моцна нагадвае папярэднія тэксты, хаця і зьмяшчае некалькі арыгінальных заўвагаў. Цытую: *“Сваю выбарную кампанію Наталя Машэрава зноў наважылася весьці як кандыдат ад партыі ўлады. Цяпер яе галоўнае апірышча – намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Беларусі Ўладзімер Замяталін, шэры кардынал, які захоўвае сваю пасаду на працягу ўсяго кіраванъня Аляксандра Лукашэнкі»*.

Ну і завяршае “інфармацыйную карціну тыдня” публікацыя Сьвятланы Несьцеравай на старонках найбуйнейшага расійскага Інтэрнэт-выданьня *gazeta.ru* пад назвай *“Прызначаная дата адхіленъня Лукашэнкі ад улады”*, дзе пяецца той самы хваласьпеў спн.Машэравай: *“Машэрава карыстаецца падтрымкай шэрагу буйных функцыянэраў са структур расійска-беларускага саюзу. Відавочна, што рашэнъне Машэравай ламае ўвесь перадвыбарны расклад”*.

На заканчэньне хачу зьвярнуць яшчэ ўвагу на дзьве рэчы: на відавочна алягічны, пазбаўлены ўсякага сэнсу перадвыбарны лёзунг Машэравай, прыдуманы, магчыма, яе патронам Замяталіным: *«Жанчына ніколі не ўступае ў барацъбу, калі не перакананая, што пераможа»*, і навязьлівае супрацьстаўленьне Машэравай і Лукашэнкі, якое культывуецца расійскімі мэдыямі. Гэтыя дзьве акалічнасьці падштурхоўваць да думкі, што з дапамогай гэтай дамы пэўныя сілы плянуюць прыступіць да маніпуляцый з масавай сьвядомасьцю нашых суграмадзянаў.

## МАШЭРАВА – МАРЫЯНЭТКА

**“НН”: Калі шанцы яе нізкія, як Вы казалі, чаму Масква зрабіла стаўку на яе?**

**В.Б.:** Галоўнай задачай абсалютнай бальшыні расійскіх мэдыяў падчас выбарнай гонкі будзе стварэньне “ружовага туману”, імітацыі апазыцыйнасьці да Лукашэнкі, стварэньне ілюзіі таго, што Масква не задаволена сваім беларускім саюзьнікам. У сытуацыі, калі амаль усе рэсурсы ўлады знаходзяцца ў распараджэньні Лукашэнкі, гэта паклікана нэўтралізаваць беларускую апазыцыію і тых палітыкаў, зь якімі яна зьвязвае свае надзеі на перамогу ў сёлетніх прэзыдэнцкіх выбарах. Гэта ўсё робіцца для таго, каб стварыць Лукашэнку максымальна камфортныя ўмовы для ягонага па магчымасьці легітымнага пераабраньня на другі прэзыдэнцкі тэрмін.

Задавальняе расійцаў Машэрава яшчэ і таму, што яна прытрымліваецца крайне русафільскіх і беларусафобскіх поглядаў. Напрыклад, на пачатку сакавіка яна ўвайшла ў аргкамітэт нядаўна адбытага “Славянскага зьезду Расійскай Фэдэрацыі, Беларусі і Ўкраіны” разам з такімі афіцыёзнымі дзеячамі, як кажуць у Расіі, “народна-патрыятычнай” арыентацыі, як расійскі скульптар Вячаслаў Клыкаў і былы лідэр шавіністычнай групоўкі “*Памятъ*” Ігар Шафарэвіч. Яшчэ раней яна была абраная “старшынёй Цэнтральнай Рады Саюзнай грамадзкай палаты” – напаўкамуністычнай грамадзкай арганізацыі пры парлямэнцкім сходзе Расіі і Беларусі.

Але, безумоўна, найважнейшая прычына такой неспадзяванай прамоцыі вельмі празаічная. І ў Маскве, і ў Менску выдатна разумеюць, што ў Лукашэнкі агромністы нэгатыўны рэйтынг. Так, падчас праведзенага НІСЭПД у красавіку 2001 г. у рамках праекту “Беларусь: пэрспэктывы на XXI стагодзьдзе” нацыянальнага апытаньня высьветлілася, што за Лукашэнку ня будуць галасаваць амаль 37% беларускіх выбарцаў. Звышзадача лукашэнкаўскіх паліттэхнолягаў – не дапусьціць таго, каб усе гэтыя людзі прагаласавалі за рэальна апазыцыйнага палітыка. З гэтай мэтай яны ствараюць муляж апазыцыйнасьці накшталт Машэравай, што, дарэчы, сьведчыць пра адпаведныя маральна-этычныя якасьці апошняй. Іншымі словамі, лукашэнкаўскія аналітыкі выдатна разумеюць, што традыцыйны “бацькаў” электарат нікуды ад “бацькі” ня дзенецца, а вось рэшту *тых, хто вагаецца*, можна і трэба перакупіць пры дапамозе яркіх, але цалкам марыянэткавых постацяў.

Мяркую, што хада выбарнай кампаніі бязьлітасна выявіць гэты рэальны, марыянэткавы статус кандыдаткі Машэравай. Яе могуць зьняць у любы момант з дыстанцыі, змусіць адмовіцца ад далейшага спаборніцтва ў другім туры выбараў, а каб кампэнсаваць “спаленыя” нэрвы – надзяліць пасьля выбараў пачэснай, але малазначнай дзяржаўнай пасадай. Не зьдзіўлюся, калі праз нейкі час пасьля правядзеньня выбараў Уладзімер Пуцін уручыць ён ордэн “За заслугі перад айчынай IV ступені”.

## БІТВА ЗА ГАРАДЫ

**“НН”: Што магло б проціставіць гэтай маскоўска-лукашэнкаўскай стратэгіі незалежнае беларускае грамадзтва?**

**В.Б.:** Я скажу так: гэтыя выбары выйграе той, хто лепш ведае Беларусь і беларусаў. Рэальная Беларусь зь яе рэальным жыцьцём ня ўкладваецца ў нават самыя мудрагелістыя схемы, распрацаваныя ў крамлёўскіх кабінэтах.

Гэтыя выбары пакажуць, хто мае найбольш ясную карціну тых працэсаў, якія адбываюцца ў нашай краіне, і найбольш яснае разуменьне таго, як можна эфэктыўна ўплываць на гэтыя працэсы. Трэба сказаць, што ўжо цяпер вельмі шмат зроблена – прыцягнутыя калясальныя людзкія рэсурсы, падрыхтаваныя неза-

Працяг на старонцы 4.

*Іван Ціцянкоў, як і Міхаіл Падаляк, прытупляюць увагу і пільнасьць апанэнтаў рэжыму, лепячы Лукашэнку імідж прастакаватага палітыка. Увесь час прэзыдэнтуры Лукашэнкі паказвае, што гэта ня так.*

*Антончык, Сініцын (разам зь Фядутам), Цярэшчанка сёньня гуляюць на карысьць пралукашэнкаўскіх сілаў.*

# Што той Ірляндыі?..

Працяг са старонкі 1.

Дый кампраміс у Ніцы быў дасягнуты зь цяжкасьцю, таму спроба выправіць нешта ў дакумэнтах можа выклікаць палітычную катастрофу. Дублінскі ўрад вінавацяць у тым, што ён не патлумачыў грамадзянам сэнсу рэфэрэндуму, спасылаючыся на ня дужа ўцямныя для паспалітага чалавека гістарычныя і эканамічныя аргумэнты, у той час, як нацыяналістычная партыя Шын Фэйн (у перакладзе — «Мы самі») палохала электарат стратай сувэрэнітэту й разбурэньнем нэўтралітэту з-за ўзмацненьня сувязяў зьвязу з NATO.

Зараз сябры па Эўразьвязе прапануюць Ірляндыі, відаць, правесьці агітацыю за пашырэньне ЭЗ, а пасьля праз нейкі час — новы рэфэрэндум.

**Язапат Змысла**

## Агляд сярэднеэўрапейскіх падзеяў

# Барокавыя цэрквы й люстрацыйныя пасьведчаньні

**Галоўным вынікам сустрэчы кіраўнікоў краінаў ГУУАМ (аб'яднаньне, што лучыць Грузію, Украіну, Узбэкістан, Арменію й Малдову) у Ялце сталася арганізацыйнае афармленьне гэтага хаўрусу,** якi існуе ўжо чатыры гады, але дагэтуль ня меў сваіх інстытуцыяў. Цяпер ГУУАМ атрымаў арганізацыйныя структуры й сталіцу — Ялту. Але самы важны дакумэнт — Пагадненьне пра стварэньне зоны вольнага гандлю — ухвалены ня быў, бо заўпарціліся ўзбэцкі і малдаўскі прэзыдэнты. Шэварднадзе ж прапанаваў прыняць у хаўрус Румынію й Баўгарыю (яны яшчэ самі, праўда, ня вызначыліся), а новы малдаўскі прэзыдэнт Варонін, каб зрабіць дзейнасьць ГУУАМу "больш празрыстай", хоча запрасіць расейскіх назіральнікаў.

**Міністар унутраных справаў Чэхіі Станіслаў Грос абвясьціў, што пасьля адмысловае праверкі ў дзяржаўных структурах выяўленыя 114 былых агентаў сакрэтнай камуністычнай паліцыі** (*STB*), якія ў 1991—92 г. атрымалі несапраўдныя люстрацыйныя пасьведчаньні. Чэскі прэм'ер Мілаш Земан выказаў сваё абурэньне тым, што былыя гэбісты здолелі ў абыход люстрацыйнае пастановы трапіць на адказныя пасады, дый прапанаваў нанова праверыць люстрацыйныя дакумэнты ва ўсіх установах — найперш у міністэрствах унутраных справаў і абароны.

**Югаслаўская правінцыя Ваяводзіна патрабуе вярнуць ёй адабраную ў часы дыктатуры аўтаномію.** Ваяводзінцы ня згодныя зь сёньняшняй прыватызацыяй, арганізаванай "зьверху", што мае ў іх дзіўны нахіл — прадаюцца прыбытковыя прадпрыемствы, а ўсё нерэнтабэльнае застаецца ў руках краёвае адміністрацыі. Ня дзіва, што ў бюджэце Новага Саду няма грошай. Маёмасьць правінцыі цалкам у руках Бялграду.

Ваяводзінцы спадзяваліся, што пасьля перамогі дэмакратычнай апазыцыі ім вернуць самастойнасьць, абмежаваную ў 90-м, аднак Бялград па-ранейшаму ня хоча зважаць на мясцовы парлямэнт. Абурыла ваяводзінцаў і пастанова пра абавязковае выкладаньне ў школах рэлігіі — дзеля захаваньня "духоўнае еднасьці" сэрбскага народу. У краі будуюцца дзясяткі праваслаўных цэркваў у бізантыйскім кшталце, тады як ваяводзінскія бажніцы заўжды былі барокавымі (старшыня ваяводзінскае Скупшчыны лічыць гэтае будаўніцтва доказам курсу на "сэрбізацыю" краю). "Мілошавіча няма, але й сёньня большасьць бялградзкіх палітыкаў бачаць Сэрбію такой, якой яе бачыў Слабадан", — кажа галава мясцовага парлямэнту.

**Сяргей Рак**

## Эстонія

# Карніла, аддай кадзіла!

**Пасьля таго як Эстонія атрымала незалежнасьць, тамтэйшая Праваслаўная царква падзялілася на дзьве й цяпер адна зь іх лучыць перадусім эстонцаў і прадстаўнікоў старое расейскае эміграцыі, другая — расейцаў.**

Вытокі гэтага падзелу трэба шукаць яшчэ ў 1917 г., калі ў Расеі Праваслаўная царква трапіла пад бальшавіцкі ўціск, а эстонская праваслаўная дабілася для сябе аўтаноміі й перайшлі пад юрысдыкцыю Канстантынопалю. У 1940 г. прыйшлі савецкія акупанты, і запужаны сынод на чале зь мітрапалітам Аляксандрам "добраахвотна" прыняў зьверхніцтва Масквы.

За немцамі паўстаў Балтыйскі патрыярхат. Увосень 1944 г. Аляксандар разам зь іншымі біскупамі ўсьлед за нямецкімі войскамі пакінуў Эстонію дый пасяліўся ў Стакгольме. Толькі на пачатку 90-х біскупы вярнуліся з эміграцыі на радзіму й утварылі незалежную ад Масквы Эстонскую апостальскую праваслаўную царкву. У 1993 г. улады вызналі яе адзінай спадчыньніцай даваеннай царквы, маёмасьцю якой да таго карысталася "расейская" царква. Апошнюю ўспрымалі як перажытак часоў акупацыі і доўгі час не рэгістравалі.

Аднак, за гады самастойнасьці стаўленьне да расейцаў у Эстоніі памякчэла. Калі ны выедуць, на рынку працы зьявіцца вялізная дзірка. Яе могуць пачаць запаўняць іншыя прыбышы, што зусім ня ведаюць гэтага краю й культуры. Таму сёньня ўлады робяць усё магчымае, каб тутэйшыя расейцы як найхутчэй інтэграваліся ў эстонскае грамадзтва. Расьце лік расейцаў, што маюць эстонскае грамадзянства і нават правым палітыкам даводзіцца зважаць на іхныя галасы.

Ня дзіва, што эстонскія ўлады ўрэшце пагадзіліся зарэгістраваць царкву, падлеглую Маскве, а палітыкі, каб атрымаць галасы тутэйшых расейцаў, пачалі выкарыстоўваць і рэлігійную карту. Так, бурмістар Таліну Моіс за падтрымку на выбарах дапамог расейскай царкве атрымаць галоўную бажніцу – Сабор Аляксандра Неўскага, насупраць парлямэнту краіны. Эстонская царква прасіла аддаць бажніцу ёй, аднак уладам невыгодна гэта рабіць: мэр трымаецца за галасы праваслаўных расейцаў.

Тады як прадстаўнікі найбольшай апазыцыйнай Партыі цэнтрыстаў дэкляруюць, што не дадуць нікому дзеля кароткатэрміновай палітычнай карысьці скрыўдзіць эстонскае царквы і перадаць расейцам нешта зь яе даваенная маёмасьці.

Эстонскі мітрапаліт Стэфан упарта называе кіраваную мітрапалітам Карнілам царкву "маскоўскай" і сьцьвярдзіць, што тая ня мае аніякага права на старыя цэрквы. Ён кажа, што зарэгістраванай яна можа быць толькі пад адной з да гэтага часу ўжываных назваў – Расейская праваслаўная царква ў Эстоніі ці Япіскапства Маскоўскага патрыярхату ў Эстоніі.

Трэба адзначыць, што на сёньняшні дзень у набажэнствах расейскае царквы рэгулярна ўдзельнічае 45 тысячаў вернікаў, а эстонскае – толькі 18 тысячаў. Увогуле ж у паўтарамільённай Эстоніі найбольш лютэранаў – 180 тысячаў. Неэстонцы складаюць каля 40% насельніцтва краіны. Праваслаўныя сярод эстонцаў зьявіліся пасьля 1845 г., калі расейскія ўлады раздавалі зямлю сялянам, якія кідалі лютэранства.

Нядаўна канстантынопальскі і маскоўскі патрыярхі заклікалі мітрапаліта Стэфана і Карнілу скончыць спрэчкі й валодаць той уласнасьцю, якая ў кожнага зь іх ёсьць на дадзены момант.

**Я. З.**

## Іран

# Менск выбраў Хатамі

**У пятніцу ў Іране абіралі прэзыдэнта.** Ніхто не сумняваўся, што на другі тэрмін застанецца цяперашні кіраўнік краіны Хатамі. Ён атрымаў абсалютную большасьць галасоў — 22 млн. з 28-мі. Адным з кандыдатаў у прэзыдэнты Ірану быў міністар абароны, контр-адмірал Шамхані, які ў красавіку прыяжджаў зь візытам у Беларусь. Але ён атрымаў толькі каля 670 тыс. галасоў.

У нашай краіне стала жыве каля 200 іранскіх грамадзянаў. Прагаласаваць прыйшло 98 % тых, хто трапіў у сьпісы (г.зн. меў больш за 15 гадоў — у Іране і моладзь мае права голасу). Хатамі набраў у Менску 92%, за Шамхані прагаласавалі толькі два чалавекі. Што езьдзіў, што ня езьдзіў...

**С.Р.**

## Расея

# Забараняюць патрыманыя іншамаркі

**Расейцы зьбіраюцца ўвесьці такія высокія мыты на ўвоз патрыманых іншамарак (старэйшых за 5 гадоў),** каб іх стала зусім нявыгадна прыганяць. Тым самым урад хоча змусіць людзей купляць лапцёжныя "Жыгулі" й "Масквічы". Пакуль невядома, ці пойдуць на гэткі ж бязглузды для Беларусі крок васальныя ўлады Менску.

## Прэмія Вайновічу

**Расейскі прэзыдэнт Пуцін прысудзіў Дзяржаўную прэмію ў галіне літаратуры Уладзімеру Вайновічу за раман «Манумэнтальная прапаганда».** Пісьменьнік быў уганараваны нягледзячы на тое, што летась страшэнна кпіў з Пуціна за вяртаньне мэлёдыі савецкага гімну ў якасьці гімну Расеі.

**Б.Т.**

## Анонс

# Зноў пра Паліводу

Артыкул Юліі Андрэевай "Караоке па-беларуску", прысьвечаны канцэрту памяці Ігара Паліводы, выклікаў захапленьне ў адных, расчараваў іншых і страшэнна абурыў родных кампазытара.

**Палеміка з удзелам Ігара Паліводы-старэйшага, Вольгі Брылон, Зьмітра Падбярэскага, Юліі Андрэевай — у адным з наступных нумароў "НН".**

# Машэрава – кандыдат Масквы

Працяг са старонкі 3.

лежныя назіральнікі, кансалідаваныя незалежныя мас-мэдыі, запачаткаваная мабілізацыйная кампанія, дасягнутая і захаваная згода ў стане рэальна апазыцыйных кандыдатаў.

Посьпех дэмакратычнага кандыдата на сёлетніх выбарах будзе наўпрост залежаць ад таго, ці зможа ён здабыць падтрымку гарадзкіх выбарцаў. 70% беларусаў – гараджане. Перамога ў 20 найбуйнейшых беларускіх гарадоў будзе азначаць перамогу ўва ўсёй краіне. Па-другое, шмат будзе залежаць ад таго, ці пойдзе на выбары моладзь і як прагаласуюць жанчыны.

*Апазыцыяй шмат зроблена: прыцягнутыя калясальныя рэсурсы, падрыхтаваныя назіральнікі, кансалідаваныя мас-мэдыі, захаваная згода рэальна апазыцыйных кандыдатаў.*

### АНТОНЧЫК ГУЛЯЕ НА ЛУКАШЭНКУ

**"НН": Як вы ацэньваеце вылучэньне Сяргея Антончыка пад радыкальна рэфарматарскімі лёзунгамі?**

**В.Б.:** Сяргей Антончык трапіў у кепскую кампанію. Фактычна разам зь Леанідам Сініцыным (і Фядутам, каардынатарам яго перадвыбарнай кампаніі), Віктарам Цярэшчанкам і ім падобнымі ён гуляе на карысьць прапрэзыдэнцкіх сілаў. Іх рыторыка шмат у чым падобная. Яны перш за ўсё навыперадкі крычаць аб намэнклятурнасьці, слабасьці і непапулярнасьці ў народзе пяцёркі сапраўды апазыцыйных кандыдатаў і сваёй гатоўнасьці "ўрваць" значную частку галасоў прапрэзыдэнцка настроеных выбарцаў.

Антончыка часткова адрозьнівае тое, што, апрача звыклага ўжо паліваньня граззёй памянёнай пяцёркі, ён прапануе відавочна абсурдную перадвыбарную праграму: за кошт знарочыста апазыцыйных лёзунгаў (спыненьне усякай інтэграцыі з Расіяй, імгненнае праведзеньне радыкальных эканамічных рэформаў), увядзеньне прыватнай уласнасьці на зямлю і г.д.) ён ставіць сабе мэту перацягнуць да сябе 5—10% традыцыйнага лукашэнкаўскага электарату.

Ня выключана, што лукашэнкаўцы бачаць у Антончыку той "трэці элемэнт"(роля першага, як высьвятляецца, адведзена Наталі Машэравай), з дапамогай якога можна істотна звузіць базу выбарчай падтрымкі рэальна апазыцыйных кандыдатаў. Такі сцэнар таксама быў апрабаваны падчас леташніх парлямэнцкіх выбараў. Нагадаю, што апрача Машэравай у той выбарчай акрузе, дзе балятаваўся Міхаіл Чыгір, улады ахвотна зарэгістравалі "радыкала" Аляксандра Фядуту, які дасягнуў неабыякіх посьпехаў – узяў трэцяе месца.

### ПАМЫЛКА ВІКА

**"НН": Ганс-Георг Вік назваў верасьнёўскія выбары «бітвай Давыда й Галіяфа». А па-Вашаму, чым яны будуць?**

**В.Б.:** Нягледзячы на ўсю сваю павагу да гэтага шаноўнага нямецкага дыплямата лічу такія заявы палітычна шкоднымі. Хоцькі-няхоцькі яны прывучаюць да думкі аб магутнасьці адных кандыдатаў і слабасьці іншых. Тым часам і Аляксандар Лукашэнка, і Сямён Домаш роўныя перад кожным беларускім выбарцам.

Што датычыць саміх выбараў, то яны будуць тым, чым і павінны быць: азартным палітычным шоў зь непрадказальным вынікам.

**Гутарыў Андрэй Дынько**


ВІЛЕНСКІ ПЭДАГАГІЧНЫ ЎНІВЭРСЫТЭТ

набірае студэнтаў

**па конкурсе атэстатаў**

на 1 курс дзённага і завочнага аддзяленьняў факультэту славістыкі па спэцыяльнасьці

**беларуская філялёгія**

На завочным аддзяленьні можна атрымаць дадатковую спэцыяльнасьць: **расейская філялёгія, польская філялёгія, мэтодыка пачатковага навучаньня, гісторыя культуры, журналістыка.**

Для грамадзянаў Літоўскай Рэспублікі, замежных грамадзян зь відам на жыхарства і літоўцаў, якія пражываюць па-за межамі Літвы,

**дзённае навучаньне бясплатнае.**

Завочнае навучаньне для замежных грамадзян і грамадзян Літвы платнае.

**Прыём дакумэнтаў:** на дзённае аддзяленьне — **з 18 чэрвеня да 7 ліпеня**
на завочнае — **да 15 верасьня**

**Падрабязная інфармацыя: Baltarusių filologijos katedra**
(катэдра беларускай філялёгіі)
**Studentų 39–527 2004 Vilnius Lietuva**
**тэл. (1037-02) 75-03-60, маб.т. (8-298) 06-710**

**Беларусістыка ў Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце**

Катэдра беларускай філялёгіі на факультэце славістыкі Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту працуе з 1991г.

Беларускае аддзяленне скончылі 40 чалавек. Выпускнікі працуюць у беларускай школе імя Скарыны, беларускіх клясах Вісагінасу, на радыё і тэлебачаньні, у школах Беларусі, працягваюць вучобу ў магістратуры ў Беларусі і Літве.

Сёньня на беларускім аддзяленьні вучыцца 85 чалавек, у асноўным выпускнікі расейскіх, літоўскіх і польскіх школаў Літвы. Сярод студэнтаў ёсьць таксама грамадзяне Беларусі, Украіны.

# Гутарка ў зоне чатырохмоўя

*Міжнародны сэмінар "Культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага, яе значэньне для сёньняшніх Беларусі і Літвы й узаемаразуменьня ў Эўропе" адбыўся ў Рымдзюнах на Астравеччыне*

***Сэмінар ладзілі Нацыянальны навукова-асьветны цэнтар імя Ф.Скарыны, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Літоўскі культурны, асьветны й інфармацыйны цэнтар у Рымдзюнах і Польскія інстытуты ў Вільні і Менску. У ім бралі ўдзел беларускія, літоўскія й польскія дасьледчыкі, сярод іх старшыня гістарычнага камітэту ЮНЭСКА, кіраўнік Інстытуту Сярэдне-Ўсходняй Эўропы, прафэсар Ежы Клачоўскі.***

Галоўнай мэтай сустрэчы была выпрацоўка новага супольнага для гісторыкаў новых краінаў падыходу да гісторыі ВКЛ, а таксама да міждзяржаўных стасункаў у нашай частцы Эўропы. Менавіта з гэткім разьлікам было абранае месца правядзеньня сэмінару — вёска ў Беларусі зь пераважна літоўскім насельніцтвам.

Значная частка жыхароў Рымдзюнаў, Гервятаў ды іншых навакольных вёсак лічаць сябе літоўцамі, хаця прозьвішчы ў іх збольшага беларускія. Паводле статыстыкі, літоўскае насельніцтва складае 0,2% жыхароў сучаснае Гарадзеншчыны. Яно засяроджанае ў 15 вёсках у рымдзюна-гервяцкім краі ды ў Пелясе на Лідчыне.

Прыкметы мінуўшчыны бачныя ў Рымдзюнах на кожным кроку. Вясковая вуліца, што цягнецца ўздоўж лугоў над рэчкай Ашмянкай, захавала сваю пляніроўку з часоў Боны Савойскай. Традыцыйныя хаты ў два акны, пуні да павеці з закалотамі, бусьлянкі... Вось толькі касьцёлу няма. Каб памаліцца, трэба ісьці чатыры кілямэтры — у родную вёску Адама Мальдзіса, Гервяты. Там у прыгожым мураваным касьцёле у 30-я гады літоўцы зацята біліся з "палякамі", дамагаючыся, каб набажэнствы ішло па-літоўску. "Вось дурні былі!" — кажуць рымдзюнскія кабеты пра тыя бойкі ў касьцёле.

Ціпер у Гервятах ранішнюю імшу служаць на літоўскай мове, а вечаровую — на польскай. Рымдзюнцы дасканала зрэалізавалі ў сваім жыцьці ідэал чатырохмоўя: яны аднолькава добра размаўляюць і па-літоўску, і па-беларуску, нядрэнна разумеюцца па-польску, дый па-расейску гутараць ня горш за чыноўных апалягетаў імпэрыі. Ня дзіва, што побач з рымдзюнскімі кабетамі, якія нязмушана пераскокваюць з адной мовы на другую, навукоўцы з розных краінаў пачуваліся невукамі.

**Палякі дасканала разумеюць розьніцу паміж незалежным беларускім грамадзтвам, якое паўстае, і аўтарытарнай лукашэнкаўскай дзяржавай.**

Кабеты ў Рымдзюнах надзвычай разумныя і маюць на кожны конт собскае меркаваньне. Адзінае, пра што ў іх няма цьвёрдае думкі — гэта пра выбары. Да Лукашэнкі рымдзюнскія жанчыны ставяцца дваіста. Цямяць, што ён цягне краіну "ў ня той бок", але баяцца, што "безь яго яшчэ горш будзе".

Вяскоўцы зь міжвольным захапленьнем глядзяць на "ліхога казака", які падмяў пад сябе цэлую краіну і ня хоча падпарадкоўвацца ні дзяржаўным законам, ні сусьветнай супольнасьці. Старэйшыя кабеты мяркуюць таксама, што Лукашэнка ня ведае пра іхную бяду, а як даведаецца, дык абавязкова ўсё паправіць...

Тым часам сярэдні заробак рымдзюнскіх калгасьнікаў — 15—20 тысяч рублёў у месяц. Прычэп жа дроваў каштуе 30 тысяч. Бульба апошнім часам ня родзіць — відаць, гатунак выеўся — летась зусім мізэрная была, трэ было купляць у суседнім калгасе. Вяскоўцы, хоць і немаладыя ўжо, па-ранейшаму трымаюць дзьве каровы, але прадаць малако і мяса ў блізкай Вільні ціпер немагчыма — на мяжы адбяруць увесь тавар. Ня дзіва, што жыхары спакушаюцца на кантрабандны гандаль сьпіртам, папулярны на Астравеччыне бізнэс. Нават міліцыя займаецца гэтым. Заадно народ хутка сьпіваецца. У адных толькі Рымдзюнах тры дзясяткі алькаголікаў.

За савецкім часам багата беларускай моладзі перабралася на жыхарства ў Літву. Зьяжджалі ў Вільню, у Ігналіну — будаваць АЭС. Літоўскія гарады вабілі дабрабытам, эўрапейскай культурай побыту. Ціпер літоўскія беларусы езьдзяць дамоў празь мяжу — трэ бацькам дапамагчы ўпорацца з бульбай, накасіць сена. Дый дзецям нялішне падыхаць чыстым паветрам... Аднак літоўскаму грамадзяніну, каб трапіць на гістарычную радзіму, трэба выкласьці ў беларускім консульстве 50 даляраў ды шчэ на мяжы заплаціць ладныя грошы за праезд машынай. Во й падлічыце, колькі грошай трэба віленчуку, каб наведаць бацькоў у ашмянскай вёсцы.

Літоўская дзяржава ставіцца да гэткіх праблемаў з большым разуменьнем. Яшчэ нядаўна віза ў Літву каштавала для беларуса 40 даляраў. Ціпер крыху патаньнела, а для пэнсіянэраў яна ўвогуле дармовая. Дзеці беларускіх літоўцаў маюць істотныя льготы пры паступленьні ў навучальныя ўстановы Літвы. Таму ў невялічкіх Рымдзюнах дзьве школы — літоўская і беларуская — і два дзіцячыя садкі. А 18 сакавіка тут адчыніўся шчэ й Літоўскі культурны, асьветны й інфармацыйны цэнтар, дзе разьмясьціліся літоўская школа-інтэрнат, пара канфэрэнц-заляў, бібліятэка, музэй, выстаўная й актавая залі, гатэльныя нумары для гасьцей, сталоўкі, кавярня... Грошы на будаўніцтва, распачатае за савецкім часам, давала Літва. Адтуль прывозілі будаўнічыя матэрыялы і саміх будаўнікоў. Аднак і Міністэрства культуры Беларусі вельмі дапамагло сродкамі.

Такога беларускага культурнага цэнтру ў Літве няма. А што вы хочаце, браткі літоўскія беларусы, прытулілі там Шарэцкага, ды яшчэ на "Балтыйскіх хвалях" на паўкраіны вяшчаеце!..

На побытавым узроўні беларусафобія ў Літве заўжды адчувалася больш выразна, чым літуанафобія ў Беларусі. Аднойчы ў размове зь літоўскім прафэсарам музыкі я пахваліла віленскую бітую сьмятанку. "Найлепшую сьмятанку можна пакаштаваць хіба ў Шаўлях, — адказаў прафэсар. — А ў Вільні яна ўвогуле нясмачная, бо ў прыгарадных вёсках жывуць брудныя палякі". Хто гэтыя палякі, удакладняць ня трэба. Гэткае стаўленьне да беларусаў сустракаецца і ў літоўскай навуцы. Ніколі не забудуся, як у працы аднаго ковенскага прафэсара гісторыі прачытала, што стварэньне саюзу Беларусі й Расеі — добрая зьява, бо такім чынам з часам беларусы перастануць прэтэндаваць на спадчыну Вялікага Княства.

Сустрэча ў Рымдзюнах мелася выправіць гэткае становішча, але беларускія й літоўскія навукоўцы нібыта сьвядома пазьбягалі зьмястоўнае размовы. Ролю пасярэднікаў у нязьдзейсьненай дыскусіі ўзялі на сябе палякі. Яны заклікалі адмовіцца ад стэрэатыпнага ўспрыманьня супольнай гісторыі і на гэтай аснове будаваць новыя адносіны між дзяржавамі і народамі. Прафэсар Ежы Клачоўскі сымбалічна папрасіў прабачэньня за "гістарычны польскі імпэрыялізм", празь які й самі палякі страцілі ўяўленьне пра сваю нацыянальную ідэнтычнасьць.

Уяўленьне пра "Рэч Паспалітую абодвух народаў", паводле якога палякі былі народам палітычным і шляхецкім, а ліцьвіны — вясковым і прыгонным, і абодва народы лічыліся дзьвюма іпастасямі "адзінай і непадзельнай" Польшчы, "было вялізнай памылкай палякаў", — сказаў прафэсар Клачоўскі, — "бо Рэч Паспалітая і тым больш Вялікае Княства — гэта зусім ня Польшча. Гэта супольны твор многіх народаў, якія жылі ў тых дзяржавах".

**ВКЛ і Рэч Паспалітая традыцыйна разглядаліся як "слабыя" дзяржаўныя ўтварэньні. Аднак Статут ВКЛ, зацьверджаны ў 1588 г., дзейнічаў 252 гады!**

Каб падкрэсьліць прынцыповую роўнасьць усіх, хто насяляў "Рэч Паспалітую многіх народаў" — беларусаў, габрэяў, літоўцаў, палякаў, татараў, украінцаў, польскія дасьледчыкі нават пералічваюць іх выключна ў альфабэтным парадку, гэта асабліва заўважна пры параўнаньні з расейскай традыцыяй, у якой "братнія славянскія народы" заўжды распачынаюцца са "старэйшага брата".

Розьніца ў мысьленьні адбіваецца на палітыцы. Расея настойліва імкнецца да апекі над Беларусяй, тады як Польшча бачыць на ўсходзе раўнапраўнага партнэра, зь якім яе лучыць супольная і непадзельная гістарычная спадчына. Польшча прызнае ўсе крыўды, зробленыя беларусам у мінулым стагодзьдзі, і просіць за іх прабачэньня. Яна выяўляе сваю сымпатыю ў канкрэтных учынках на карысьць беларускага грамадзтва: падтрымлівае беларускую культуру, дзеліцца сваім досьведам дэмакратыі, спрыяе ўваходжаньню Беларусі ў Эўропу.

Польшча ня мае намеру адгароджвацца ад нас візавай заслонай, нават калі Эўразьвяз змусіць яе да гэтага. "Бязь візаў нам не абысьціся, але каштаваць яны маюць прыкладна, як квіток у кіно", — тлумачылі мне ўдзельнікі канфэрэнцыі. З гледзішча польскіх інтэлектуалаў, Беларусь — арганічная частка Эўропы, якую нельга адасабляць ад агульнаэўрапейскае прасторы.

На думку прафэсара Клачоўскага, галоўнымі фактарамі, якія ядналі народы Рэчы Паспалітай, былі прыналежнасьць да Эўропы і глыбокая прывязанасьць да эўрапейскіх каштоўнасьцяў. Яны яшчэ зь Сярэднявечча назапасілі досьвед суіснаваньня ў межах адной дзяржавы, ад якой засталіся ў спадчыну рэлігійная талерантнасьць і падмуркі грамадзянскай супольнасьці. Таму, мяркуе ён, мы арганічным чынам належым да Эўропы, хаця гэта не заўжды ўсьведамляецца: нават высокаадукаваныя замежнікі часьцяком упэўненыя, што нашыя народы прынялі хрысьціянства ў XVII ст.

З гледзішча тэарэтычнай канфліктальёгіі, Сярэдне-Ўсходняя Эўропа, часткаю якой мы зьяўляемся, — вельмі небясьпечны рэгіён. Пасьля распаду савецкай імпэрыі эўрапейскія навукоўцы прагназавалі ўзброеныя канфлікты паміж Украінай і Польшчай, Польшчай і Літвой, Літвой і Беларусяй. Для нас, нашчадкаў Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай, гэткія прагнозы выглядаюць дзіка.

**Без увядзеньня візавага рэжыму Польшчы не абысьціся, але каштаваць візы маюць, як квіток у кіно.**

Сёлета ў Польшчы выйшла кніга нямецкага прафэсара Кляўса Цэрляка "Расея і Польшча". На думку аўтара, пагібель Рэчы Паспалітай, што сталася вынікам змовы Расеі і Прусіі, прывяла адначасова й да краху Сьвятарнай Рымскай Імпэрыі, якая будавалася на супрацоўніцтве паміж эўрапейскімі краінамі. З гэтага, на думку Цэрляка, пачалася трагедыя Нямеччыны, бо традыцыя ў гэтай краіне была тым самым зламаная, і адсюль усе няшчасьці — ад Бісмарка да Гітлера. Сёньня Эўропа зьвяртаецца да досьведу Сьвятарнай Рымскай Імпэрыі й Рэчы Паспалітай, займаючыся будаваньнем Эўразьвязу.

ВКЛ і Рэч Паспалітая традыцыйна разглядаліся як "слабыя", нежыцьцяздольныя дзяржаўныя ўтварэньні. Аднак Трэці статут Вялікага Княства, зацьверджаны 28 студзеня 1588 г., быў скасаваны толькі ў 1840-м. Прававое поле ў Вялікім Княстве было акрэсьленае вельмі выразна, і грамадзтва трымалася ў яговых межах, нават калі дзяржава зьнікла. Гэта ўнікальны прыклад таго, як грамадзтва выявілася мацнейшым за дзяржаву й нейкі час пасьпяхова супраціўлялася ціску імпэрскай машыны. Палякі трымаліся яшчэ больш упарта. Менавіта таму яны яшчэ ў 1918 г. вызваліліся ад іншаземнага ярма і здабылі незалежнасьць.

Дый мы пачынаем з усё большай пэўнасьцю ўсьведамляць, што адзіны шлях да рэальнае незалежнасьці Беларусі — гэта адраджэньне грамадзянскае супольнасьці. Сёньня яна складаецца зь людзей, якія пачуваюцца нашчадкамі вялікай эўрапейскай традыцыі ды ўсведамляюць сваю адказнасьць за лёс краіны. Пераважная большасьць гэтых людзей размаўляе па-беларуску.

Менавіта на іх арыентуецца сёньня польская дзяржава ў сваёй усходняй палітыцы. Польскія навукоўцы, журналісты і дыпляматы дасканала разумеюць розьніцу паміж незалежным беларускім грамадзтвам, якое паўстае, і аўтарытарнай лукашэнкаўскай дзяржавай.

"Гісторыя — гэта палітыка, перакуленая ў мінулае", — казаў Сталін. І многія дагэтуль намагаюцца стварыць гісторыю паводле гэтага прынцыпу. Напраўдзе ж, усё наадварот. Палітыка − гэта гісторыя, пераасэнсаваная дзеля будучыні. І толькі такая палітыка мае шанцы на посьпех у цяперашнім сьвеце. Таму "часам ціхая гутарка ў вузкім коле інтэлектуалаў больш уплывае на лёсы сьвету, чым гучныя дыспуты палітыкаў", — як сказаў пасол Польшчы ў Беларусі Мар'юш Машкевіч на сэмінары.

**Юлія Андрэева**

# Посуд японскі, сэрвіс беларускі

**Выстава японскай керамікі адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музэі ў Менску. У нас таксама спрадвеку рабілі з гліны мноства самых розных рэчаў – ад посуду да цацак. Заўсёды цікава назіраць, што могуць зрабіць з таго самага матэрыялу людзі з абсалютна іншым сьветаглядам.**

Зазначу адразу, у японцаў зьдзівіць атрымалася. Посуд самых разнастайных формаў — ад традыцыйнай да неверагодна мадэрновай — то нагадваў знаходкі беларускіх археолягаў, то прыводзіў на памяць карціны Лёніка Тарасэвіча. Асабліва ўразіла талерка са зробленай знарок расколінай: галубы, якія ўпрыгожвалі посуд, нібыта імкнуліся зьляцець з малюнка і сваім памкненьнем разьбівалі талерку...

Арганізатары выставы зь японскага боку — Японскі фонд і японскае пасольства ў Беларусі — зрабілі ўсё, каб зацікавіць гледачоў. Раздаваліся часопісы "*Nipponia*", буклеты, прысьвечаныя Японіі, каляровыя рэклямныя афішкі выставы. Былі й прэс-рэлізы па-расейску й па-беларуску.

Беларускі тэкст прэс-рэлізаў (як пазначана, пераклад Ю.Піскуна) зеўраў такімі "чорнымі дзіркамі" й "белымі плямамі", што нават згадваць сорамна. На шчасьце, прамінуліся тыя часы, калі беларусы радаваліся кожнай падачцы. Гонар падказвае, што нельга называць беларускамоўнымі тэксты, дзе пасьлядоўна прапускаюцца скарачэньні над "ў" і кропачкі над "ё". І нельга называць беларускамоўнымі тэксты, дзе русізмы сустракаюцца бадай у кожным сказе. І нельга ўвогуле называць пісьменным гэткі сказ: "Не гледзячы на тое, што з пачатку 17 ст. Токіо быў палітычным і культурным цэнтрам краіны, але паколькі гліняных радовішчаў там не існавала, таму Токіо не быў традыцыйным цэнтрам ганчарства". Адчуваецца ў такім перакладзе ўсё хараство японскае мовы. Ці вычытваў гэта хоць хто, апроч "перакладчыка"? А ці вычытваў нехта ўпарта паўтараныя словы "цэрэмонія" і "парцэляна"?

Дый прэзэнтацыя выставы была арганізаваная — абы з рук. Арганізатары не ўлічылі акустыку памяшканьня, і да часткі прысутных даляталі толькі ўрыўкі фразаў: "Часовы павераны ў справах Японіі...", "намесьнік культуры..." (менавіта так!). Аднак уражаньне ад прыгожай выставы ня змажаш такімі недарэчнасьцямі. Застаецца хіба спадзявацца, што наступным разам японская "дзяржпрыёмка" пракантралюе "нашых перакладчыкаў".

**Дзя Дзэн Ка**

# Таямніца Сахнавіцкага возера

**Пра існаваньне Сахнавіцкай пячоры я ведаў ужо 31 год таму. Аднак "склеп, у якім стаялі труны", не спакушаў на вандроўку ў тую мясьціну. Нейкі там "склеп, у якім стаялі труны"! Тым ня менш, гэтыя словы ніколі не выходзілі ў мяне з галавы, нават тады, калі жыў у Латвіі — адпрацаваў там прарабам 15 гадоў.**

**Супрацоўнікі і валанцёры газэты "Вольнае Глыбокае" вырашылі арганізаваць краязнаўчыя экспэдыцыі ў самыя аддаленыя ваколіцы Глыбоччыны. Было адчуваньне, што Глыбоччына — яшчэ нязьведаны край. Але каб настолькі, як аказалася потым, мы нават і ўявіць не маглі...**

**Завіталі ў вёску Псуя да краязнаўцы Івана Волкава, колішняга дырэктара мясцовай школы, цяпер пэнсіянэра. Ён зьбірае "дыямэнты роднай мовы", апрацоўвае мясцовыя паданьні. Мы зацікавіліся легендамі пра Сахнавіцкае возера — трэцяе паводле глыбіні возера Беларусі (43,3 м), дзе водзіцца рэдкая для нашага краю рыба стынка.**

Уладзімер Скрабатун

*Беларусь — краіна маляўнічая, багатая цудоўнымі мясьцінамі... Тут на кожных дзесяці вёрстах знаходзяцца месцы і вiдарысы, у дзясяткі разоў прыгажэйшыя за славутую Лівонскую Швайцарыю.*

*Фадзей Булгарын, 1835 г.*

*"На беразе возера, у густых хмызьняках, можна жыць некалькі дзён, нікога не сустрэўшы. Але калі гарэзьлівыя хлапчукі з суседняй вёскі знойдуць вас, яны абавязкова пакажуць вам самае адлеглае і цікавае месца, дзе на стромым схіле возера бачны ўваход у каменны склеп. Ён зьвіўся пасьля абвалу, які адбыўся гадоў 20 таму. У склепе — тры вузкія адтуліны, у якіх раней, верагодна, стаялі труны. Цяпер жа лёх стаў адной са славутасьцяў тутэйшых мясьцін", — такія радкі прысьвяціла Сахнавіцкаму возеру дасьледчыца беларускіх азёраў Вольга Якушка (О.Ф.Якушко, "Край голубых озёр". Менск: "Ураджай", 1969).*

## Заваражаныя дары (паданьне першае)

Дзьве сястры, Феафанія і Леанора, доўгі час жылі ў Варшаве. Іх мужы былі пры каралеўскім двары, не шкадавалі сродкаў і сваім жонкам, яснавяльможным паням, рабілі ім шыкоўныя дарункі: залатыя пярсьцёнкі і ланцужкі, бранзалеты, дарагі посуд, рэдкія ўпрыгожаньні з пэрлін і каштоўных камянёў.

У час падзелу Рэчы Паспалітай мужоў арыштавалі і вывезьлі ў Расею, а пані Феафанія і Леанора вярнуліся ў родныя мясьціны, прыхапіўшы дары сваіх багатых мужоў. Аднаго баяліся яснавяльможныя пані: каб прывезеныя імі дары, незьлічоныя багацьці ня трапілі ў рукі новых расейскіх уладаў. І вырашылі яны прыхаваць свае шматлікія каштоўнасьці ў пячоры, што знаходзілася ў стромах Сахнавіцкага возера. Варшаўскія пані зьвярнуліся да старэнькага дзядка, варажбіта і ведзьмара. Дзядок-вядзьмар заваражыў прывезеныя з Варшавы дары, прачытаўшы над імі хітрую замову. Узяць заваражаныя дары можна толькі нашаптаўшы гэтую ж замову тры разы і тройчы прамовіўшы: "Разваражыцеся, дары!". Хутка шаноўныя пані памерлі, а дары засталіся ў пячоры.

Здараецца такое: хтосьці рызыкне спусьціцца ў лёх, у яго пачынае круціцца ў галаве, займае дых, падкошваюцца ногі, і ён, як корак, вылятае адтуль.

## Напалеонаўскі скарб (паданьне другое)

Бязладна беглі, адступалі войскі заваёўніка Напалеона, а зь імі пляліся цяжкія фурманкі з нарабаваным у Расеі і Беларусі скарбам: золатам, пэрлінамі ды іншымі дарагімі рэчамі. З Полацку французы падціскала расейскае войска.

У Празароках абозы зьвярнулі ў напрамку на Чарневічы, каб выйсьці на Кацярынінскі бальшак Дзісна-Лужкі-Вільня. За вёскай Касарова абозы спаўзьлі ў лагчыну, а ўзьняцца на пагорак не змаглі: перашкаджаў вялікі галалёд, а большасьць коней, нарабаваных у беларускіх сялянаў, былі непадкутыя.

Напалеонаўскія ваякі вырашылі пасыпаць пяском кавалак дарогі да Сахнавіцкага возера, завезьці туды нарабаваныя скарбы і прыхаваць іх у склепе надазёрнай стромы. Сказалі — зрабілі. Абозы хутка былі разгружаны, а напалеонаўскія ваякі, нібы Марка па пекле, па коўзкай дарозе праз Чарневічы і гразкую пойму ракі Авуты выпаўзьлі на Віленскі тракт і ўжо бязь цяжкіх абозаў шпарчэй рушылі да сваёй Францыі. А незьлічоныя напалеонаўскія скарбы і па сёньняшні дзень прыхаваныя пад скляпеньнямі ў стромах Сахнавіцкага возера.

## Склад зброі (паданьне трэцяе)

Гасьцінец ад Язна да Празарок быў забіты павозкамі з вайсковай амуніцыяй. Казакі пад кіраўніцтвам легендарнага Гая прарвалі польскую абарону і калёнамі на Лужкі й Празарокі рушылі на захад. Польскія вайсковыя абозы былі сьпешна павернуты на Касарова, а адтуль рушылі да стромаў Сахнавіцкага возера. Каб зброя ды іншая вайсковая амуніцыя не дасталіся бальшавікам, яе згрузілі ў сахнавіцкі склеп. Сярод амуніцыі былі вялікія мэталічныя бочкі з атрутнымі рэчывамі. Вось чаму з тым, хто адважыцца спусьціцца ў склеп, адбываюцца дзіўныя здарэньні: сьмяльчак пачынае задыхацца, падступаюць ваніты, зьнікае сіла ў нагах, і ён куляй вылятае са склепу і доўга адлежваецца на зямлі, каб ачуняць.

У хлопцаў загарэліся вочы, слава скарбашукальніаў мінулага не давала ім спакою цэлы тыдзень. Як потым я даведаўся, адзін зь іх яшчэ пару гадоў таму ў глыбоцкай кнігарні набыў *"Энциклопедию кладоискателя"*. Дарэчы, гэтую кнігу, увесь завезены наклад, глыбачане вымелі з кнігарні за два дні. Вось чым у нас цікавіцца народ!

Я выказаў свае сумневы. Якія там "незьлічоныя скарбы"?! Каб яны і былі там некалі, дык іх ужо даўно бяз нас разрабавалі б. Дый Іван Волкаў раіў туды ня лезьці. Але ніхто не схацеў упускаць свой шанец...

І вось, мы ўпершыню ступілі на бераг Сахнавіцкага возера, возера цудоўнай прыгажосьці, больш падобнага да вялікае ракі, шырынёй да 200 мэтраў, што віецца між пагоркаў. Даўжыня яго — два з паловай кілямэтры. Стромкія, нібы ў каньёна, схілы, крыштальнай чысьціні вада. Зьдзівілі нас і дрэвы на стромах, якія на Глыбоччыне насаджаныя толькі ў парках, а тут растуць у натуральных умовах: клён, граб, ясень, ліпа. Шмат векавых дубоў. Вада б'ецца ў стромкі бераг, падмываючы карані дрэваў. Бераг амаль вэртыкальна ўзьнімаецца ўвышыню, яго часта пераразаюць глыбокія яры, дно якіх скрозь усыпана вялікімі й амшалымі валунамі. На стромах, пад разьлеглымі шатамі дрэў, трава амаль не расьце. Ісьці вельмі цяжка, варта аступіцца, спатыкнуцца, і ты потырч паляціш уніз, у ваду.

## Легендарная пячора

У першы раз нам досыць доўга давялося шукаць легендарную пячору. Распыталі мужыка, які навязваў каня ля возера. Напачатку ён быў негаваркі. Мабыць, наш выгляд і "Пагоня" на барэтах навялі яго на думку, што прыехаў "рыбнагляд" ці ўлада зьмянілася. Але як далі запаліць і налілі чарку, то дужа хутка знайшлі супольную мову, а потым і супольных знаёмых.

І вось, на вершаліне стромы — сапраўдная пячора. У тоўшчы скалы — тры вузкія, як у лісінай нары, лазы. Пры візуальным агглядзе ўзьнікла адразу шмат пытаньняў. Найпершае зь іх: пячора — гэта штучнае збудаваньне? На гэта паказвала пярэдняя частка аб'екту, быццам вымураваная з палявых валуноў на белай вапнавай рошчыне. Уражаньне такое, што нехта некалі вывальў на адхон некалькі самазвалаў бэтону, зрабіўшы папярэдне тры адтуліны-лазы. Аднак які сэнс у чыстым полі, удалечыні ад якога паселішча, ды яшчэ над абрывам, узводзіць склеп, хай сабе й для трунаў? Па-другое, стваралася ўражаньне, што даволі даўно тут адбылася нейкая катастрофа: уваход усярэдзіну засыпаны жвірам, а пярэдняя частка сьцяны скалы каля ўваходу ў пячору мае як быццам адлом, накшталт сколу на адбітай малатком цагліне.

У першы раз трапіць усярэдзіну пячоры нам не пашчасьціла: прыехалі непадрыхтаванымі. Уваход засыпаны. Трэба браць сапёрныя рыдлёўкі, ліхтарыкі і даўгую вяроўку для страхоўкі.

Другая наша вандроўка сталася больш выніковай. У першы раз, захопленыя доўгімі пошукамі легендарнай пячоры, мы шмат чаго не заўважалі. Аказваецца, то тут то там на подступах да пячоры, на адхонах сахнавіцкіх стромаў выходзіць вонкі аголеная скальная парода. Часам у яе ўпіваецца карэньнем дзябёлая ліпа ці граб. У глыбокім яры, які ўпіраецца проста ў возера, пераразаючы бераг, знайшлі яшчэ тры пячоркі, можна сказаць, гроты, падобныя да нішаў у сьцяне. Зьявілася думка, што асноўная пячора мае шмат бакавых уваходаў і выйсьцяў; пад зямлёй, у нетрах вялікай скалы, існуе сапраўдны падземны горад, "андэграўнд".

Праз вузкі лаз з дапамогай сапёрнай рыдлёўкі дваім сябрам экспэдыцыі пашанцавала пранікнуць усярэдзіну аб'екту на шэсьць мэтраў. Там можна было прыўзьняцца па палову росту. Сьвятло ліхтарыка выхапіла цэлую арду камароў, якія падрыхтаваліся да зімоўкі, а цяпер ашалелі ад дыму "Прымы". Бегалі там і дзьве яшчаркі. На скале былі плямы крыві. Пэўна, тут час ад часу ласуюць са здабычы тхор ці лісіца. Скляпеньні і сьцены пячоры — зь пяшчаніку. Можна адкалупаць пласьцінку: зьляжалы, бы прамыты начыста, дробны жвір. Пласьцінка не рассыпаецца ў руках, а ламаецца на кавалкі, нібы шакаляда.

На гэтым — усё! Ход далей засыпаны жвірам уперамешку з вапняком. Дарогі наперад няма. Відаць толькі вузкая норка, якая ідзе ўглыб карставай скалы. Пралезьці туды можа хіба што кот. Адтуліна пакідае яшчэ нейкую надзею — там далёка схаваныя "заварожаныя дары", але дастаць іх ня хопіць жыцьця, бо трэба перавярнуць не адну сотню кубамэтраў жвіру з камянямі.

Я з натуры не пэсыміст, я — рэаліст.

— Мальцы, — кажу я, — досыць верыць у казкі. Ці мала хто мог прыдумаць усе гэтыя байкі пра "золата скіфаў", "бочкі з пэрлінамі і золатам", якія патапілі ў беларускіх азёрах ваякі Напалеона, адступаючы пад націскам расейцаў... Будзем прыяжджаць сюды адпачываць, смажыць шашлыкі, купацца, лавіць рыбу, гатаваць юшку. Прыедзем на пару дзён, паставім намёты, абыдзем усю берагавую лінію: можа, знойдзем яшчэ якія пячоры ці іншыя цікавінкі. Урэшце арганізуем летнік для скаўтаў, акультурым, вычысьцім пячору хоць і на гэтыя шэсьць мэтраў. Прапануем уключыць яе ў турысцкі маршрут па Глыбоччыне.

За зіму высьветлілася, што такіх вар'ятаў, як мы трое, у Глыбокім нашмат больш. І яны шукалі скарбы ў іншых месцах на Глыбоччыне незалежна ад нас. Урэшце наша суполка вырасла да дзесяці чалавек, у выніку чаго паўстала нефармальная краязнаўча-экалягічная група "Сэрвач". Арсэнал сродкаў для пошуку скарбаў значна павялічыўся: зьявіўся нават мэталяшукальнік. Тут мой аўтарытэт краязнаўцы і аўтара кнігі "Глыбокае на старых паштоўках" значна падупаў. Мяне ўжо ніхто ня слухаў. Усе чакалі лета і мроілі толькі аб адным — дайсьці да канца, чаго б гэта ні каштавала!

## Пакуль паходні ня гасьлі

За паўгоду (зіма й вясна) нечакана знайшліся "сьведкі", якія некалі нешта чулі ці бачылі або трапялі ў гэтую пячору некалькі дзесяцігодзьдзяў таму. Па сьведчаньнях адных — двое хлопцаў з паходнямі ва ўвесь рост(!) забраліся ў пячору. Праходзілі некалькі дзясяткаў мэтраў, пакуль паходні ня гасьлі і дыхаць ужо не было чым. Вярталіся назад. Па іх меркаваньнях, ход ідзе ажно пад дно возера(!).

Паводле другога сьведчаньня, трое дзяцей-школьнікаў, два хлапчукі й дзяўчынка, недзе пасьля вайны адлучыліся ад сваёй клясы, якая побач працавала на калгасным ільне. Яны зь ліхтарыкамі прабраліся ўглыб пячоры і прабылі там каля чатырох гадзін. Настаўніца спахапілася і пачала іх шукаць. Знайшла гадзін праз пяць, калі тыя ўжо вярталіся. На яе ўшчуваньні яны адказалі так: "Каб Вы ведалі, як там прыгожа! Мы не хацелі вяртацца. Там на сьценах з рознакаляровых каменьчыкаў выкладзена мазаіка...".

Пачуўшы такое, ніводзін з нас ня мог утрымацца ад далейшых пошукаў. Летам цягам трох экспэдыцый мы расчысьцілі лаз, і нам пашанцавала пранікнуць углыб яшчэ на чатыры мэтры. Вынік такі: галава ўпіраецца ў скалу, і жывот на скале, дзьве паверхні, дол і верх, зьліліся ў адно цэлае. Тупік! Усе мары аб адкрыцьці глыбоцкага "андэграўнду" і аваловданьні "незьлічонымі скарбамі" абрынуліся ў адно імгненьне, як картачны дамок! Канец пошукаў???

Адзіным задавальненьнем было толькі тое, што мэтраў за 70 далей на поўдзень я знайшоў яшчэ адну невялічкую пячору-грот, пра якую да гэтага часу ня ведалі. Цяпер іх, пячор і гротаў, разам будзе пяць... Зьвярнуў я ўвагу на тое, што ў возеры, на плыткаводзьдзі, валяюцца кавалкі карставай пароды, якая невядома якім чынам сюды трапіла. Часам ля самага берагу вада абмывае ладныя фрагмэнты скалы, на якой, упіўшыся карэньнямі, расьце вялікая вольха ці ліпа...

Расчараваным хлапцам я параіў: "Едзем у бліжэйшую вёску! Знойдзем старога дзеда. Распытаем. Можа, усё гэта казкі, хлусьня!.."

## У Сахнавічах

Заехалі ў Сахнавічы. Каля адной хаты старая лушчыла фасолю. Прадстаўляемся гісторыкамі і журналістамі. Распытваем пра пячору. Старая кажа, што "нічога ня чуе, глухая, расказваць нічога ня будзе". Паклікала гаспадара.

Гаспадар Павал, на шчасьце, аказаўся дужа гаваркі. Вельмі ахвотна адказваў на пытаньні. Ён пацьвердзіў некаторыя вэрсіі, іншыя абвеpг. Чутка аб тым, што немцы падчас апошняй вайны зрабілі ў пячоры склад зброі, была лухтой.

— Немцы кватаравалі ў Сахнавічах у сялянскіх хатах, але складу зброі ў пячоры не рабілі. Мне тады было пятнаццаць гадоў, і я ўсё памятаю, што тут адбывалася, — зазначыў гаспадар.

— У пячору мы з мальцамі хадзілі, і не аднойчы. На ўвесь рост, з паходнямі ішлі да таго часу, пакуль паходні ня гасьлі і дыхаць не было чым...

Наконт таго, што "дыхаць не было чым", адзін зь сяброў нашай экспэдыцыі заўважыў: "Карставая парода. Шмат вапняку. Ідзе рэакцыя, вылучаецца вуглякіслы газ. Ня дзіва, што "дыхаць не было чым" і "гасьлі паходні".

На пытаньне: "Якой гэта магла быць адлегласьць?" — паказаў рукой: "Як ад хаты да хлява". Да хлява, як між тэлеграфнымі слупамі — крокаў 50.

Са словаў сьведкі, уваход у пячору быў "акультураны". Ён быў вымураваны з камянёў на вапнавай рошчыне, зачыняўся дзьвярыма. Калі гэта было зроблена і для чаго, ня ведаў і не памятаў нават ягоны бацька, які пражыў 91 год(!).

І вось мы падышлі да фінальнай рысы. Што сталася зь пячорай? Чаму няма таго ўваходу і дзьвярэй? Чаму яна засыпана?

— Пасьля вайны тут валялася шмат зброі, якую пакідалі немцы, уцякаючы ад савецкіх войскаў. Возьмем з мальцамі толу па два кавалкі, бікфордаў шнур, закладзём у сьцяну, адбяжым на кілямэтар... Як бабахне! Слуп чорнага дыму над лесам! Кавалкі пячоры ляцяць ва ўсе бакі і ў возера таксама... Потым зноў закладзём! Як бабахне!.. Усё хацелася паглядзець: што там усярэдзіне?

— Можа у вас, мальцы, — пытаецца Павал, — ёсьць тол?! Давайце бабахнем яшчэ раз ды паглядзім, што там унутры!

## Уваход у яе быў вымураваны з палявых валуноў на вапнавай рошчыне і зачыняўся дзьвярыма. Пра час паходжаньня і прызначэньне гэтага аб'екту ня ведае і не памятае ніхто. Паданьні ж сьцьвярджаюць, як заўжды: там ляжаць незьлічоныя скарбы.

Мы пачалі пераконваць старога, які меў надзіва нездаровую для 71-гадовага чалавека дзіцячую спакусу "бабахнуць яшчэ раз".

— Ня трэба гэтага рабіць: дзякуючы Вам у Беларусі зьнішчаны ўнікальны гістарычны аб'ект. Такім чынам нічога не даведаешся, а толькі зашкодзіш! Мы не зьбіраемся нічога "бабахаць", а наадварот, хочам дасьледаваць...

Дзед паабяцаў усяляк нам спрыяць, нават вылучыць сваю ўласную лодку, якую гэтым летам адрамантаваў. Скардзіўся на браканьераў, якія электравудамі губяць шмат рыбы, а самога іхнага ўлову ня будзе і вядра. Пра возера сказаў, што яно дасягае больш як 100 мэтраў (у сапраўднасьці 43,3 м) у глыбіню, "а шчупакі там, як кракадзілы!.."

### Прадаеціца фэрмэрскі фальварак

На супрацьлеглым усходнім беразе возера на строме знаходзіцца аб'ект, занесены ў даведнікі па садова-паркавым мастацтве Беларусі. Там быў фальварак Саньнічкі. Стары яшчэ памятаў прозьвішча пана, які ім валодаў, — Матошка. Яго ў 1939 г. бальшавікі саслалі ў Сібір. Цяпер у двухпавярховым драўляным будынку жыве фэрмэрская сям'я, якая адкупіла яго ў дзяржавы. Па вярстаньні ў Глыбокае мы вырашылі завітаць туды.

Пры ўезьдзе ў фальварак у ліпавай прысадзе — вялікая сажалка. Дарога ўпіраецца ў сятчатую агароджу і жалезныя весьнічкі. На пагорку — стары, з чатырохкалённым парталам і мансардаю будынак, у якім час яшчэ ня зьнішчыў рысы добрай архітэктуры. На панадворку бегаюць ладныя велрукі. Далей — абрысы парку зь вялікімі дрэвамі.

Нам насустрач выходзіць гаспадыня з хлапчуком. Прадстаўляемся краязнаўцамі. Распытваем пра парк, будынак, сажалку, возера і пячору.

Пра пячору нічога новага не даведаліся. Пра сваю фэрмэрскую гаспадарку жанчына расказвала з сумам. Купілі гэты надзел, адрамантавалі будынак пачатку XX ст., які быў цалкам занядбаны. Выкапалі вялікую сажалку, запусьцілі карасёў, якіх два гады падкормлівалі збожжам. Распрацавалі зямлю, узьвялі хлявы. Вось бы жыць і гаспадарыць... Аднак два гады таму памёр муж. Увесь цяжар лёг на жаночыя плечы. А што можна зрабіць? Дзяржава не дае ніякіх крэдытаў. Зямля кепская, неўрадлівая. Трэба ў яе шмат укласьці, каб яна радзіла. Адной усё гэта не пад сілу. Прасіць нас дапамагчы ёй знайсьці пакупніка, каб распрадаць фэрмэрскую гаспадарку.

— Месца прыгожае, над возерам, стары парк, у "палацы" — лазьня, камін, тэлефон... Шкада з гэтым усім разьвітвацца, колькі поту праліла, але што зробіш — не пад сілу мне. Хоць бы трапіла ўсё гэта ў добрыя працавітыя рукі...

— Мы і самі купілі б сабе пад "офіс", — пажартавалі мы, — але ня сёньня*.

### Радзіма Ластоўскага

За два сэзоны — 1999—2000 г. — мы наведалі шмат якія адлеглыя куткі Глыбоччыны. Але ці складзе гэта хоць 1% абшару тутэйшага краю? Між тым, мы знайшлі шмат цікавага і невядомага: забытыя і закінутыя касьцёлы і цэрквы, якія ніхто не аднаўляе, старыя паркі, не пазначаныя ў адмысловых даведніках, валуны з выбітымі салярнымі знакамі (свастыкай), каменныя крыжы ў лясных гушчарах, нэкропаль на дне возера Шо, дзе стаяць каменныя крыжы... А што будзе, калі мы дасьледуем усю Глыбоччыну?

І ўсё ж не даюць спакою думкі: "Пятнаццацігадовы падлетак, свавольнік Павал са сваімі супольнікамі зьнішчыў мо назаўсёды адзін з самых загадкавых і таямнічых аб'ектаў ня толькі Глыбоччыны, але і ўсёй Беларусі.

Аповеды "сьведкаў" адрозьніваюцца ў дробязях. Адкінем суб'ектыўныя ўражаньні кшталту "сьцены былі ўпрыгожаны каляровай мазаікай", "пячора ідзе пад дно возера", а таксама розныя міты аб "незьлічоных скарбах". Але ёсьць адно агульнае ў гэтых выказваньнях: людзі праходзілі ўглыб пячоры, ішлі на ўвесь рост, далёка, крокаў 50, потым "паходні гасьлі", "дыхаць не было чым". Далей ніхто ня мог ступіць і кроку... Пячора не раскрывала сваіх таямніцаў, і дапытліваму падлетку Паўлу не заставалася нічога іншага, як закласьці тол у яе сьцены?

Ня ведаем мы і яшчэ адной акалічнасьці: ці была пячора штучным альбо прыродным утварэньнем? Магчыма, яе некалі высеклі ў скале людзі ці наадварот — скарысталі гатовую, прыродную, але акультурылі, абмуравалі ўваход, уставілі дзьверы.

Што гэта было: манастыр, пахавальны сямейны склеп, схованка скарбаў? Напэўна, аб гэтым мы ніколі не даведаемся. Выбухі пашкодзілі "тунэль": абваліліся скляпеньні, нарабіўшы расколін, праз якія нутро пячоры засыпалася жвірам і абломкамі скалы. Патрэбныя неймаверныя высілкі, сродкі і час, каб усё гэта прывесьці ў належны стан...

І яшчэ. Пару дзясяткаў кілямэтраў адсюль — радзіма Вацлава Ластоўскага, прэм'ера БНР, аўтара аповесьці "Лябірынты", паводле якой у Полацку глыбока пад зямлёй, існуе мітычны горад-пантэон, дзе схавана ўся гсторыя нашага краю. Ці не падказала сахнавіцкая пячора сюжэт для гэтай аповесьці? Згадаў я і кнігу Ў.Арлова "Таямніцы полацкай гісторыі", дзе аўтар піша пра Альгердаў шлях: "Ён ішоў з Полацку праз рэчку Ўшачу, маёнтак Бязьдзедавічы, паўзь Мядзьведжае возера, на Чортаў мост і Баханькову гару ў напрамку на Глыбокае і далей на Вільню". Так. Сахнавіцкая пячора стаяла дзесь побач гэтага шляху. Але, прадаўпадобна, я занадта капануў углыб гісторыі.

* на ўсялякі выпадак паведамляю чытачам "НН" адрас. Няхай бы фальварак патрапіў у надзейныя беларускія рукі: вёска Саньнічкі Глыбоцкага раёну (непадалёк ад в.Касарова, Празароцкі с/с). Т.: 3-95-28.

**БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ**

## На чале зь Юнэляй Абуховіч

Беларусь, год 2101. Яшчэ моцна адчуваюцца нэгатыўныя наступствы саратаўска-беларускае вайны 2081—2084 г. за смаленскае дыямэнтавае радовішча. Многія экспэрты вялікія людзкія страты беларусаў стануць зьвязваць з удзелам на баку саратаў дзьвюх брыгадаў іншапланэтнікаў клясы мэгацэфалы ілжэвідушчых. На такія меркаваньні ў міжнародных колах будуць глядзець скэптычна: ізноў гэтыя беларусы сабе новыя болькі прыдумляюць. Тым часам міністэрства жыцьця паведаміць аб адтварэньні 50% загінулых у той вайне абывательяў БНР (блізу 3 млн. чал.). Блізу 500 тыс. чалавек адтвораныя ня будуць з прычыны адсутнасьці іхных парэштак, а яшчэ 200 тыс. — выходзячы з тэстамэнтаў, укладзеных на пачатку вайны.

Канцлерка БНР Юнэля Абуховіч разводзіцца із сваім мужам Юр'ем, дасьледнікам марсіянскага наскальнага жывапісу. Гэта выклікае істотнае ваганьне курсу беларускае капы на найбуйнейшых біржах Зямлі, Месяца і Марсу. У сталіцы Беларусі, месьце Галацічаску, рыхтуецца масавая дэманстрацыя, удзельнікі якой будуць патрабаваць тлумачэньня прычынаў разводу. Тым часам Віртуальны Вальны сойм абмяркоўвае 31-ю папраўку да Ўнівэрсальнага дзяржаўнага Статуту БНР 2015 г., згодна зь якой пабрацца шлюбам у краіне можна будзе толькі чатыры разы на год. Вызначанымі шлюбнымі днямі станоцца Купальле, Жаніцьба Коміна, Аўсень і Дзень Волі.

Інстытут гісторыі АН Беларусі імя Генадзя Сагановіча рыхтуе калектыўную працу "Беларуская гісторыя XX ст.: людзі і адлюдкі", якая, апроч звыклага электроннага варыянту, выйдзе й кнігаю — як сувэнірнае выданьне. Увогуле, сярод найбагацейшых людзей краіны прэстыжнай сталася завядзёнка чытаць папяровыя выданьні, "як даўней". Самымі папулярнымі газэтамі й часопісамі будуць "Голас Вёскі", "Гомельская Капейка", "Наша Ніва", "Незабудка", "Беларуская Думка", "Новы Пачатак".

У тагачаснай літаратуры ходаюцца два галоўныя кірункі: позьні постмадэрнізм і шызарамантызм. Спаміж беларускіх пісьменьнікаў найбольш вядомымі станоцца паэт Жыгімонт Рымша, празаік Сяржук Тызэнгаўз і гусьляр Бутрым Адамовіч. Міжнародную Быкаўскую прэмію ў галіне літаратуры нарэшце атрымае маскаль Шаміль Улугбек за гістарычны раман "Лукашэнка і траляля".

Краявіды Беларусі выглядаюць інакш, чым 100 гадоў таму, бо яшчэ за часы т.зв. трохканцлерства (70-я гады XXI ст.) зьнікла бальшыня адрозьненьняў між горадам і вёскай. Абсягі ранейшых гарадоў захавалі свае традыцыйныя назвы. Слова ж "горад" ужывацца перастала, яго канчаткова замяніла лексэма "места". І для месцкіх, і для вясковых забудоваў будзе ўласьцівая сьціплая чароўнасьць. Усе месты і вёскі возьмуцца спаборнічаць міжсобку ў непадабенстве. У рамках праекту "Вяртаньне да Вялікай Літвы" паўстануць з руінаў 25 замкаў, палацаў ды іншых спаруд, што стаялі да 1772 г. Зьмяняць назву краіны ніхто, праўда, не памкнецца, генэтычна звыкшыся са спаконвечным "Жыве Беларусь!".

**Сяргей Балаханаў**

### Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

## Новы ARCHE

*У сераду ў продажы зьявіцца новы нумар часопісу "ARCHE".*

**Ён найтаўсьцейшы за ўсю гісторыю часопісу. У ім 320 старонак. Яго тэма – нацыяналізм. Прадмову да яго напісаў Сяргей Дубавец.**

**У рубрыцы "Кніга" ў нумары – "Маніфэст"** славутага амэрыканскага тэрарыста-адзіночкі **Ўнабомбэра.**

**У тэме:** праца палітоляга **Ўладзімера Роўды "Вытокі нацыяналізму»,** артыкул **Сяргея Екельчыка «Нацыяналізм беларусаў, славакаў, украінцаў»,** эсэ **Сакрата Яновіча "2+2=4"** і **Вінцэся Мудрова "Ўспаміны пра «Блакітны ліхтар».**

**Для аматараў інтэлектуальнай чытанкі:** артыкул амэрыканскага славіста **Эдварда Кінана,** які пераканаўча даказвае, што **"Слова пра паход Ігараў" – гэта фальшыўка.** Дасьледаваньне пецярбурскага навукоўца **Андрэя Катлярчука,** прысьвечанае **Браншчыне беларускай. Сяргей Варыводзкі** піша аб праблеме абортаў, **Тодар Копша** зьвяртаецца да творчасьці **Сьвятланы Алексіевіч, Кастусь Травень** аналізуе прозу **Ігара Сідарука.**

**Для аматараў літаратуры:** падборка сьвежае постмадэрніцкае прозы. У ёй: апавяданьне нашаніўца **Сяргея Балаханава «Сьмерць лютністы»,** досьлед старшыні беларуска-індзейскага таварыства **Алеся Сімакова «Рэзэрвацыі сьвядомасьці»,** фантазійныя ўспаміны апошняга жывога слуцкага паўстанца **Алеся Яцэвіча (Змагара) «Сьцежкі-дарожкі».** Аматары клясычнага пісьменства з асалодаю адкрыюць для сябе новыя пераклады з **Гэсэ, Бёля, Гэрбэрта,** а таксама верш у прозе **Юрася Бушлякова "Лазьня".** Як заўжды ў "ARCHE" – новы, апошні верш **Андрэя Хадановіча.**

**Багатыя і разнастайныя архіўныя матарыялы нумару. "Хроніка гурту "Мроя" Сержука Сахарава** будзе цікавая ня толькі фанатам беларускага року, як і лібрэта оперы **Натальлі Арсеньневай "Лясное возера"** – ня толькі аматарам оперы. Друкуюцца таксама дасьледаваньне **Ільлі Куркова** пра першыя гады калектывізацыі Заходняй Беларусі і ліставаньне дзеяча беларускай эміграцыі **Сьціпана Шнэка.**




**Скарына**

## Наша Ніва 90 гадоў таму

**Забярэж,** Ашмянскі пав. Віл. губ. Ваколіца ў нас вясёлая, пекная, маем вялікую рэчку Бяроза (называюць Бярэзінай), яна ўліваецца ў Бярэзіну. Па ёй, відаць, гоняць шмат дрэва – больш зь лясоў валожынскага графа Тышкевіча. Купцы-жыды на месцы не абрабляюць лесу, гоняць у другія краі. Вось дзеля таго маем шмат плытнікаў, ды толькі з гэтага і ёсьць заробкі. Зямля ў нас добрая, шмат сенакосаў мурожных – прырэчных. Гаспадарка па дварах вядзецца ў новы спосаб, большай часткай чатырохпалёўка. Зямлю вырабляюць плугамі і конямі. Сеюць лубін ня толькі па дварох, але і па вёсках. Нядаўна мужыкі сьмяяліся зь сяўбы лубіна, а цяпер ужо і самі бяруцца за гэтыя, як называлі калісь "чортавы выдумкі". Расьсяленьне на хутары зусім не ідзе: і мужыкі ня вераць ў карысьць, бо расьсяляюць іх тыя людзі, да каго яны ня маюць вялікай веры – каб расьсяленьне было ў руках мужыцкіх выбарных (земства), справа шмат лягчэй пайшла б.

Увесь народ у нас гаворыць пабеларуску, але сьведамасьці нацыянальнай ня мае. Старонка наша перажыла хаваншчыну і ўсялякія рэлігійныя сваркі, дзеля таго каталікі-беларусы выхрысьціліся ў палякі, а праваслаўныя – у рускіх. Паміж вясковых людзей ходзяць кніжкі беларускія; адзін нават мне расказываў, што ён мае газэтку "простую" і паказаў нумар "НН" 1906 г. Кажа, што яны яго ўжо колькі раз прачыталі. – Я запытаўся, ці даўно ён газэтку мае і ад каго дастаў. Казаў, што ў 1907 г. "фершал даў", і што ён іе хавае, бо яна напісана "па-нашанску". Надта любяць людзі Мацея Бурачка, бо ён добра ўсё апісваў. Падабаўся і Янка Купала, і "Снапок" Пауловіча.

**Янка з-пад Забярэжа
2 чэрвеня 1911 году**

# У абарону Польскага інстытуту

**Прашу прабачэньня за крыху запозьненую рэакцыю на артыкул "Зычлівая абыякавасьць", на які я спачатку проста не зьвярнуў увагі. Напэўна, з тае прычыны, што тэма "занядбанай і пагарджанай" беларускай мовы ўвогуле мяне мала цікавіць.**

Шаноўны сп.Тумар аднак здолеў дадаць нешта новае ў гаму пакутніцкіх пачуцьцяў тых "абаронцаў роднага слова", якія пачуваюцца пакрыўджанымі ледзьве не на ўвесь сьвет. На гэты раз крыўдзіцелямі аказаліся замежныя (не расейскія, зразумела) дыпляматы і прадстаўніцтвы. Пачнем, аднак, усё ж такі з мовы. Цалкам відавочна, што сытуацыя зь беларускай мовай цягам ужо колькіх гадоў нагадвае хутчэй становішча катакомбавай царквы, чым публічнай інстытуцыі, якая пасьпяхова разьвівае й пашырае свой уплыў на розныя бакі сацыяльнага жыцьця.

І ўсё ж такі зьвернем увагу на тое, што гэтая сытуацыя зусім не падобная на тую, што існавала ў канцы 70–80-х гадоў, калі беларуская мова рэальна функцыянавала адно што ў кулюарах бібліятэкі Акадэміі Навук ці ў Інстытуце літаратуры. Можна, вядома, пашкадаваць, што распачатая ў 90-х гадах беларусізацыя была гвалтоўна спыненая цяперашнімі ўладамі, але пры гэтым варта памятаць, што аніякія шкадаваньні ці патасныя прамовы ў абарону "матчынай мовы" практычна нічога не зьмяняюць і не вырашаюць. Нічога не зьмяняюць і не вырашаюць таксама і прэтэнзіі да тых, хто "не паважае" роднай мовы альбо ня бачыць сэнсу ў карыстаньні ёю. Яшчэ меней канструктыўная пазыцыя – мазахісцкае стаўленьне да моўнай праблемы. І гэта ёсьць тое "новае", што вынайшаў шаноўны аўтар "НН", даючы волю сваім пачуцьцям, каб яшчэ раз пашкадаваць самога сябе й усіх беларусаў разам. Вось жа, глядзіце, якія мы нягеглыя: "Ня выйшлі зь беларускае эміграцыі прафэсары, ня выйшлі губэрнатары, ня выйшлі сэнатары, – піша Барыс Тумар. – Ня выйшлі тыя, да каго сьвет прыслухоўваецца. Таму й не заўважаюць беларусаў". Ад гэтага сумна і маркотна шаноўнаму аўтару "НН".

Найлепей, вядома, шкадаваць самога сябе, калі ў дадатак да ўсяго маеш яшчэ і пачуцьцё прыніжанасьці. Між тым відавочна, што сп.Тумара менавіта **як паважаную асобу** запрашаюць на розныя дыпляматычныя прыёмы, але ня ведае наш "гаротны беларус", куды сябе падзець ад "зрусіфікаваных" замежных дыпляматаў ня толькі ў эўрапейскіх, але і ў амэрыканскай амбасадзе.

"Татальная русіфікацыя дзейнасьці замежных прадстаўніцтваў у Беларусі, – скрушна зазначае аўтар артыкула, – павялічвае пачуцьцё ізаляцыі. Міжволі думаеш: а мо насамрэч у беларусаў няма сапраўдных саюзьнікаў у сьвеце".

Мазахісты, як вядома, найперш самі заганяюць сябе ў псыхалягічныя рэзэрвацыі, а ад чалавека пакрыўджанага лёсам (ці то беларускай доляй) найменей трэба чакаць рэалістычных і справядлівых меркаваньняў. Мушу аднак зазначыць, шаноўны сп.Тумар, што насамрэч маем шмат саюзьнікаў незалежнай, свабоднай і дэмакратычнай Беларусі. Іншая справа, што гэтых саюзьнікаў ня варта вызначаць паводле моўнай прыкметы і тым больш ня трэба іх залічваць у ворагі беларушчыны.

Вось жа і Польскі інстытут у Менску ды польская амбасада, паводле сп.Тумара, апынуліся ў ліку сумнеўных і ненадзейных саюзьнікаў дэмакратычнай і незалежнай Беларусі. Ня буду прыводзіць аргумэнтаў супраць, а хачу толькі папрасіць прабачэньня за Ваш артыкул, які, папраўдзе, не адлюстроўвае ні маёй думкі, ні думкі маіх сяброў і знаёмцаў, якія ня маюць комплексу пакрыўджаных беларусаў.

Вас таксама цікавіць, што робяць 250 беларускіх студэнтаў-уцекачоў у Варшаве, на што яны там вучацца? Дакладна ня ведаю, але дакладна ведаю некалькіх маладых людзей, якія навучаліся ў Польшчы і вярнуліся на Радзіму. Гэта вельмі сэнсоўныя для нашай беларускай сытуацыі маладыя людзі.

Праблема выжываньня і рэальнага функцыянаваньня беларускай мовы, безумоўна, надзвычай важная, але гэта не праблема замежных прадстаўніцтваў і дыпляматаў. Гэта наша з Вамі, сп.Тумар, праблема. І найлепей яна вырашальная не тады, калі фармулююцца прэтэнзіі ці назапашваюцца крыўды на тых, хто зьвяртаецца да Вас на расейскай мове.

Здаецца, ужо нават ТБМ зразумела, што мець дзесяць добрых мэнэджэраў у справе прамоцыі беларушчыны значна лепш, чымся сотню друкаваных артыкулаў, напісаных тымі, хто ўсё яшчэ "плача па роднай староцны".

**Алесь Анціпенка**

**P.S. Зь вялікай прыемнасьцю віншую сп.Тумара і ўсіх супрацоўнікаў "НН" зь дзясятай гадавінай Вашай і нашай аднаўленай газэты. Трывайце!**

# Заможнасьць

**Дзень добры, шаноўная рэдакцыя. Спачатку хачу павіншаваць усіх нас зь дзесяцігодзьдзем аднаўленьня "НН". Сам я пачаў чытаць газэту ў 93-м. Пакуль была магчымасьць – выпісваў, потым час ад часу набываў пры наведваньні Беларусі.**

Чытаючы артыкулы й лісты ў "НН", я часта бачу ў іх расчараваньне й адчай. Марылі аб адной краіне – эўрапейскай, багатай і беларускамоўнай, а жыць прыходзіцца ў іншай, якой адна назва – РБ. Усё так. Але, спадарства, пройдзе час, і мы зусім па-іншаму паглядзім на гэтае дзесяцігодзьдзе. Прыгадаем 70-я. Хто тады з нас марыў пра незалежную Беларусь? А хто з нас размаўляў па-беларуску? Адзінкі. Адбыўся Боскі цуд. Беларусь – незалежная. Беларускамоўная грамада налічвае тысячы, а мо й дзясяткі тысячаў. Бог даў нам шанец. Як мы яго выкарыстаем – залежыць ад кожнага з нас. Ніхто, акрамя мяне, ня выхавае маю дачку беларускай. Ніхто, акрамя сьведамых беларусаў, ня зробіць Беларусь нармалёвай эўрапейскай краінай. Ні Захад, ні, тым больш, Расея. Гэта трэба разумець. Трэба працаваць, нараджаць дзяцей, зарабляць грошы. Будуць у сьведамых беларусаў грошы – будзе існаваць і разьвівацца нацыянальная культура. Попыт выклікае прапанову. Ня здолеюць сьвядомыя беларусы зрабіцца заможнымі – на беларускай культуры й мове можна будзе паставіць крыж. Калі раней мову здолела выратаваць беднасьць, дык цяпер яе можа ўратаваць толькі багацьце. Таму нацыянальная ідэя ў нас адна – заможнасьць.

**З павагай,**
**Уладзімер Васькоў, Тула**

# Арыстакратызм духу

**Для мяне бадай што самы адметны дзень тыдня — аўторак, калі прыходзіць чарговы нумар "НН" і адкладаюцца на потым розныя справы дзеля маўклівага сумоўя з газэтаю мае душы. Бывае, наша мілая цяпершчына так дастане, так прыцісьне, што хоць не жыві. А пачытаеш "НН" — і зноўку пачуваешся Асобаю.**

Я ня ведаю іншага выданьня, якое так натуральна кантактавала б з чытачамі, запрашала іх на свае старонкі – у "Варштаты", "Прыватныя абвесткі", "Сабачыя гісторыі", праект "Беларусь праз сто гадоў", якое так уважліва ставілася б да чытацкага ліставаньня. Але "НН" – ня толькі самая дэмакратычная беларуская газэта. Найперш яна – самая арыстакратычная. Спаяданьне беларускай нацыянальнай ідэі й арыстакратызм духу – у гэтым існасьць "НН". Захоўваючы клясычны беларускі правапіс, "НН" ажыўляе і разьнявольвае нашую мову, зацiснутую, згвалтаваную "наркамаўкай".

З нагоды юбілею "НН" я шчыра дзякую супрацоўнікам ды аўтарам газэты за іх няпростую працу, за зьместоўныя, часта нечаканыя, але заўсёды цікавыя матэрыялы. Я ўдзячная рэдакцыі "НН" за дапамогу ў пошуках магілы маёй маці, якая 55 гадоў таму памерла ў вялейскай турме.

Шчасьця вам, добрага здароўя, трываласьці, творчых здабыткаў, дарагія нашаніўцы! Пакуль вы ёсьць, "не загаснуць зоркі ў небе"...

**З павагаю,**
**Рагнеда Аляхновіч, Менск**

# Шаноўная рэдакцыя "НН"!

**Сардэчна віншую Вашу газэту з 10-гадовым юбілеем!**

Зычу Вам посьпехаў, вялікіх накладаў ды прыбыткаў. Няхай "НН" заваюе душы тысячаў украінскіх, польскіх, літоўскіх ды расейскіх чытачоў (у дадатак, ясная рэч, да 100%-га ахопу насельніцтва Беларусі). Прынамсі адзін сталы чытач ва Ўкраіне ў Вас ёсьць: я ўжо год як штотыдня наведваю Вашу Інтэрнэт-бачыну. І, напэўна, найзапаветнейшае для Беларусі (і Ўкраіны) "пабажаньне": Свабоды ўсім (палітычнай, духоўнай, творчай таксама).

Перапрашаю за магчымыя памылкі ў беларушчыне. Чытаю ёю толькі год, пішу ў трэці раз, размаўляць пакуль што не даводзілася. Асобная падзяка Віцебскай суполцы моладзі "Верас" за электронны слоўнік.

Трохі пра сябе: праграміст, асьпірант, лінгвіст-аматар, маю 22 гады, жыву ў Кіеве.

**З павагаю, Ігар Булыга**
**ihor@ndiasb.kiev.ua**

*эсэ*

Уладзімер Содаль

# Здраджаньня

Пярэспа Доўгі Брод Ляхаўка Ляхаўка Пярэспа

## *Балота з крывенькімі бярозкамі і каржакаватымі хвойкамі. І раптам — Бангалор!*

**Гады са два ўжо, як на Цэнтральнай плошчы Менску, што звалася колісь Новае Места, зьявіўся памятны знак, сымбалічны пачатак усіх беларускіх дарог.**

**...Дарогі, вечныя дарогі, няма канца вам ні супынку... Гэта вельмі важны знак. Ён арганічна ўпісаўся ў наш гарадзкі побыт. Цяпер можна падзівіцца, як гэта мы безь яго жылі-абыходзіліся? Ён надае нам годнасьці й велічы.**

**Гэты знак — нібыта тая печ, ад якой зручна "скакаць", распавядаючы пра назвы зямлі, прынамсі, пра назвы нашай сталіцы.**

Менск пачынаўся з Замкавай гары, дзе Няміга ўпадае ў Сьвіслач, і пашыраўся, далучаючы да сябе ўсё новыя і новыя гарадзкія ўскраіны. Найперш — Траецкую ўскраіну з Траецкаю гарою, Пярэспу, Прызамкавы пляц, Ніжні і Верхні горад. Кожнае ўрочышча мела свой непаўторны самабытны назоў...

Шмат якія зь іх і да нашага часу ў шырокім ужытку менчукоў — Траецкае прадмесьце, Верхні і Ніжні горад, Пярэспа, Старажоўка, Старажоўскі тупік, Камароўка, Залатая Горка, Доўгі Брод, Ляхаўка, Кальварыя, Грушаўка, Чыжоўка, Лошыца, Серабранка, Козырава, Весялоўка, Дразды, Вясьнянка, Дараўка, Зялёны Луг, Малінаўка, Курасоўшчына...

Але ці ўсё ладна ў нашай сталіцы з гарадзкой тапанімікай? Ці заўсёды мы ўдала даем назовы?

Неяк аднаго разу мне дома сказалі: "Тэлефанавалі зь Вільнюсу... Сказалі, каб заўтра прыехаў да іх!"

Я ў думках пачаў ужо зьбірацца ў Вільню, хоць нават уявіць сабе ня мог, хто і зь якой нагоды кліча мяне туды. Пачаў быў ушчуваць сям'ю, чаму не ўдакладнілі, хто тэлефанаваў, хто запрашае ў Вільню...

— Ды ня ў Вільню, — удакладнілі мне. — А ў "Вільнюс", у кнігарню, што на Каліноўскага ў Менску... Зусім як у той беларускай показцы:

...Сустрэліся дзьве бабулькі.

— Ты дзе была? — пытаецца адна.

— У Берасьці, а во цяпер зьбіраюся ў Валгаград, — адказвае другая.

— А я толькі з Рыгі вярнулася.

Людзі слухаюць бабулек і дзівяцца: такія старэнькія, а вунь якія вандроўніцы! Толькі пасьля дапетрылі, што тыя вандравалі па менскіх гастраномах.

І колькі іх, гэткіх непаразуменьняў, недарэчнасьцяў перажыта людзьмі. Ёсьць у Менску вуліца Маскоўская... Яна за бэтонным мастом, непадалёк ад пасажырскага вакзалу. Калісь сюды прыбывалі цягнікі з Масквы. Такую ж назву мае станцыя мэтро. І аўтобусная станцыя... А гэта ўжо на супрацьлеглым баку горада. Яшчэ ў Менску ёсьць Маскоўскі раён, Маскоўскія могілкі. І ўсё гэта ў палярна розных мясьцінах гораду.

З-за гэтага людзі блукаюць па горадзе, марнуюць час, нэрвы, пакуль які добры чалавек не патлумачыць, што ім у Менску з маскоўскага трэба — вуліца, мэтро ці аўтобусны прыпынак, ці мо цэлы менскі Маскоўскі раён...

У Беларусі такіх прыкладаў шмат.

Прыкладам, той, хто мяркуе, што за станцыяй Пухавічы зараз будзе і мястэчка Пухавічы, папросту памыліцца, бо за станцыяй Пухавічы пачынаецца Мар'іна Горка. А да Пухавіч яшчэ дыбаць і дыбаць ці трэсьціся ў аўтобусе.

Або менскі парк Чалюскінцаў. Сапраўдная ягоная назва — Ваньковічаў Лес. Ванькові̌ч — вядомы ў сьвеце менскі мастак. Сучасьнік Дуніна-Марцінкевіча. Сябраваў з Пушкіным, Міцкевічам, маляваў іхныя партрэты. Хай бы парк так і зваўся — Ваньковічаў Лес. Ёсьць жа ў Парыжы Булёньскі Лес, і ніхто ня бачыць у ягонай назве ні прастаты, ні заземленасьці.

...Род Ваньковічаў вельмі старажытны і славуты ў Беларусі. У Менску, апрача Ваньковічавага Лесу, ацалелі аж дзьве іхныя сядзібы. Адна ў горадзе. Другая — у Сьляпянцы, дзе на Ваньковічавых землях нядаўна збудавалі з катэджаў зграбны гарадок. Назвалі яго, як і належыць паводле міжнародных правілаў, назвай зьніклай вёскі — Вялікая Сьляпянка. Сам гарадок вельмі прывабны. І назвы вуліц у ім прывабныя: Язьмінавая, Ігната Буйніцкага... Не забыліся і пра імя колішняга гаспадара Сьляпянкі — Валента Ваньковіча.

Апрача парку імем чалюскінцаў у Менску названая шчэ й вуліца паблізу аўтазаводу. Дык многія шукаюць яе ля парку.

Куточак беларускай сталіцы паблізу Лагойскага тракту завецца цяпер Севастопальскі парк. Ня гэтак яшчэ даўно гэта былі землі вёскі Вялікая Сьлепня. Ад самой вёскі ў Севастопальскім парку ацалелі два двары. Пацікавіўся, ці памятаюць у гэтых хатах, як зваліся навакольныя землі. На жаль, ужо ніхто нічога не памятае.

Вялікая Сьлепня, Вялікая Сьляпянка, Малая Сьляпянка. Малая Сьлепня, Сьлепня — усе яны ад назвы рачулкі Сьляпні. Цяпер на месцы ўсіх гэтых селішчаў паўстаў вялізны гарадзкі мікрараён — Усход.

Усход. Захад. Паўднёвы Захад. Усё бязьлікае і казённае. І абавязкова Арбат!

А Бангалор?! Вуліца Максіма Багдановіча. Краявіды тут скрозь беларускія — гэта ж усё Камароўка. Балота з крывенькімі бярозкамі і каржакаватымі хвойкамі. І раптам — Бангалор! Поўная дысгармонія між словам і навакольлем. Такая ж тапанімічная дысгармонія і на Траецкай Гары: гара Траецкая, пры ёй — пляц Парыскай Камуны, з помнікам Максіму Багдановічу.

Малазразумелай падаецца і назва Сьцяпянка — гэта і чыгуначная станцыя, і селішча пры ёй. Дзе ж тут той стэп? Наўкола балоты ды лясы...

Пра Сьцяпянку ходзіць такая гісторыя. Яшчэ ў мінулым стагодзьдзі яе купіў якісь немец-каляніст. Пацікавіўся ў тутэйшага люду, як завецца мясьціна. Яму адказалі: "Сьляпянка". Немец ці не дачуў, ці спрацавалі законы нямецкай мовы. Укапаў слуп і прыбіў да яго дошчачку — "Стэпянка". З тае пары так і пайшло: Стэпянка — Сьцяпянка.

Памылковасьць назвы Сьцяпянка прызнаваў тапаніміст Вадзім Жучкевіч. У сваім "*Кратком топонимическом словаре Белоруссии*" 1974 г. ён пісаў: "Сьцяпянка.

# “Чево-чево?”, або Рэакцыі

Працяг са старонкі 1.

Пісаныя рукою расьпешчанага варшаўскага вісуса, яны ня могуць выклікаць нічога, апроч агіды. Трэба зрабіць усё, каб і для нас яны сталіся ўчорашнім днём.

Нашым чытачам, асабліва актывістам выбарчай кампаніі, варта прыслухацца да спн.Мініч у тым сэнсе, што дэвіз, які Вы прапануеце ўсяму незалежнаму беларускаму грамадзтву, нясе нэгатыўны, а не пазытыўны зарад. Пад абарончымі лёзунгамі не пераможаш! Не пераможаш пад сьцягам этнічнага, а не грамадзянскага нацыяналізму!

“НН” ня ёсьць ультраправым выданьнем, інакш бы вы, спн.Мініч, яго не чыталі. Аднак на “НН” як на **адзінай цалкам беларускамоўнай агульнанацыянальнай газэце** мусова адбіваюцца ўсе настроі і нават забабоны беларускамоўнае грамады. Нягледзячы на сьлед гэтых забабонаў, у тым ліку і міжвольнае памкненьне часткі нашых чытачоў і аўтараў да ахоўнае самаізаляцыі (“Беларусь для беларусаў”), “НН” стаяла і стаіць на пазыцыі адкрытасьці, дыялёгу зь іншымі культурамі, здаровага сэнсу. За гэта вы і любіце “Нашу Ніву”, спн.Мініч. Хіба ня так?

Трывожыць іншае. Пабудова сучаснага, дэмакратычнага грамадзтва немагчымая без умацаваньня грамадзянскае супольнасьці. А ўмацаваньне супольнасьці незалежных ад дзяржавы індывідаў немагчымае без адначасовага ўмацаваньня нацыянальнае ідэнтычнасьці, без разьвіцьця нацыяналізму ў Энтані-Сьмітавым разуменьні гэтага слова (прынамсі, ва Ўсходняй Эўропе няма інакшых прыкладаў, а розьніца між Заходняй і Ўсходняй Украінамі гэта толькі пацьвярджае). Праблема Беларусі ў запозьненасьці разьвіцьця гэтага самага нацыяналізму.

Але як мы можам нагнаць адставаньне, калі ня толькі замежнікам, але й суайчыньнікам, людзям беларускае культуры, зьявы, спадарожныя гэтаму разьвіцьцю, падаюцца небясьпекай для Беларусі, тады як яны ёю ня ёсьць? Настроі, уласьцівыя збольшага прыхільнікам Пазьняка, настолькі другасныя ў сучасным беларускім грамадзтве, а самі прыхільнікі настолькі сацыяльна прыгнечаныя, што ніякіх сапраўдных небясьпекаў у працэсе разьвіцьця беларускага нацыяналізму з гэтага боку не прадбачыцца. Наадварот, небясьпеку нясуць расейскі шавінізм і/або нігілізм зь іхным ігнараваньнем (у сваёй сутнасьці фашысцкім) беларускае культуры. Але зноў жа, небясьпека гэтая не ў пагрозе нацыянальных канфліктаў, у Беларусі прынцыпова немагчымых, а ў тармажэньні ўмацаваньня беларускае нацыянальнае ідэнтычнасьці і грамадзянскае супольнасьці.

А што чытачы думаюць наконт гэтага?

## Апытаньне «НН»
# ВЫНІКІ НА СЁНЬНЯ

**За каго б Вы прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах?**

Зянон Пазьняк **146 (122)**
Сямён Домаш **76 (70)**
Вінцук Вячорка **17 (15)**
Аляксандар Дабравольскі **9 (6)**
Павал Жук **6 (5)**
Юры Хадыка **5 (5)**
Міхаіл Чыгір **5 (5)**
Станіслаў Шушкевіч **4 (1)**
Аляксандар Лукашэнка **3 (3)**
Станіслаў Багданкевіч **2 (2)**
Павал Казлоўскі **2 (2)**
Ні за кога **2 (2)**
Вячаслаў Сіўчык **2 (1)**

(Астатнія кандыдаты, якія згадваліся ў анкетах, маюць толькі па адным голасе.)

Пазьняк застаецца лідэрам, але ёсьць падазрэньне, што адбываецца гэта не бязь нейкае спэцыяльнае дырэктывы па Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ. Інакш як патлумачыць, што ў адзін дзень у рэдакцыю прыходзіць па пяць лістоў зь пяцьцю аднолькавымі адказамі, упісанымі аднолькавым почыркам? Або дзьве анкеты, запоўненыя рознымі почыркамі і розным чарнілам, але з аднолькавым адказам, цытую ў арыгінале: “Галасуя за Домаша, ты галасуешь за Саюз з Расеяй”. У прынцыпе, па-беларуску трэба пісаць “галасуючы”, а не “галасуя”, слова “саюз” мы пішам з малой літары, а “ш” у беларускай мове – зацьвярдзелы. Зрэшты, не выключаем, што падобныя лісты могуць пісацца па загадзе душы. **Просім усіх запаўняць толькі па адной анкеце на чалавека, інакш Вы даяце шмат працы супрацоўнікам рэдакцыі. Мы ўлічваем толькі па аднэй анкеце ад аднаго ўдзельніка апытаньня!**

Домаш ідзе роўна наперадзе. На гэтым тыдні прыйшлі адразу тры галасы за Шушкевіча. Упершыню былі названыя чытачамі ў якасьці добрых кандыдатаў Алег Трусаў, лідэр ТБМ, Кастусь Акула – беларус-вэтэран, які жыве ў Канадзе, і філёзаф Валянцін Акудовіч.

А вось які лісток прыйшоў разам з анкетай з вул.Багдановіча ў Менску: “Наша сям’я выпісвае НАШУ газэту 9 гадоў. Вялікі дзякуй Вам. Мы адданыя прыхільнікі Шушкевіча, а калі ён ня будзе ўдзельнічаць у выбарах, аддамо галасы сп.Пазьняку”. Дзякуй і Вам за добрыя словы.

Сярод цікавых дэвізаў: “Беларус, ты варты лепшага” і “Свой лёс – у свае рукі”.

**Апытаньне працягваецца!**

## Водгук

**Зь вялікім занепакаеньнем даводзіцца чытаць допісы тых чытачоў “НН”, што агітуюць за Зянона Пазьняка як за адзіны слушны выбар.**

# З купіны на купіну

І далоў, маўляў, усю падазроную “намэнклятурную” пяцёрку. Толькі ж той відавочны факт, што ў дзяржаве, кіраванай А.Л., “шчыра-наш” Зянон мог бы толькі ці прайграць, ці быць зьнішчаным, вымушае прыняць тыя допісы “фундамэнталістаў” адзіна за сьведчаньне адчаю: маўляў, калі няма таго “шчыра-нашага”, дык ня трэба нам аніякага, калі ўжо “канаць” – дык з “музыкай” вернасьці ідэалам.

Вядома, тую “музыку” зрабіць было б можна. Толькі вось ніякага “канца”, спадарства, потым ня будзе. А будуць гады і гады брутальнага зацісканьня і павольнага заміраньня рэшткаў усяго дарагога нам. Гады нястачнага і небясьпечнага жыцьця для нас і нашых родных і блізкіх. Зьменіцца хіба адно: “абноўлены” А.Л. будзе горшы, зьлейшы. І яшчэ будуць гады роздумаў кшталту: “А вось калі б да галасоў П. даплюсаваць галасы Ш., вылучыўшы К. на агульнага кандыдата (дарма што з “намэнклятуры”) – ён мог бы тады адцягнуць колькі галасоў яшчэ і ад Л., і ад (другога) К. – а тады ўсё магло б быць з намі зусім інакш...” Déja vu?..

На гэтых выбарах ідзецца, на жаль, не пра тое, дзе і якія нашыя сапраўдныя нацыянальныя інтарэсы, але пра тое, ці будуць яны ў нас увогуле. Ці будзем мы іх сабе абіраць і ці будзе нас хто яшчэ колісь пра іх запытваць. Бо існуе верагоднасьць, што яшчэ праз сем гадоў такога панаваньня могуць быць выпусташаныя і прададзеныя Маскве апошнія рэсурсы незалежнага існаваньня краіны – а зь імі і сама актуальнасьць пытаньня пра нашыя нацыянальныя інтарэсы і будучыню.

То бо ж гэта яшчэ пытаньне, хто ў беларускім руху цяпер сапраўдныя “радыкалы”: ці т.зв. “фундамэнталісты”, якія рупяцца адно аб “музыцы” на ўласныя палітычныя хаўтуры, – ці тыя, хто ўважаюць, што інтарэсы беларускае справы могуць апраўдаць любыя, хай бы нават самыя “падазроныя”, кааліцыі й камбінацыі?

Задачы, якія не вырашаюцца ў адзін ход, могуць мець разьвязаньне ў некалькі ходаў. Мы ў балоце. Адсюль сапраўды ня выбрацца адным крокам, але можна толькі так – з купіны на купіну – не зважаючы, што некаторыя зь іх выглядаюць падазрона і часам патрабуюць намацваць іх палкай... Мусім толькі гэткую дарогу прайсьці, і не заплюшчваць з роспачы вочы.

**Мікола П.**

## Апытаньне “НН”

**За каго Вы прагаласавалі б на прэзыдэнцкіх выбарах?**

__________________________________

**Пад якім дэвізам мусіць ісьці на выбары кандыдат, за якога Вы прагаласавалі б?**

__________________________________

**За якую партыю Вы прагаласавалі б на парлямэнцкіх выбарах?**

__________________________________

**Калі б зараз стварылася новая аб’яднаная кааліцыя апазыцыі, як яна, па-Вашаму, мусіць называцца?**

__________________________________

Выражце гэты бюлетэнь і дашлеце ў рэдакцыю “НН”:
220050 Менск а/с 537 “Апытаньне “НН”.
E-mail: nn@irex.minsk.by

# назвы

Памылковая форма ад назвы Сьляпянка”. Пра паходжаньне назвы Сьцяпянка ёсьць і яшчэ адна вэрсія: на ейным абсягу месьцілася урадавая дача Цанавы, які Сьляпянку вымаўляў на каўкаскі лад — Стэпянка. Абедзьве вэрсіі сьведчаць, што назва прыблудная, перакручаная.

А назовы Сьляпянка, Сьлепня — вельмі даўнія, як і Камароўка. У гістарычных актах 1599 г. ёсьць такі запіс: “...за Сьляпнёю па гасьцінцу, каторы к гарадзішчу ідзёт...”

Увесь сьвет ведае назву Раўбічы.

Раўбічы — гэта найперш славуты спартовы комплекс па біятлёне і горных лыжах пад Менскам, які сваю назву атрымаў ад суседняй вёскі. Месца для яго абралі невыпадкова — непадалёк месьціцца высачэзная гара. (Між іншым, завецца гэта мясьціна Халяўшчына. Нібы ад прозьвішча княгіні Халевы).

На схілах гары была невялікая вёсачка, што звалася адпаведна тутэйшаму рэльефу Горнаўкай. Гэтая назва, як ніякая іншая, пасавала б спартоваму комплексу — такая яна выразная й характэрная. Адразу кожнаму было б зразумела, чаму спартовы комплекс па горных лыжах разьмясьціўся менавіта тут. Але, на жаль, вёсачку падчас пабудовы комплексу раскідалі — ацалеў адзін двор. Ён нам і нагадвае пра Горнаўку. А што ж Раўбічы? Паводле слоўніка Вадзіма Жучкевіча, назоў Раўбічы паходзіць ад састарэлага імя Роўба!

Згадваючы пра спартовы комплекс паблізу Горнаўкі, хацелася прыгадаць, як нашы хакеісты выратавалі назву зьніклай ля Кальварыі вёскі. Назва той вёсачкі была дзіўная. Гукі яе сінічкай ціўкалі-ціўкалі — Цівалі! І вось знайшоўся хтосьці з хакеістаў стуль, які так і назваў сваю каманду. Праз нашу хакейную каманду цяпер увесь сьвет ведае назоў “Цівалі” і пытаецца, што гэта такое — Цівалі, а ўжо адказ на пытаньне — справа тэхнікі прафэсіяналаў. Прыклад, варты перайманьня і ўхвалы.

Я спрабаваў пра назвы Горнаўка і Раўбічы пагаварыць са спартоўцамі. Але гэтая мая спроба ня мела ніякага посьпеху. Спартоўцы слухалі і маўчалі, нібыта разумелі, а мо й не разумелі, чаго я так турбуюся, пра якую Горнаўку дбаю... Гаварыў я адзін.

Ня вельмі ўдалася мне гаворка пра Горнаўку і з панамі-трэнэрамі. Уражаньне такое, што ніхто зь іх пра тую Горнаўку і ня чуў, хоць кожнага дня яны з усіх бакоў пасслугуюцца маляўнічым горнаўскім кутам.

...Наша сталіца ўвабрала ў сваё ўлоньне шмат прыгарадных вёсак, вёсачак, шмат сенажацяў і палёў... Кожная з гэтых мясьцінаў мела сваю назву. Наш клопат — іх захаваць, ушанаваць. Ні ў якім разе ня кідаць у забыццё.

Вось дзе, думаецца, вялізарнае поле дзейнасьці для нашай моладзі, для нашых школьнікаў. Мы павінны сваю тапаніміку ведаць, як свае пяць пальцаў. Каб мы ехалі па сваёй сталіцы і чыталі кожны лапік, як кнігу... Вось гэта, дзе Маладзёвы тэатар, Пярэспа.

Колісь ціха-млявая ўскраіна Менску зь Пярэспаўскімі могілкамі. З царквой Сьвятой Марыі Магдалены. З масточкам. Цяпер тут шум і тлум. Паходзіць ад назвы рачулкі Пярэспы, якая перасякала зьбег вуліц і ўпадала ў недалёкую адсюль Сьвіслач.

...А гэты маляўнічы куточак нашай сталіцы з Божым дарам — крынічкамі. Таму і назва — Дараўка! Хіба ж такі назоў ня варты, каб яго ведалі, каб яго шанавалі!

І гэтак скрозь. Пад назвай Камароўка мы цяпер ведаем толькі Камароўскі рынак. Даўней Камароўкай яшчэ называлі і цяперашнюю плошчу Якуба Коласа. Абсягі Камароўкі былі калісь значна шырэйшыя. Але пра гэта спакваля ўжо забываецца. Калі мы спыталі ў хлапчукоў, якія гулялі паблізу так званай колішняй Балотнай станцыі, ці ведаюць яны, дзе ходзяць, тыя адказалі, што гуляюць у парку Сяброўства Народаў. На пытаньне: “А дзе ж Камароўка?” — адказалі: “Гэта далёка! Гэта трэба ехаць”. А гулялі яны якраз па колішнім Камароўскім балоце, зь якога брала выток згаданая ўжо тут рачулка Пярэспа.

Спазнаваць назвы роднай зямлі, клапаціцца, каб іх не забывалі, ушаноўвалі, надзвычай цікава. Скажам, імем згаданай Пярэспы можна было б назваць маладзёвы тэатар: Маладзёвы тэатар на Пярэсьпе. На гэта нават і сродкаў ніякіх ня трэба. Патрэбна толькі жаданьне!

У нашай сталіцы каля дзясятка паркаў і, як ні дзіўна, ні адзін зь іх не названы беларускім тапонімам. І гэта трывожна. Наша сталіца пачыналася з Замкавай Гары пры ўпадзеньні Нямігі ў Сьвіслач. Замкавай Гары даўно ўжо няма: яе зрэзалі бульдозэрамі і вывезьлі. Вывезьлі нашу гісторыю, а на расчышчанай ад старажытнай гары плошчы збудавалі спартовы комплекс і назвалі Плошчай Восьмага сакавіка. Ходзячы па гэтай плошчы, падумаў: “А назва ж гэтай плошчы мусіць быць адна: Плошча Старажытнага Менску ці Замкавая плошча”. Што да Замкавай Гары, то і яе мусім аднавіць — дзеля гістарычнай справядлівасьці...

А якой думкі пра гэта вы?

...Назвы роднай зямлі, гэтак, як імёны людзей, складаюць асобны пласт нашай лексыкі. Навука, якая вывучае назвы зямлі, называецца тапаніміка. Кожны лапік зямлі мае сваю назву. Гэта дае мажлівасьць людзям лёгка арыентавацца ў прасторы. У кожным краі пераважная большасьць тапонімаў адпавядае мове таго народу, які засяляе гэтую зямлю. Такое непісанае правіла ва ўсіх народаў. Гэтак павінна быць і ў нашай сталіцы, і ва ўсёй Беларусі.

У нас жа мала хто ўдумваецца ў сэнс словаў.

А ёсьць жа міжнародная практыка. Калі ўзьнікае патрэба даць назву якомусь новаму аб’екту, найперш яму даюць тую назву, якую меў той лапік зямлі, на якім гэты новы аб’ект заснаваны. Калі ж гэты лапік безназоўны, тады бярэцца за аснову якаясь бліжэйшая назва. Кажучы пра назвы, мы павінны ведаць, дзе і што было, дзе і што можна рабіць, будаваць, як і дзе сябе паводзіць. Інакш нас будуць на кожным кроку чакаць неспадзяваньні, непаразуменьні, як гэта адбылося на Нямізе. Назвы перасьцерагаюць нас, папярэджваюць ад глупоты, ад няшчасьцяў.

Назвы нашы — гэта вочы беларускай зямлі, і яны павінны быць беларускімі і глядзець на нас шчыра, расказваць пра саміх сябе, дапамагаць нам жыць, натхняць і цешыць нас.

РАДЫЁ РАЦЫЯ
НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ
49м
07:00-09:00 6035 кГц
13:00-15:00 6180 кГц
21:00-23:00 6010 кГц
НА СЯРЭДНІХ ХВАЛЯХ
490м
07:00-11:00 612 кГц
ЧАС БЕЛАРУСКІ!
220102, Менск, а/с 144

# Крама баек

## Вайцюшкевіч запісвае альбом, прысьвечаны свайму малому сыну, з удзелам Ядвігі Паплаўскай

**На студыі "Беларускіх песьняроў" кіпіць праца над першым сольным альбомам Зьмітра Вайцюшкевіча "Цацачная крама". У праекце бяруць удзел Ядвіга Паплаўская (вакал), Алесь Пузыня (скрыпка), Зьміцер Бударын (трамбон), Андрэй Хвісевіч (акардэон), Алег Івашкевіч (гітара). Дыск выйдзе найпазьней у верасьні 2001-га. Мяркуючы па складзе выканаўцаў – гэта будзе штука.**



Дзесяць песень з музыкай Вайцюшкевіча на словы Леаніда Дранька-Майсюка ўтвараюць цэлы спэктакль ва ўлюбёным нацыянальным жанры батлейкі. Хіба што Хрыста ды Марыі тут няма, ёсьць толькі свойскія жывёлы. Галодны Воўк. Баязьлівы Барсук. Разумная Варона. Злы Сабака. Няшчасны Казёл. Задаволены Певень. Незалежны Зубр. Рахманы Конь. Памяркоўны Мядзьведзь. Калгасны Баран.

Нехта, магчыма, угледзіць тут зварот да баечных традыцыяў Кандрата Крапівы. Аднак у вершах Дранька-Майсюка больш самаіроніі ды менш зласьлівасьці. Жывёлы там нагадваюць пэрсанажаў савецкіх показак. Гэта мы з усімі нашымі дробнымі заганамі. Мы па-ранейшаму сьмяемся – з саміх сябе й зь любой улады, якую мы здольныя перахітрыць, падмяць пад сябе, стварыць у яе ілюзію панаваньня, адначасова сабатуючы ўсе ейныя пачынаньні. Нездарма ж у кожнай песьні – выразны палітычны падтэкст.

Што праўда, часам ён мае выпадковы характар. Ані музыка, ані паэт нічога ня ведалі пра "зуброў", калі складалі свайго "Незалежнага Зубра". Таму Вайцюшкевіч, аднойчы пабачыўшы на сьцяне вялізны надпіс ЗУБР, спачатку палічыў гэта галюцынацыяй, выкліканай несупыннай працай над новым праектам. Аднак наступная сьцяна сустрэла яго тым самым графіці.

"Не чапаю я нікога,
Не чапайце вы мяне..."

А можна й не шукаць у іх аніякіх падтэкстаў. Дый аўтары сьведчаць, што альбом разьлічаны ня столькі на дарослых зь іхным аналітычным розумам, колькі на дзяцей. Невыпадкова дыск "Я нарадзіўся тут" карыстаецца найбольшым посьпехам сярод дванаццаці-трынаццацігадовых. Менавіта таму Вайцюшкевіч запрасіў у "Цацачную краму" Ядвігу Паплаўскую, чый голас заўжды асацыюецца з "Калыханкай". І гэта можа стаць новым адкрыцьцём Паплаўскай для беларускай музыкі.

Паўз увесь альбом праходзіць узяты зь дзіцячых казак вобраз Гандляра Цацкамі, які сьпявае свае песьні на пачатку і пры канцы спэктаклю, а між песьнямі жывёлін прамаўляе маналёгі, напісаныя Драньком-Майсюком. Агучваў яго Вайцюшкевіч. Спачатку музыка хацеў запрасіць Віктара Манаева, які б прачытаў тыя тэксты прафэсійней і танчэй, аднак спужаўся фальшу, непазьбежнага, калі чытае адзін чалавек, а сьпявае іншы.

Гэткі страх перад фальшам увогуле тыповы для Вайцюшкевіча, які заўжды надзвычай сур'ёзна ставіцца да сваіх артыстычных абавязкаў. Ён цалкам аддаецца справе, якую робіць, – шчэ з тых часоў, калі ў Лідзкай музычнай вучэльні аваладваў мастацтвам ігры на клярнэце ды марыў пра паступленьне ў Санкт-Пецярбурскую кансэрваторыю. Або калі быў студэнтам Беларускага ўнівэрсытэту культуры і адначасова засвойваў сьпеўнае майстэрства ў Менскай музычнай вучэльні.

Ягоным настаўнікам быў Анатоль Баравікоў – адзін зь нямногіх беларускіх вакалістаў савецкай эпохі, які ўмеў укладаць сэнс у кожнае слова песьні. Ён не зрабіў кар'еры – у той час былі ў пашане моцныя й напорыстыя галасы, прыдатныя для сьпяваньня кантатаў пра Леніна на машэраўскіх канцэртах. Аднак сваіх вучняў Баравікоў выхоўваў у традыцыях асэнсаванага сьпеву. Ці не адсюль асаблівае, трапяткое стаўленьне да слова, якім Вайцюшкевіч прываблівае слухачоў?

Сваю артыстычную кар'еру ён распачаў у якасьці Санта-Кляўса, раздаючы дзецям калядныя падарункі ў падземным пераходзе на станцыі мэтро "Плошча Перамогі". Потым быў "Палац", першая фальклёрная экспэдыцыя па глухіх кутках Магілёўшчыны (фундавала гэтую экспэдыцыю Паўліна Сурвілла, дачка Старшыні Рады БНР), "Kriwi"... Простыя і стромыя сходы, якія ўвесь час вялі яго ўгару. На гэтым шляху Вайцюшкевіч спрабаваў сябе ўва ўсіх магчымых гіпастазіях – кампазытара, аранжавальніка, прад'юсэра, інструмэнталіста, вакаліста. І вось цяпер робіць свой першы цалкам самастойны альбом.

Многіх хвалюе, ці не азначае гэта, што "Kriwi" канчаткова разваліліся. З абывательскага пункту гледжаньня, яны *мусілі* развалiцца пасьля разводу паміж Вэранікай Кругловай і Зьмітрам Вайцюшкевічам. Цяперака ў Зьмітра – новая сям'я, нядаўна нарадзіўся сын, якому акурат і прысьвечана "Цацачная крама". Аднак асабістыя стасункі не ўплываюць на прафэсійную працу артыстаў. "Kriwi" яшчэ далёка ня вычарпалі свайго патэнцыялу, лічыць Вайцюшкевіч. Папросту музыкі шукаюць новых магчымасьцяў па-за рамкамі фольк-року і ствараюць собскія праекты – а потым вяртаюцца ў "Kriwi". Прыкладам, Вэраніка апошнім часам жыве ў Бэрліне і найахвотней сьпявае ў дуэце з Наташай Остэркарн – нямецкай сьпявачкай і піяністкай расейскага паходжаньня, якая спэцыялізуецца на расейска-цыганскім рэпэртуары. Тым часам Вайцюшкевіч у Менску выпускае беларускамоўны дыск для дзяцей, цікавы й для дарослых.

А чаго чакаць ад яго ў будучыні – ня ведае ніхто. У Вайцюшкевіча свой шлях, у які ён сьвята верыць. Шлях, незалежны ад прыхамацяў моды і капрызаў натоўпу. Бо толькі на гэткім шляху можна стварыць музыку, якую будуць купляць вечна.

**Юлія Андрэева**

**А Н О Н С**

**Перабольшаны Чарнобыль?**

Артыкул Барыса Тумара "Перабольшаны Чарнобыль" у "НН" №17 ад 25 красавіка выклікаў шматлікія водгукі мэдыяў і чытачоў. Адных, як адыёзнага тэлерэжысэра Азаронка, ён разьюшыў, іншых – напалохаў.

**Чарнобыльская статыстыка і чарнобыльская рыторыка – працяг тэмы ў наступным нумары "НН". З удзелам Сяргея Харэўскага, Барыса Тумара, Валер'я Грыцука, Мішэля Фэрнэкса, Лёрана Басэно.**

18.06.01 · ЦЭНТРАЛЬНЫ ДОМ АФІЦЭРАЎ · 19.00

КАНЦЭРТ

СУПОЛЬНЫ МУЗЫЧНЫ ПРАЕКТ




ПЛЯН ГЛЯДЗЕЛЬНАЙ ЗАЛЫ ЦДА
ПАРТЭР
БАЛКОН

Удзельнічаюць: KRIWI (рок-карона'1999), N.R.M. (рок-кароны'1997/2000), а таксама Аляксандр Памідораў, Жэня Любец і ВалерыяВаладзько (Сьвяты Вечар'2000), Сяргей Ахрамовіч (Народны Альбом), Аркадзь Бяляков (Палац) і іншыя.

новыя аўтарскія творы і апрацоўкі беларускай класікі

**АНОНС**

**Івонка Сурвілла**

**"СВАЯ ЎЛАДА РАНЕЙ ЦІ ПАЗЬНЕЙ ПРЫЙДЗЕ"**

Гутарка з Старшынёю Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з нагоды дзесяцігодзьдзя з моманту аднаўленьня "Нашай Нівы".

**Чытайце ў наступным нумары "НН".**

**БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА**

| ЧАС | kHz | ХВАЛІ | ЧАС | kHz | ХВАЛІ |
|---|---|---|---|---|---|
| 18:00 — 19:30 | 7295 | 41 | 22:00- 23:30 | 9530, 9750 | 31 |
| | 9610 | 31 | | 11865 | 25 |
| | 11725 | 25 | 06:00 — 07:00 | 6065 | 49 |
| | | | | 7295 | 41 |
| | | | | 9650 | 31 |

*Сярэднія хвалі — 576, 612 і 1188 KHz*

Адрас: 220005 Менск –5, п/с 111; Vinohradska 1, Praha 110 00 CZ

*Інтэрнэт: www.svaboda.org*

**НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!**

**Жарт**

Прыяжджае ў Менск Пуцін і, замаскаваўшыся, каб ніхто не пазнаў, ідзе на праспэкт. Падыходзіць да мужыка, пытаецца: "Ну што ў вас тут чуваць? Як Лукашэнка?" – "Ды жывы пакуль, – адказвае мужык, – але ўсе чакаюць".

**З.Б.**

**21-22 чэрвеня у клюбе «Тунэль» пройдзе *адборачны тур* БАСОВІШЧА'2001**

**За права паехаць на фэст будуць змагацца "Імпэт", "Галіна Бэзу", *Aquamorta*, *Happy Face*, "Правакацыя" (Менск), "Твар", *Per Nihil-Tohotos* (Горадня), "Мэтро" (Жодзіна), "БН" (Бяроза), "Анархасіс" (Столін) і інш. У канцэрце таксама возьмуць удзел зоркі айчыннага року.**



**Таксама адбудзецца прэс-канфэрэнцыя з удзелам прадстаўнікоў Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў – арганізатараў "Басовішча". Пачатак а 18-й. Кошт квітка 2000, на 2 дні — 3000. Даведкі, замова квіткоў, папярэдні продаж, акрэдытацыя й іншая інфармацыя: Пэйджэр: 211-85-85 (аб.БМА), т.: 249-08-88.**

**Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў аб'явіла таксама конкурс на лепшы плякат фэсту. Пераможца атрымае прэмію. Працы трэба дасылаць да 15 чэрвеня на адрас: Radyjo Racyja, Białystok, ul.Ciepła 1/7 (Plakat).**

**УБАЧЫМСЯ НА БАСОВІШЧЫ'2001**

Інфармацыя прадстаўленая БМАgroup.

## Лаўкі, у якіх прадаецца беларускамоўнае аўдыё ды відэа ў Менску

| ВІДЭА | CD | АЎДЫЁ | Лаўка | Час працы |
|---|---|---|---|---|
| ✓ | ✓ | ✓ | Шапік "Чмель" (падземны пераход на скрыжаваньні Багдановіча-Варвашэні) | Панядзелак - субота |
| ✓ | ✓ | ✓ | Выстава ТБМ (вул.Румянцава, 13 - ст.м."Плошча Перамогі", ля Лінгвістычнага ўнівэрсытэту; т.213-43-52) | Панядзелак - пятніца |
| ✓ | ✓ | ✓ | Сядзіба БНФ (вул.Варвашэні, 8 - ст.м. "Плошча Перамогі", прыпынак трамвая "Чырвоная"; т.284-50-12) | Панядзелак - субота |
| ✓ | ✓ | ✓ | Палац культуры МТЗ (ст.м. "Трактарны завод") | Штонядзелю з 7:00 да 14:00 |
| × | ✓ | ✓ | Шапік "Карона" (скрыжаваньне Сурганава-Коласа, прыпынак трамвая "вул.Хмяльніцкага") | Панядзелак - субота |
| × | ✓ | ✓ | Галерэя мастацтва (ст.м."Плошча Якуба Коласа") | Панядзелак - субота |
| × | ✓ | ✓ | "Белэкспа" (вул.Янкі Купалы) | Штосуботу |
| × | × | ✓ | Стэнд у пераходзе ст.м."Інстытут культуры" | Панядзелак - субота |
| × | × | ✓ | Кніжная выстава ў к/з "Менск" (ст.м."Першамайская") | Панядзелак - пятніца |

# ЭТНАПАТАЛЁГІІ СНОЎ

Ігар Бабкоў

*"Прагрэс мкне наперад,
а я паціху іду ўбок"*
*А.Клакоцкі*

У Архіве Клакоцкага ёсьць невялікі фонд, у якім сабраныя "этнапаталёгіі". Фонд гэты ніколі не карыстаўся асаблівай папулярнасьцю сярод дасьледнікаў, дый супрацоўнікі Архіву ня ставіліся асабліва сур'ёзна да гэтых трох тэчак ды стосу неразабраных папераў. Падчас пераездаў "этнапаталёгіі" звычайна грузілі апошнімі альбо ўвогуле забывалі ў якім-небудзь закутку. Тое, што яны захаваліся да нашага часу, — чыстая выпадковасьць.

Пачаўшы працаваць у Архіве, я таксама ня надта зацікавіўся гэтымі паперамі: за стагодзьдзе зь нечым тут назьбіралася і не такіх дзівосаў. Зрэшты, сьціплая пасада асыстэнта не вымагала веданьня ўсіх фондаў: дастаткова было арыентавацца ў трох-чатырох найбольш істотных зборах, астатняе, як тут казалі, — справа часу.

Час бег хутка і праз чатыры гады ў мяне выявілася прафэсійная хвароба ўсіх супрацоўнікаў АК — я пачаў шукаць адказ на загадку Архіву. Бо, нягледзячы на прыгожа выдадзены Каталёг, дзе расстаўленыя ўсе даты й акцэнты, пазначаныя ўсе вехі й названыя ўсе фонды, — у паўставаньні Архіву ёсьць нешта незразумелае, альбо, калі хочаце, ненатуральнае.

Архіў быў заснаваны Адамам Клакоцкім пры канцы пазамінулага стагодзьдзя; ягоная поўная і праўдзівая назва – *Беларускі Архіў Сноў*, скарочана БАС. Зрэшты, яшчэ пры жыцьці заснавальніка замацавалася назва *Архіў Клакоцкага*, а пасьля ягонай сьмерці супрацоўнікі, каб грамадзкасьць ня блытала іх са складальнікамі гараскопаў альбо соньнікаў, імкнуліся прылюдна не спасылацца на сны. Сама сыстэма Архіву паўстала яшчэ пры Клакоцкім і практычна не зьмянялася, адно што супрацоўнікі ўжывалі скарачэньні й розначытаньні, каб крыху прыхаваць сваё *соннае паходжаньне*. Так, адзінкай уліку ад самага пачатку быў *сон*, але праз скарачэньне **с.** ён ня розьніўся ад *справы*. Хіба адзінае, што вытыркалася, дык гэта падзел усіх фондаў на "аўтэнтычныя" і "дадатковыя". "Аўтэнтычныя" складаліся з уласна сноў, "дадатковыя" – з рэальных дакумэнтаў. Дасьледнікі, якія ўжо даўно працавалі ў Архіве, успрымалі гэта як даніну традыцыі, але той, хто трапляў туды ўпершыню, са зьдзіўленьнем знаходзіў у "аўтэнтычных" фондах сны Магдалены Радзівіл альбо сон вядомага паэта Лангбарда, які прысьніў сябе архітэктарам. Зрэшты, там былі й сапраўдныя пэрлы, кшталту невялічкай калекцыі сноў Міцкевіча альбо сну Ластоўскага падчас Парыскай канфэрэнцыі, перад тым як Антанта прызнала БНР. Я сам на другі год сваёй працы знайшоў сон Оскара Мілаша. Але ў большасьці сны былі не такія істотныя і, да сораму супрацоўнікаў Архіву, часам нават неаўтарызаваныя. Ва ўсім астатнім гэта быў звычайны архіў, з штодзённай, руціннай працай, выкананьнем запытаў, аўтарызацыяй і каталягізацыяй фондаў, мізэрнымі заробкамі й бясконцымі плёткамі ды інтрыгамі.

Такім чынам, я пачаў шукаць адказ на загадку Архіву. Зрэшты, незразумела было, у чым ёсьць сама загадка. Усе адчувалі, што з паўставаньнем Архіву ў рэчаіснасьць прарвалася і замацавалася ў ёй штосьці Іншае і гэтае Іншае цяпер відавочна спала, сьцішылася, чакаючы свайго часу. "Сны заснулі" – гэты калямбур быў надзвычай папулярным у мясцовых іраністаў, хаця ў самых "прасунутых" выклікаў зразумелую трывогу. Бо ў Архіве суіснавалі побач *розум і неразумнае*. Гэта неяк муляла і не давала сур'ёзна ставіцца да рэчаіснасьці ўвогуле. Мушу зазначыць, што сярод супрацоўнікаў Архіву быў хіба найбольшы працэнт будыстаў.

Навошта было зьмяшчаць на адной паверхні, у адной прасторы сны і рэчаіснае? Пра што думаў Клакоцкі, ствараючы свой Архіў? Адчувалася, што праўдзівая мэта, ці мэты, знаходзяцца недзе побач, схаваныя альбо зашыфраваныя ў адным з камэнтароў, прысьнёныя ў адным са сноў. Кожны супрацоўнік прайшоў праз гэтыя пошукі, а некаторыя, я ўпэўнены, дасюль лічаць, што ведаюць адгадку (ці загадку).

Звычайна высоўваліся розныя гіпотэзы. Самая банальная зь іх палягала на тым, што ўвесь Архіў — адзін вялікі сон Адама Клакоцкага. Зрэшты, сур'ёзна гэтую гіпотэзу ўспрымалі хіба нэафіты, а старыя супрацоўнікі карысталіся ёй дзеля ачмурэньня маладзенькіх асыстэнтак ("не хвалюйцеся, усё гэта вам толькі сьніцца").

Ключ быў відавочна ў тэкстах (альбо ў снах) самога Клакоцкага. Толькі яны маглі даць канчатковыя адказы альбо хаця б крыху прасьвятліць сытуацыю, ад цьмянасьці якой даўно стаміліся нават самыя ўпартыя шукальнікі.

У пошуках аўтэнтычных тэкстаў я і прыйшоў да пяці запыленых скрынак, да "этнапаталёгіяў". Мне пашчасьціла: неразабраны стос папераў належаў самому Клакоцкаму, гэта былі ягоныя камэнтары да справаў, а таксама фрагмэнтарныя нататкі, што тычыліся больш адцягненых рэчаў. Але пачну ад самага пачатку — ад справаў.

Паводле правілаў Архіву, нельга цытаваць дакумэнты, ня кажучы ўжо пра іхную поўную навуковую публікацыю. Права на гэта мае толькі ўладальнік дакумэнтаў альбо, калі няма ўладальніка ці ягоных нашчадкаў, чалавек, які перадаў дакумэнты ў Архіў. Але нішто не замінае (а статут Архіву папросту не забараняе гэтага) даваць ускоснае апісаньне справы, асабліва калі пры гэтым зьмяніць прозьвішчы, даты і канву падзеяў, пакідаючы, як любіў казаць Клакоцкі, "аголеныя сутнасьці".

........

Першая *справа* ананімная, напісаная (ці перапісаная) на вялікіх аркушах бляклай паперы нестандартнага фармату. У ёй распавядаецца пра шляхціца ўчцівага Стэфана Дастаеўскага, апекуна аднаго зь менскіх манастыроў, асобу ў вышэйшай ступені паважаную ў тагачасным менскім асяродзьдзі. Стэфан выконваў розныя даручэньні ўплывовых магнатаў, але ніколі не адмаўляўся прадстаўляць у гродзкім судзе й шараговага шляхціца. (У кнігах Менскага Гродзкага суду захавалася колькі справаў, якія ён вёў.) Пры канцы жыцьця Стэфан Дастаеўскі пачаў весьці дыярыюш, апісваючы цікавыя падзеі й здарэньні, сьведкам якіх ён быў. Пры канцы *справы* падаецца колькі ўрыўкаў з дыярыюшу, якія выклікалі цікавасьць Адама Клакоцкага.

Аднойчы Стэфан Дастаеўскі прысьніў сон. Нібыта бегаў ён п'яны з шабляй па Менскіх валох, лаючыся й пагражаючы мяшчанам, мніхам і розным выпадковым людзям. Сон быў надзвычай выразны, прачнуўшыся, Стэфан прыгадаў усё да апошняй драбніцы. Але самым жахлівым было адчуваньне немагчымага шчасьця, якое спадарожнічала гэтай прыгодзе. Такім шчасьлівым Стэфан не пачуваўся ані ў дзяцінстве, ані ў сталасьці, хаця ён імкнуўся весьці дабрачыннае жыцьцё і цешыўся той павагай, што спадарожнічала ягонай дабрачыннасьці.

Пасьля гэтага здарэньня жыцьцё Стэфана Дастаеўскага рэзка зьмянілася. Ён вярнуўся ў свой маёнтак у самым глухім закутку Палесься, дзе самотна бавіў цэлыя дні, не запрашаючы да сябе нікога. Яго бачылі ў самых розных месцах, ён хадзіў па лясох і балотах, выкрыкваючы рэзкія, гартанныя словы незнаёмай мовай. Яго баяліся й пазьбягалі. Хадзілі чуткі, што ён вывучае Кабалу. Таксама казалі, што ён пачаў прыходзіць у сны тамтэйшых жыхароў.

Ян Клакоцкі лічыў, што сапраўды так і было і што гэта Стэфан пэрыядычна сьніўся свайму далёкаму нашчадку, Ф.М.Дастаеўскаму, які памылкова прымаў яго за чорта. Менавіта пасьля такіх сноў Фёдар Міхайлавіч пісаў гнеўныя словы пра *жидов и полячишек* альбо браўся ўважліва вывучаць свой радавод.

## II

Другі сон апісвае незвычайнае здарэньне з рабі N. Аднойчы яму сасьніўся ягоны ненароджаны сын у чорнай скуранцы, зь пісталетам. Сын гучна сьмяяўся, лаяўся матам і друкаваў вершы пад псэўданімам *"Аристарх Леденящий"*. Рабі N. на наступны дзень разьвітаўся са сваякамі, закапаў Тору ў ціхім месцы і сышоў. Далей падзеі разгортваюцца досыць блытана, часам нагадваючы люстэркі й лябірынты *Тысячы й адной начы*: апісваюцца ягоныя падарожжы, сустрэчы й размовы, доўгія дыскусіі з хасыдамі... У сярэдзіне раптам паўстаюць тэалягічныя пытаньні. ...На жаль, менавіта гэты рукапіс моцна пацярпеў пры пераездах, і таму мы ня можам дакладна сказаць, чым скончылася гэтая гісторыя...

## III

Апошні сон датаваны пачаткам нашага стагодзьдзя. Мітрапаліту Сергію сасьнілася "голая рыба". Як праінтэрпрэтаваць гэты факт і чаму "голая рыба" трапіла ў фонд этнапаталёгіяў, зразумець цяжка. Яна (рыба) паводзіла сябе так ласкава й так непрыстойна, што стары паважаны мітрапаліт, які не без самазадаволенасьці (у якой каяўся) аглядаў сваё жыцьцё, ня вытрымаў і зьлёг з сардэчным прыступам. Пра свой сон ён распавёў толькі маладому паслушніку, адзінаму чалавеку, да якога меў пэўны давер і відавочную сымпатыю. Паслушніка гэты сон уразіў ня менш, чым самога мітрапаліта. Ён доўга спрабаваў зразумець, што такое "голая рыба", перапытваў Сергія, але той ня мог анічога дадаць.

Трэба сказаць, што паслушнік і насамрэч хацеў расшыфраваць сон, але яшчэ болей ён хацеў дапамагчы мітрапаліту, што згасаў літаральна на вачох. Паслушнік вывучаў розныя тэксты, ад звычайных соньнікаў да працаў Фройда, які тады толькі пачынаў набываць папулярнасьць. Але ўрэшце спыніўся на Сьвятым Аўгустыне. Як мы памятаем, Аўгустын доўга шукаў у гэтым сьвеце знакі боскасьці. І пасьля розных развагаў, якія мы прыводзіць ня будзем, ён прыйшоў да высновы: знак боскасьці ў гэтым сьвеце — у паразе чалавечага розуму, у абсурдзе.

Мітрапаліт Сергій памёр у глыбокім душэўным спакоі, зь ціхай і яснай усьмешкай.

* * *

Як мы бачым, усе тры сны маюць відавочны "паталягічны" каларыт.

А цяпер пра нататкі Клакоцкага.

Сам Клакоцкі пакінуў фрагмэнтарныя тлумачэньні, зь якіх можна зразумець, што сабраны матэрыял бачыўся яму як пэўны ўрок ці пэўнае пасланьне, а магчыма нават падыход да разгадкі некаторых таямніцаў, што так хвалявалі яго ўсё жыцьцё.

Уважліва прачытаўшы нататкі Клакоцкага, я перакanaўся, што яны апярэджвалі сваю эпоху і былі ў пэўным сэнсе адказам на шматлікія рэдукцыяніцкія ініцыятывы...

Паводле формы тэксты Клакоцкага — гэта фрагмэнты спантанных роздумаў, часам нават асобныя сказы, відавочна інсьпіраваныя этнапаталёгіямі. Гэтыя нататкі згрупаваныя ў дзьве тэмы.

Першая — тэма паверхні. Мы жывем на паверхні саміх сябе, успрымаем паверхню рэчаў, падзеяў і ў гэтым няма анічога дзіўнага. Бо наступны крок думкі палягае на тым, што за паверхняй пачынаецца доўгачаканая глыбіня, варта праламіць паверхню й мы абавязкова знойдзем сябе ў нечым абсалютна іншым: фантастычным, прыемным альбо, наадварот, жахлівым. Іншымі словамі, знойдзем сябе ў *unheimliche*. З нататак Клакоцкага зразумела, што ён трымаўся больш пэсымістычнага пагляду. Глыбіня, лічыў Клакоцкі, зусім не абавязковая. Насуперак прыхільнасьцям сваёй эпохі, ён ня верыў ані ў глыбіні, ані ва ўнівэрсальнасьць, ані ў агульначалавечыя праўды. Ён настойваў, што любое падваеньне сьвету — на глыбіні й паверхні, праўды й няпраўды, сутнасьці й вонкавасьці — непатрэбная даніна маніхейскім ілюзіям, і за адной паверхняй папросту пачынаецца другая, за другой трэцяя і гэтак далей: уся вычварнасьць гэтай думкі не адмяняе самой магчымасьці. Ёсьць толькі ўнікальнасьць, і ўсялякая спасылка на ўнівэрсальную праўду — гэта апэляцыя да паверхні абжытай і знаёмай, альбо, як ён яшчэ пісаў, — да *знаёмага твару*. Праўдзівае пытаньне, якое Клакоцкі задаваў сабе ў сваіх нататках, — што ж нам рабіць з гэтымі бясконцымі паверхнямі і ці ёсьць нейкі сэнс альбо сыстэма ў іхным чаргаваньні.

Другая тэма — уласна "этнапаталёгіі". Трэба адразу сказаць, што ў выбары слова няма аніякай пагарды, нават скепсысу, што да этнаграфічных захапленьняў ягонай эпохі. Клакоцкі сам браў удзел у большасьці "этнапаталягічных" праектаў свайго часу, а пад канец жыцьця слоўца "этнапаталёгія" сталася ягоным улюбёным тэрмінам, які ён ужываў зь відавочнай асалодай.

Зрэшты, мушу сказаць, што пад "этнапаталёгіямі" Клакоцкі разумеў пэўныя этнічныя скрыўленьні, узаемапранікненьні і ўзаемазамены — адным словам, пэўную крывізну, "няправільнасьць" мясцовай этнічнай прасторы. У гэтай частцы сьвету (у тэкстах Клакоцкі называў яе заўсёды Паўночнай Сарматыяй, але ў прыватных гутарках — Вялікім Шпіталем) няма нічога назаўсёды вызначанага: паклаўшыся спаць балтам — прачынаешся славянінам, выйшаўшы з дому палякам, вяртаешся немцам, з усіх бакоў табе спрабуюць патлумачыць, кім ты ёсьць і кім быць ня мусіш. Натуральна, што большасьць людзей здаровага клёку ад гэтага гармідару называе сябе "тутэйшымі". Клакоцкі, які цягам свайго жыцьця аддаў даніну польскім, літоўскім, жмудзкім захапленьням і ўрэшце спыніўся на беларушчыне, хацеў крыху зьмяніць пэрспэктыву: ён хацеў быць *адразу ўсімі*. "Пяць маіх твараў, як пяць люстэркаў, глядзяць у сьвет і ня бачаць..."

Аднак што значыць *быць усімі*?! Альбо ўсім. Як мы памятаем, толькі Бог *ёсьць усім*. Ці ня значыць гэта, што Адам Клакоцкі хацеў стацца Богам?

Мушу сказаць, гіпотэза, што *Адам Клакоцкі* — гэта насамрэч адно зь імёнаў Бога, таксама абмяркоўвалася, хаця, са зразумелых прычынаў, без асаблівага імпэту...

* * *

А цяпер пра галоўнае — пра загадку Архіву. Чаму менавіта сны былі выбраныя з патэнцыйна бязьмежнай разнастайнасьці фактаў чалавечае сьведамасьці? На адным з нумараваных аркушаў рукой Яна Клакоцкага выведзены сказ, надзвычай характэрны для тутэйшай мэнтальнасьці (я мяркую, ён належыць яму самому), які ўсё ставіць на свае месцы: "Тое, чаго няма, кранае мяне сваёй далікатнай адсутнасьцю".

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю



В.Быкаў. **Ваўчыная яма**. — Менск: ГА «Беларускае таварыства «Кніга»», 2001. — 264 с. — Наклад 2750 ас. ISBN 985-6605-05-9

*Аповесьць В.Быкава, напісаная ў 1998 г. у Фінляндыі й упершыню надрукаваная ў «НН», выдадзеная цяпер у фармаце кніжкі-малюты. Каштуе 2,8 т.р.*

М.Баразна. **Беларуская кніжная графіка 1960—90-х г.** / Маст. М.Баразна. — Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 2001. — 208 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-11-0901-6

*М.Баразна зрабіў комплексны дасьлед беларускае графікі ў сфэры мастацкае літаратуры. Аб'ект вывучэньня аўтара - кніга як мастацкі твор. Цана — 1,5 т.р.*

**Анталёгія беларускага народнага анэкдоту й жарту** / Укл., прадм. А.Фядосіка. — Менск: Ураджай, 2001. — 236 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0460-4

*Сабраныя жартоўныя гісторыі й показкі ад сяр. XIX ст. да цяпершчыны. Каштуе 750 р.*

**Анталёгія малодага верша** / Укл. А.Масарэнкі, прадм. Н.Гальпяровіча. — Менск: Ураджай, 2001. — 351 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0438-8

*У анталёгіі сабраныя вершы больш як дзясятка сучасных паэтаў. Каштуе кніга 1,1 т.р.*

**Анталёгія беларускай пародыі.** У 2-х ч. Ч.1. Паэзія / Укл., прадм. А.Кудласевіча. — Менск: Ураджай, 2001. — 415 с.: іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0440-X

Каштуе 1,6 т.р.

**Анталёгія беларускай пародыі.** У 2-х ч. Ч. 2. Проза / Укл., прадм. А.Кудласевіча. — Менск: Ураджай, 2001. — 223 с.: іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0441-8

*Каштуе 900 р.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

**Аднаўленай "Нашай Ніве" 10 гадоў. 10 гадоў маёй працы ў адроджанай "Нашай Ніве". Не люблю юбілеяў. Не было майго тэксту ў №1, не было ў №100. Не юбілейны я аўтар, бо сваёй прысутнасьцю псую ўрачыстасьці. Я — будзённы нашанівец, які любіць сябе ў "Нашай Ніве" й "Нашу Ніву" ў сабе. У якасьці падарунка дасылаю колькі жартаў, афарызмаў і грэгерыяў на апошнюю старонку першай беларускай газэты.**

# Тэлеграмы самому сабе

Адам Глёбус

Сярод вайскоўцаў ня знойдзеш аніводнай незаплямленай істоты.

Ня ты паміраеш ад інфаркту, а сэрца пасылае цябе к чорту.

Плягіят мае наступныя маскі: імправізацыя, варыяцыя, вэрсія й, нарэшце, акадэмічная школа ў нацыянальных традыцыях.

У тырана не бывае сяброў, бо найбліжэйшыя паплечнікі мараць яго забіць і раней ці пазьней прыбіраюць.

На ўсіх рэфэрэндумах задаецца толькі адно пытаньне... Жыць хочаш? Адказ запраграмаваны. А гэтыя: як? з кім? дзе? — малаістотныя дэталі.

Нельга прадаць адразу ўсё, у гэтым сутнасьць гандлю.

Грэшнік, які раскаяўся, усё адно застанецца грэшнікам, хай сабе й грэшнікам, які раскаяўся, які ня змог захаваць таямніцу паскуднага ўчынку. Пра гэта добра ведаюць дзяржава, паліцыя й царква, яны жывуць за кошт грэшнікаў, якія пакаяліся.

Надыходзіць час адрачэньняў, і варта адмовіцца ад зробленага, незалежна ад якасьці даробку.

Вера ў вечныя каштоўнасьці патрэбная дыктатару.

Калі ты гатовы ахвяраваць сабою, звычайна ня ведаеш, дзеля чаго; а калі ведаеш — не гатовы.

Усе гадзіньнікі, якія ходзяць, — кульгавыя.

Кентаўры — бяскрылыя дзеці Пэгаса й Музы.

Калі рвеш на шматкі чужынскі сьцяг, гэта не азначае, што ты шануеш свой.

На пасланьнях да Ўсявышняга аніводнага разу не сустракаў дакладнага ці хоць бы ўцямнага адрасу.

Не люблю, калі афарызмы робяцца падобнымі да алавяных салдатаў, а ў французаў гэта ледзь ня правіла.

Калі б вочы насамрэч былі люстэркамі душы, акулісты былі б айцамі царквы.

Каб стаць бацькам нацыі, напачатку варта пабыць яе каханкам.

Ёсьць народы бяз гімнаў, як і гімны без народаў.

У шыбеніц не бывае кветак, а плады ёсьць.

Спачатку хваробы прыходзяць і сыходзяць, а пасьля толькі зьмяняюць адна адну.

У большасьці найлепшых філёзафаў вельмі кепскі канец жыцьця, бо яны занадта лёгка знаходзяць апраўданьне сваім найгоршым учынкам, і ня толькі сваім.

## Прыватныя абвесткі



**У сувязі зь вялікім наплывам прыватных абвестак рэдакцыя не гарантуе, што Ваша абвестка будзе надрукаваная ў найбліжэйшым нумары. Калі маеце тэрміновую абвестку, падавайце яе ў платныя.**

**Рэдакцыя**

### *віншаньні*

**Вольгу Гурло** – з Днём нараджэньня! Зычым шчасьця, каханьня, зьдзяйсьненьня ўсіх мар і памкненьняў! Бацькі, родныя, сябры

**Настачка!** Сонейка! З Днём народзінаў. Расьці вялікай, будзь самай шчасьлівай, самай каханай!

**Мілую шаноўную** любую "Нашу Ніву" з пэўным днём нараджэньня!!! Зычым посьпехаў і жывучасьці! Мы любім цябе, "НН"! Бабруйская арганізацыя Маладога Фронту

**Прывітаньне СРМФ** і асабіста Андрэю Д. ад Вольнакраёўцаў

**Маня**, беларусачка наша сінявокая, з народзінамі цябе. Мы пераможам! Аматары піва

**Шаноўнага** Алеся Чыгіра віншуем з Днём нараджэньня! Зычым посьпехаў, каханьня, узаемапаразуменьня, недасягальнасьці для мянтоў. Бабруйскі МФ

**Кастусю!** Віншую зь вяртаньнем у родны горад. Менск — горад наш! Барыс

**Даражэнькі ты наш** шчырачок! Віншуем!!! Заставайся такім жа шчырым! Шчыракі

**Спадара Сянькевіча** віншуем з Днём народзінаў і зычым творчага плёну! Аднадумцы

**Юрка-братка!** Табе — "трыццатка"! Пара варушыцца! Дык жаніся! Добразычлівец

**Іванавіч!** Віншуем з Днём народзінаў! Зь цябе — "гумовік"! Карыфаны

**Віншую мілую** Алёну з Днём народзінаў. Здароўя, шчасьця. Я цябе кахаю. Муж Андрэй

**Аляксандра Еўдакімавіча** віншуем з Днём народзінаў. Здароўя, посьпехаў. Андрэй і Алёна

**Moj kachany**, vinšuju ciabie z Dniom narodzinaŭ i jubilejem. Maryjka

**Ž vialikim śviatam** ciabie, moj darażeńki. Dziakuj Bohu za ciabie. Maryjka

**Алеся Чыгіра** віншуем з народзінамі! Не абзубрыся. Будзем разам, будзем жывы, пераможам. Любім, паважаем. Калектыў "РБ"

**Мілы Алесю**, віншую цябе з Днём нараджэньня! Кахаю, буду разам да апошняга. Данута

**Даражэнькі татачка!** Віншую, цалую, абдымаю, люблю. Аліса

**Уся сям'я Ржэвуцкіх** віншуе Алеся Чыгіра з Народзінамі! Посьпехаў, цярпеньня, усяго добрага

**Алесю Чыгір!** Віншую! Жадаю нераўнівасьці, разуменьня, каханьня. Данута цябе кахае, не пакіне. Будзьце шчасьлівыя! Добразычлівая

**Зьмітру Доўгаль!** Віншуем цябе з народзінамі! Заставайся такім жа вясёлым, руплівым, сваім у дошку. Ты нам падабаешся. Калектыў "РБ"

**Зьмітра Доўгаля** віншую з! Сам ведаеш. Посьпехаў, аптымізму, усьмешак, каханьня! Пераможам. Маленькая Вар'ятка

**Зьмітра Марцуля-Берднікава** з тым жа (гл. Чыгіра й Доўгаля)!!! Аптымізму, менш прафэсійнай працы, шанцаваньня, каханьня (безь яго — нікуды). Калектыў "РБ"

**Шаноўную** Людмілу Іванаўну Родзікаву-Кокаш віншуем з Днём нараджэньня! Паслухмянасьці дзетак, грошай, цярплівасьці, руплівасьці! Калектыў "РБ"

**Шаноўныя нашаніўцы!** Навошта вы мяне абражаеце? Маленькая Вар'ятка пішацца зь вялікай літары абодва словы! Люблю! З днём нараджэньня! Маленькая Вар'ятка

**Шаноўны** Андрусю Дзенісевіч! Дасылаю табе падзякі за піва (смачнае), клёвую кампанію 27.05! Люблю! Цалую. Алёнка

**Спадару Міхельсон!** Прывітаньне з вашае гістарычнае радзімы. Хутка буду ў Горадні – пабачымся! Мыль, тэлефануй. Каханьня! Маленькая Вар'ятка

**Шаноўны спадару** Марат Клакоцкі, што дасылаў "НН" са Штатаў у Бабруйск дзяўчыне зь імем Алена. Дзякуй. Вельмі ўражаная клопатам. Прабачце, што раней не адгукалася. Калі хочаце трымаць нейкі кантакт ці даведацца нешта пра жыцьцё Бабруйску, лістуйце, буду вельмі рада: alonka2002@yahoo.com. Алёна

**Мілы мой Вітаўце!** Дзякую за каханьне да мяне. У мяне цяпер такія жахі тут, таму лісьцік, як толькі дапішу, – абавязкова дашлю. Кахаю, цалую. Маленькая Вар'ятка

**Даражэнькі мой** квадрацік! Трымайся там, не забывайся на мяне й хаця б крышачку адлачывай. Непакоюся за цябе. Люблю. Твой Квадрат

**Даражэнькая "БМ-ка"!** Люблю цябе, шаную, прапагандую. Можа як-небудзь падорыце ганаровы значак "БМ-шчыка" "I love "БМ"? Будзем супрацоўнічаць і надалей! Маленькая Вар'ятка

**Андрусю Сяркоў!** Зычу плённае працы перад дыплёмам і пасьпяховай абароны яго. Пераможам! Бабруйск з табой!!! Верым у цябе! Алёна

**Паўле Севярынец!** Зычу табе як мага меней трапляць у пастарункі ды як мага болей адлачываць і часам высыпацца. Маленькая Вар'ятка

### *ідэі*

**Змагайся за волю** Бацькаўшчыны! Арганізацыя "Край". Пэйджэр: (017) 249-00-00, аб. 7315. E-mail: spa_kraj@hotmail.com. Паштовы адрас: 220037, Менск, а/с 49

### *кантакты*

**Молімся разам** зь Янам Паўлам II 25.06 у Кіеве за Беларусь. Уніяты

### *кватэра*

**Прадам кватэру**. Тэлефанаваць з 21.00 да 24.00. 2 пакоі, Фрунзэнскі раён, 3-ці паверх, дамафон. Т.: 254-86-12 Сяржук

### *кнігі, музыка*

**Хутка ў Гомлі** зьявяцца відэафільмы "Матрыца" і "Пан Тадэвуш". Заяўкі праз т.: 45-11-41 (штодня)

**Дапамагу рэалізаваць** у Гомлі беларускую літаратуру (2-5 асобнікаў), CD і аўдыё. Т.: 45-11-51

**Набуду беларускую Біблію,** Эвангельле, духоўную літаратуру. Т.: 226-42-63

**Набуду аўдыёкасэты** "Стары Ольса", "Падарожжа", "Пашпарт грамдзяніна NRM", "Я нарадзіўся тут". Т.: (0222) 26-24-42

**Заказы на кнігу С.Адамовіча** "Турэмны дзёньнік". Т.: 277-16-49

**Набуду Тлумачальны слоўнік** беларускай мовы ў 5-ці тамах. Т.: 202-94-10

### *магнітафон*

**Набуду касэтны магнітафон** новы ці б/к у добрым стане, нядорага. Т.: 226-42-63

### *мовы*

**Ангельская, арабская мовы**: раблю пераклады, займаюся індывідуальна. Т.: 258-31-53

### *фундатары*

**Шукаем фундатараў** для рамонту клюбу. Т.: (01634) 4-98-29. Вёска Вялікая Сваротва пад Баранавічамі, Аляксандар

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________


# НЕПРЫГОЖАЯ "НАША НІВА" БЕЗ КАРЦІНАК?

**Калі Вы не падпішацеся, дык газэта заўжды будзе такая непрыгожая, бо ў яе ня будзе грошай на ілюстрацыі. Дык падпісвайцеся!**

**Падпісны індэкс 63125. Падпіска на месяц каштуе 929 рублёў.**

**ПАДПІШЫСЯ САМ, ПАДПІШЫ СУСЕДА І СУСЕДНЮЮ ШКОЛУ!**

***Гэта важна для Вас, гэта важна для газэты Вашай душы!***


**Прадаю:**
Кнігі — поштай: М.Раманюк "Беларускія народныя крыжы", З.Пазьняк "Глёрыя Патрыя", зб. тв. У.Караткевіча ў 8 т. і інш.
Вышлю каталёг: 220030 Менск- 30 а/с 195, Яну; janka_cit@yahoo.com; Тэл.: 258-43-54.

Ісус сказаў яму: "Я і дарога, і праўда, і жыцьцё. Ніхто не прыходзе да Айца, калі не церазь Мяне. Іаан. 14:6
**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**
Набажэнствы штонядзелю ў Менску а 10-й: Любімава 21-56. Т. 279-71-31, 270-89-87. Штонядзелю ў Асіповічах а 17-й: Леніна, 40. Т. 20-840. Штосчацьвер у Барысаве, Ватуціна 38-45. Т. 54-908; штосчацьвер у 17.30 у Маладэчне, Асіпенкі 54. Т. 3-18-76

Італьянец, 52/181/65, настаўнік, пяшчотны і чулы, б/дзяцей, б/шкодных звычак, шукае знаёмства зь незамужняй жанчынай гадоў 35-38, б/дзяцей і б/шкодных звычак, каб разам спакойна сустрэць будучыню. Англ./італ. мовы. Enzo Bonzi P.O.Box 33, via Corell, 44, 48018 Faenza (RA) Italia. e-mail: thuria@libero.it, (тэл. 97817, Дуброва)

Малады ліцьвін 168/54, уніят, бяз шкодных звычак, пяшчотны, лагодны, здольны да непарушнай вернасьці, з нацыянальна-кансэрватыўнымі поглядамі, перакананьнямі, пазнаёміцца з прыгожай дзяўчынай да 19 гадоў дзеля стварэньня нацыянальнай сям'і. Ты — пяшчотная! Сапраўдная лэдзі! Здольная да абсалютнай, непарушнай вернасьці!!! Добрая гаспадыня! Балбатушка, што загрузіць мне вушкі.
Просьба не турбаваць фэміністак, разьведзеных, асобаў зь левымі ці лібэральнымі поглядамі, з малым бюстам, слабым здароўем. А/с 9, Гомель-8.


У продажы зьявіліся альбом **"З новым годам!"** гурту **"Zet"** (на кампактах) і зборнік **"Легенды Вялікага Княства"** (на кампактах і касэтах).
**Шукайце на кропках і замаўляйце поштай!**


## Паштовая скрынка



**Анатолю Б. з Маладэчна.** Гэта якраз такая справа, пра якую лепей маўчаць. Бо дазнаюцца ўлады, усё спыняць. Мы пра Вашу справу напішам пасьля перамогі.

**Віктару Я. зь Менску.** Дзякуй за парады. Друкуем найлепшае з таго, што нам дасылаюць.

**Зьмітру М. зь Менску.** У Вас выйшаў нарыс не пра Беларусь праз 100 гадоў, а пра Беларусь сёньняшнюю. Лепей не замахвайцеся Вы на ўсю краіну, а напішэце, напрыклад, пра тое, якімі праз 100 гадоў будуць Васілішкі, або праспэкт Скарыны, або падручнікі па беларускай літаратуры XX ст.

**Сяргею С. з Ґорадні.** Пра суд і пракуратуру таксама цікавіць, але яшчэ пра "бобікаў" ня добра. Амаль усе факты ў Вашым артыкуле — не з жыцьця, а з радыё і газэтаў. Дык бессадрэчна, агітацыйна выходзіць. Пра ўсіх разам — і ні пра каго паасобку.

**Тацяне Дз. зь Віцебску.** Тэкст мэханічны. А пра нестаілічныя ўнівэрсытэты можна такое напісаць!.. Цэлы фэльетон або раман.

**В.Ж-у-Б-чу зь Менску.** На Вашы закіды сп.Букчыну можна адказаць словамі Івонкі Сурвіллы: «Бо Вы беларус і яна беларуска». Артыкул нам не прыдасца, бо напісаны па-расейску.

## КОШТЫ
**на платныя прыватныя абвесткі:**



— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 113 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 143 руб.
— аформленая абвестка — 71 руб. за кв.см.
— аформленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 94 руб. за 1 кв.см.

**За абвесткі пра сямейныя падзеі — зьніжка.**
Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.
Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763.
**На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**


**НАША НІВА**
**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**


© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.


6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 4602.
Нумар падпісаны ў друк 10.06.2001.
Замова № 3234.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а